# ЛіМ

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№4 (4548) 29 студзеня 2010 г.


## У нумары:





Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка на мінулым тыдні ўручыў ордэны і медалі. Сярод узнагароджаных — пісьменнік Алесь Савіцкі. “Гэтая ўзнагарода не мне, а нашаму пакаленню”, — гаворыць Алесь Ануфрыевіч, які атрымаў ордэн Францыска Скарыны.

“Наша пакаленне” для пісьменніка — гэта тыя, хто прайшоў Вялікую Айчынную вайну. Асабліва блізкія яму творцы, якія здолелі пра нялёгкія выпрабаванні напісаць праўду.

# Даў слова пісаць пра вайну

…У кожнага пісьменніка — свая дарога, свой лёс. Але ўсё залежыць і ад таленту, ад таго, колькі жыццёвага вопыту, назіранняў ён назапашвае ў сваім сэрцы, у сваёй душы. “Мой літаратурны лёс склаўся, я лічу, удала”, — заўважае Алесь Ануфрыевіч. І пацверджаннем таму служаць дзесяткі выдадзеных у Беларусі і за яе межамі кніг, узнагароды.

Свой першы твор (а гэта быў верш) Алесь Савіцкі напісаў у партызанскім атрадзе ў 1942 годзе. Было яму 18. “Я ляжаў паранены. Туга была. І верш склаўся ў выглядзе звароту да маці. Але старонкі згубіліся пасля”. Зразумела, ішла ж вайна. Куды там вершы ратаваць, калі з кожнага баявога задання можаш сам не вярнуцца жывым. Так адбылося з сябрам пісьменніка Мікалаем Паўлавым. Ён быў паранены ў адным з баёў. І ў вёску, дзе размяшчаўся атрад, прывезлі ўжо нежывога таварыша. Савіцкі ўкленчыў перад ім і заплакаў. Гэта была незваротная страта. Яму Алесь Ануфрыевіч прысвяціў другі верш, які таксама не збярогся.

“Гэта мая смерць чакала мяне там. І каб я пайшоў, гэтая смерць, відаць, і напаткала б мяне. А ёй падставіў грудзі Коля Паўлаў”, — з болем зазначае пісьменнік. Бо выпадкова не ўдзельнічаў ён у тую ноч у баі з ворагам.

Вайна для Алеся Савіцкага скончылася ў 1945 годзе, пасля ўзяцця Берліна. Малады чалавек вярнуўся ў родны Полацк. “За маімі плячыма стаялі чатыры гады вайны і восем класаў адукацыі”. З такім “багажом” Алесь Ануфрыевіч і прыйшоў працаваць у полацкую абласную газету “Бальшавіцкі сцяг”. А запрасілі яго на журналісцкую працу пасля таго, як напісаў успаміны пра сустрэчу Новага года ў партызанскім атрадзе. Рэдактару Давіду Каплуну надта спадабаліся тыя ўспаміны. Ён разгледзеў у пачаткоўцу талент. Спачатку Алесь Савіцкі працаваў у аддзеле пісем. Потым загадчыкам аддзела культуры. Праца ў газеце дазволіла аб’ездзіць усю Полаччыну. “Я пісаў нарысы пра хлебаробаў, пра лесарубаў. Пісаў, як аднаўляюцца вёскі, як з зямлянак у хаты перасяляюцца людзі”.



Калі Алесь Савіцкі ўзначальваў літаратурнае аб’яднанне пры газеце, то так захапіўся мастацкім словам, што ў 1953 годзе паехаў паступаць у Маскву ў Літаратурны інстытут. Але не было ў яго атэстата сталасці. Давялося экстэрнам здаваць у маскоўскай школе экзамены. У інстытуце нават атрымаў імянную стыпендыю імя Вісарыёна Бялінскага.

Са студэнцкіх гадоў пісьменнік прыгадвае, як выкладчык Артымонаў адпускаў іх з заняткаў, але з вельмі своеасаблівым заданнем: трэба было ісці на прыпынак грамадскага транспарту і адтуль “прынесці” найбольш яркі вобраз. Альбо выкладчык паказваў кнігу скаргаў. І студэнты толькі па адным сказе павінны былі стварыць вобраз чалавека, які напісаў скаргу.

Перад тым, як Алесь Савіцкі напісаў свой першы твор пра вайну, у яго выйшла ўжо некалькі кніг. “Я спрабаваў пісаць пра вайну раней. Садзіўся за стол. Пісаў два-тры радкі. А перада мной паўставалі тыя вогненныя гады. І я адступаў”.

У 1973 годзе пісьменнік, калі перайшоў толькі на творчы хлеб, даў сабе слова напісаць пра вайну ўсё, што сам перажыў. І праз тры гады выйшаў першы раман з трылогіі пра партызан. Ён называўся “Верай і праўдай”. Яшчэ праз два гады — раман “Літасці не чакай”, а там і трэці — “Памерці заўсёды паспееш”.

Асобную кнігу “Зямля не раскажа” пісьменнік прысвяціў беларускай жанчыне. У гады вайны менавіта на яе плечы лёг увесь цяжар жыцця. Партызану было лягчэй. У яго была зброя. Ён мог сябе абараніць. Гераіня рамана сустрэла вайну з чатырма дзецьмі на руках. Аўтар здолеў па-мастацку, але не адыходзячы ад сапраўднага чалавечага жыцця, апісаць лёс гэтай жанчыны. За вобразам стаялі сотні, тысячы такіх самых жанчын па ўсёй краіне.

Шмат твораў Алесь Ануфрыевіч прысвяціў людзям працы. Аповесць “Самы высокі паверх” распавядае пра будаўнікоў. За гэтую кнігу аўтара ўганаравалі прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі. Былі яшчэ “Кедры глядзяць на мора”, “Пасля паводкі”. Вёсцы прысвяціў раман “Палын — зелле горкае”.

“Дзе нашы творы пра герояў мужнай працы сёння? У першыя пасляваенныя гады, калі прысуджалася званне Героя Сацыялістычнай Працы, адразу ж з’яўлялася адпаведная кніжная серыя. Людзі працы заслугоўваюць, каб пра іх напісалі добрыя кнігі”, — упэўнены пісьменнік. І сапраўды, можа, варта ўзнавіць былыя традыцыі. Чаму пра розных мярзотнікаў, бандытаў пішуць тысячы кніг, а пра хлебаробаў, медыкаў ды людзей іншых прафесій з’яўляюцца асобныя творы, ды і тое вельмі рэдка?

Была ў пісьменніка і дзіцячая кніга. Трылогію, за якую Савіцкі атрымаў Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь, склалі казкі-аповесці “Нягоды і радасці залацістага карасіка Бубліка”, “Прыгоды Муркі”, “Прыгоды сабакі Лінды, Рыка і хлопчыка Жэнькі”.

На развітанне Алесь Ануфрыевіч паказвае некаторыя свае фотаздымкі. На адным ён з Васілём Быкавым, на другім — з Максімам Танкам. “Думаеце, я заўжды быў такім сівым?”, — пытаецца пісьменнік, які сёлета адзначыў сваё 86-годдзе. І паказвае фотакартку, з якой на мяне глядзіць чарнявы малады чалавек — загадчык аддзела культуры абласной полацкай газеты “Бальшавіцкі сцяг” Алесь Савіцкі.

А вось пра літаратурныя планы расказваць надта не хоча. “Ніколі не расказвай тое, пра што пішаш. Бо не спраўдзіцца, — прыводзіць словы Васіля Быкава Алесь Ануфрыевіч. — Пакуль мне дазваляюць мае гады і здароўе, стараюся працаваць. Я думаю, што не ўсё яшчэ напісаў пра партызан, нашых слаўных народных мсціўцаў”.

Сяргей МАКАРЭВІЧ

На здымках: Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўручае Алесю Савіцкаму ордэн Францыска Скарыны; Алесь Савіцкі і Анатоль Грачанікаў каля Сафійскага сабора ў Полацку (1977 год).

Фота БелТА і з архіва Алеся Савіцкага



## Пунктірам

• Беларусь і Францыя падпісалі пагадненне паміж урадамі дзвюх краін аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, адукацыі, навукі і тэхнікі, сродкаў масавай інфармацыі, паведаміла БелТА. Адбылося гэта падчас візіту беларускай урадавай дэлегацыі ў Францыю. Дакумент стварае прававую аснову для пашырэння супрацоўніцтва паміж краінамі і павінен садзейнічаць далейшаму ўмацаванню двухбаковых кантактаў, што, безумоўна, паспрыяе больш глыбокаму ўзаемнаму вывучэнню гісторыі і культуры дзвюх дзяржаў. Да слова, французскія кнігавыдаўцы запрошаны ў якасці ганаровых гасцей на XVII Мінскую міжнародную кніжную выставу-кірмаш, якая пачне сваю працу 10 лютага.

У 2010 годзе запланавана правядзенне Дзён беларускай культуры ў шэрагу краін бліжняга і дальняга замежжа. Пра гэта паведаміў начальнік аддзела міжнародных сувязей Міністэрства культуры Беларусі Міхаіл Кажура. Сярод краін — Арменія, Венгрыя, Казахстан, Літва, Украіна. А ў Расіі ў сакавіку распачынаецца Год культуры Беларусі. Мерапрыемствы, прысвечаныя гэтай падзеі, працягнуцца да лістапада. Акцыя станецца адказам на леташні Год культуры Расіі ў Беларусі.

• Працу над беларускім серыялам для дзяцей плануецца пачаць у маі 2010 года. Праект будзе рэалізоўвацца ў Мінскай кінашколе-студыі паводле сцэнарыя Андрэя Курэйчыка і Андрэя Карэліна. Пакуль ідзе вырашэнне тэхнічных пытанняў. Хутка пачнецца адбор дзяцей на галоўныя і эпізадычныя ролі. Пасля гэтага маркуецца правесці з юнымі акцёрамі заняткі на базе школы. Мінская кінашкола-студыя была створана летась рэжысёрам Андрэем Палупанавым. Галоўны яе клопат — павелічэнне ў краіне колькасці малабюджэтных фільмаў.

• Выстава жывапісу і графікі Уладзіміра Тамашэвіча працуе ў Маладзечанскай абласной бібліятэцы імя Максіма Багдановіча. На ёй прадстаўлены творы, напісаныя мастаком на працягу апошніх двух гадоў. "Марозная вёска", "Веснавая ўзрушанасць", "Адліга пасярод зімы", "Блуканне ў лесе", "Млявасць восені". Шмат карцін прысвечана менавіта восені. "Гэта самая лепшая пара для мяне, калі выяўляюцца ўсе пачуцці прыроды, яе насычанасць, драматызм і прыгажосць", — кажа Уладзімір Тамашэвіч.

• Да 80-годдзя сусветна вядомага празаіка і паэта Уладзіміра Караткевіча будзе неўзабаве перайменавана адна з вуліц Рагачова. Такое рашэнне, улічваючы пажаданні тутэйшых жыхароў, прынялі мясцовыя ўлады. Ужо праводзіцца адпаведныя юрыдычныя працэдуры. Як вядома, Рагачоў займаў асаблівае месца ў творчасці класіка беларускай літаратуры, карані якога з боку маці напрамую звязаны з гэтым горадам. Пісьменнік часта прыязджаў сюды да сваякоў, падоўгу гасцяваў і плённа працаваў. Менавіта тут напісаў такія творы, як раманы "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Каласы пад сярпом тваім", аповесць "Чазенія".

Падрыхтавалі Павел РАДЫНА і Бажэна СТРОК

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Будзе свая друкарня

Адбылося першае ў гэтым годзе пасяджэнне прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі. Адкрываючы яго, старшыня СПБ Мікалай Чаргінец павіншаваў пісьменніка-ветэрана, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алеся Савіцкага з узнагароджаннем ордэнам Францыска Скарыны.

Мінулы год стаўся насычаным, адзначыў Мікалай Іванавіч, даводзілася рашаць шмат бягучых праблем. Багатым на падзеі абяцае быць і 2010-ы. Сярод шматлікіх пытанняў парадку дня значылася зацвярджэнне плана працы Саюза пісьменнікаў Беларусі на гэты год. Асноўныя яго кірункі — дзейнасць па прапагандзе літаратуры, работа з маладымі аўтарамі, удзел пісьменнікаў у падрыхтоўцы і святкаванні 65-годдзя Вялікай Перамогі. Прыкладна ў сакавіку плануецца правесці пленум СПБ "Подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне на старонках літаратуры". Грунтоўны даклад на гэтую тэму рыхтуе акадэмік НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў.

Плануецца павялічыць аб'ёмы выдання кніг, адна з магчымых крыніц — больш шчыльнае супрацоўніцтва з недзяржаўнымі выдавецтвамі. У бліжэйшы час адбудзецца сумеснае пасяджэнне з кіраўніцтвам выдавецтва "Харвест". Супольныя праекты з гэтай арганізацыяй, выданні "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі", серыі сучаснай беларускай фантастычнай і прыгодніцкай прозы набываюць усё большую папулярнасць.

Мікалай Чаргінец звярнуў увагу на дзейнасць кнігагандлёвых арганізацый, якія апынуліся ў досыць складаным становішчы з-за павелічэння арэнднай платы за памяшканні. Зараз урадам краіны аналізуюцца спісы арганізацый, якія займаюцца сацыяльна-значнай дзейнасцю, і будзе падрыхтаваны адпаведны праект нарматыўна-прававога акта, які прадугледзіць пашырэнне пераліку суб'ектаў гаспадарання, для якіх пры выплаце арэнднай платы прымяняецца паніжаючы каэфіцыент. У пералік увойдуць і кнігагандлёвыя прадпрыемствы. Пасля падрыхтоўкі дакумента ў Савеце Міністраў ён будзе ўнесены на разгляд кіраўніку дзяржавы.



Рашаліся таксама пытанні ўдзелу СПБ у XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, увекавечання памяці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, паэта Петруся Макаля. Прапануецца ўстанавіць мемарыяльную дошку на доме па Лагойскім тракце ў Мінску, дзе жыў творца, таксама назваць яго імем адну са сталічных вуліц. Стала вядома і пра рашэнне аб прадастаўленні СПБ дадатковых плошчаў у памяшканні па вуліцы Фрунзе, 5 — пад друкарню і кнігасховішча. Што да друкарні, то яна плануецца быць малатыражнай, у асноўным — з мэтай выдання кніг пісьменнікаў-ветэранаў і маладых аўтараў.

На пасяджэнні прэзідыума быў зацверджаны савет Літфонда і яго папячыцельскі савет. Традыцыйнае для пасяджэнняў прэзідыума СПБ пытанне — прыём новых членаў. У Саюз пісьменнікаў Беларусі прынятыя: Аляксандр Быкаў, Марына Калашнікава, Алена Прахіна, Аляксандр Эйпур, Гардзей Шчаглоў, Сяргей Гіргель.

Ірына ТУЛУПАВА

Фота Кастуся Дробава

## Хойнікі-2010

# Акцэнты — сучасныя

Сёлета ўдзельнікаў Дня беларускага пісьменства будзе сустракаць горад Хойнікі Гомельскай вобласці. Як рыхтуюцца да свята горад і раён? Якія культурныя і духоўныя набыткі гэтага куточка нашай Радзімы ў айчынным прыгожым пісьменстве?

Сёння пра гэта расказвае дырэктар Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Хойніцкага раёна Наталля Ешчанка.



— Цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма Хойнікшчыны ўключае ў сябе 25 бібліятэк. У горадзе 5 бібліятэчных устаноў, у сельскіх населеных пунктах — 20, з іх 3 бібліятэкі-клубы, 5 — у аграгарадках. Сёння ў сістэме 10492 чытачы, з іх 3550 — дзеці. Калі зыходзіць з таго, што насельніцтва раёна цяпер складае 23 тысячы, то чытачом бібліятэк з'яўляецца практычна кожны другі чалавек.

— Наталля Уладзіміраўна, як фарміруюцца фонды бібліятэк, наколькі якасна праходзіць іх абнаўленне?

— Адзначу, што 15-працэнтны нарматыў, вызначаны для камплектавання бібліятэк, намі выконваецца. З бюджэту раёна ў 2008 годзе было выдаткавана 73 мільёны рублёў, закуплена 7485 экземпляраў кніг. Летась набыта 1885 экземпляраў. Значную ўвагу надаём беларускамоўным выданням, для чаго актыўна супрацоўнічаем з выдавецтвамі "Мастацкая літаратура", "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", "Беларусь", "Вышэйшая школа", РВУ "Літаратура і Мастацтва". Папулярнасцю сярод чытачоў карыстаюцца кнігі "100 асоб беларускага спорту", "Зямля сілы" (пра Белавежскую пушчу), "Архітэктура Беларусі" — яны маляўніча аформлены і ўтрымліваюць многа пазнавальнай інфармацыі. Не залежваюцца на паліцах выбраныя творы К. Чорнага, І. Мележа, А. Куляшова.

— Партрэт вашага чытача, як можаце яго ахарактарызаваць?

— Асноўная колькасць чытачоў — людзі сярэдняга ўзросту, дзве трэці з іх — жанчыны. Многа чытаюць пенсіянеры. Шмат у бібліятэках моладзі, асабліва тых, хто вучыцца. Інтарэс да класікі таксама ёсць. Не змяншаецца попыт на гістарычную літаратуру.

Да таго ж, у апошні час бібліятэкі сталі сацыякультурнымі цэнтрамі. У Цэнтральнай раённай бібліятэцы працуе цэнтр прававой інфармацыі, пастаянна абнаўляюцца фонды прававой літаратуры. Нашых чытачоў запрашаем на кніжныя выстаўкі, якія арганізоўваюцца да памятных дат у жыцці нашай краіны, да юбілеяў беларускіх пісьменнікаў.

— Наталля Уладзіміраўна, у складзе хойніцкай дэлегацыі вы прысутнічалі летась на Дні беларускага пісьменства ў горадзе Смаргоні. Падзяліцеся, калі ласка, сваімі ўражаннямі. Што маркуецца зрабіць у сферы вашай дзейнасці да свята сёлета ў Хойніках?

— Было відавочна, што людзі ўклалі ўсю душу ў добраўпарадкаванне горада. Пра сваё ўражанні скажу так: было прыгожа, кранальна, запамінальна.

Да Дня беларускага пісьменства ў нашым горадзе Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмай запланаваны цыкл мерапрыемстваў. Гэта, у прыватнасці, распрацоўка сцэнарыяў пра жыццё і творчасць нашых землякоў-літаратараў, правядзенне адпаведных кніжных выставак. Рыхтуемся адзначыць юбілей паэтэсы, ураджэнкі вёскі Небытаў, Алы Канапелькі.

Гутарыла Клаўдзія БОСАК

На здымку: бібліятэкары Цэнтральнай раённай бібліятэкі Тацццяна Кардаш і Таццяна Бордак.

Фота аўтара

## Ініцыятыва

# Ад прадзедаў…

Адзіны на Ваўкавышчыне музей народнага побыту працуе ў вёсцы Шусцікі

Пра стварэнне ў сельскім клубе музея Станіслаў і Зоя Жукі марылі даўно. Сапраўдныя майстры сваёй справы, аддання ніве культуры. Яны не першы год шчыруюць для землякоў гэтай маляўнічай вёсачкі. Станіслаў загадвае клубам, побач працуе і Зоя.

Калекцыю экспанатаў, разнастайных прылад адвечнай сялянскай працы дапамагалі збіраць мясцовыя жыхары. На працягу многіх гадоў вяскоўцы захоўвалі сапраўдныя рарытэты, якія перадавалі з пакалення ў пакаленне. І вось развітушку, сукала, прасніцу, глянцаваныя жбаны ды шмат што іншае можна пабачыць цяпер у клубе-музеі.

— Станіслаў і Зоя, — гаворыць дырэктар раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці Галіна Чарапок, — прэзентавалі на адкрыцці музея гульнёвую забаўляльную праграму "Сцяжынкамі роднага краю", у якой актыўнічалі і вяскоўцы, і госці. Было незвычайна цікава і весела. Па запрашэнні начальніка ўпраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама Аляксандра Лойкі разам з ім з Беластока ў Шусцікі наведаліся прафесар-беларусазнавец Мікалай Сынэўскі з сястрой Верай і дачкой Аксанай, якая захапляецца беларускай мовай. Госці з Польшчы былі ўражаны ўбачаным, у захапленні ад таго, што нават у невялікай беларускай вёсачцы ўдаецца захаваць гістарычную спадчыну, зберагчы народныя традыцыі.

Галіна РАМАНЧУК

## Вытокі

# Падлессе, з песняй заручонае

Зусім нядаўна Падлескі народны хор, што ў Ляхавіцкім раёне, адзначыў сваё сямідзесяцігоддзе. Ганаровы юбіляр атрымаў шмат шчырых і сардэчных віншаванняў ад розных устаноў культуры, грамадскіх арганізацый.

Стварэнне хору, яго станаўленне цесна звязана з імем народнага артыста БССР Генадзя Іванавіча Цітовіча. Завітаўшы аднойчы ў вёску Падлессе, ён пазнаёміўся з роднымі сёстрамі Верай і Вольгай Федчык, якіх прырода шчодра надзяліла прыгожымі галасамі, неадольным жаданнем спяваць. У гутарцы высветлілася, што такімі здольнасцямі валодаюць многія маладыя дзяўчаты і жанчыны паселішча. Асабліва вылучаліся Валянціна і Марыя Пранчвічы, Таццяна Шахмуць, Марыя Ксенжык і Алена Бецiна. Спявалі яны на ўрачыстасцях і на зімовых вячорках пад акампанемент калаўротаў, вяртаючыся з поля ці сенажаці. Генадзь Іванавіч быў прыемна здзіўлены ўлюбёнасцю падляшан у песеннае мастацтва, добраму веданню народных матываў. Гэтая акалічнасць і навяла майстра на думку стварыць у Падлессі хор. Па сутнасці ядро калектыву склалася з тых жа звонкагалосых Веры і Вольгі Федчык, Валянціны і Марыі Праневіч і Таццяны Ксенжык.

У хор запісаліся цэлыя сямейныя дынастыі. Першыя выступленні на клубных падмостках у Баранавічах, Ляхавічах, Навагрудку і Ганцавічах гледачы сустракалі цёпла. Гэта радавала калектыў, падбадзёрвала. З кожным канцэртам расло, удасканальвалася выканаўчае майстэрства. Генадзь Іванавіч, як бы ні быў заняты, знаходзіў час, каб прыехаць, папрысутнічаць на рэпетыцыях, даць самадзейнаму калектыву параду, дапамагчы яму ўласным аўтарытэтам. А калі часам нядужылася ці іншая прычына прымушала застацца дома, Генадзь Іванавіч тэлефанаваў падлескім культасветработнікам, прапаноўваў уключыць навінку, знойдзеную ім у чарговай вандроўцы ці вычытаную ў якім-небудзь літаратурна-музычным выданні. Ён свята верыў у добрую перспектыву хору. Пазней самабытны калектыў з палескай глыбінкі запрасілі ў Маскву на Усесаюзны конкурс мастацкай самадзейнасці, дзе ён атрымаў высокую ацэнку журы і гледачоў. Канцэртная зала імя Чайкоўскага апладзіравала падляшанам стоячы. Аб тым іх поспеху пісала нават газета "Правда". Удзельнікі хору настолькі паланілі сэрцы масквічоў, што праз некаторы час іх зноў запрасілі ў Маскву. У сваю чаргу ў Падлессі некалькі разоў гасцяваў праслаўлены рускі народны хор імя Пятніцкага і пакінуў у сэрцах незабыўныя ўражанні.

Фёдар ЛАПАНІК

# Што гэта звініць, Хатынь?..

## Літ-абсягі

Пад знакам сумеснай акцыі газеты "Звязда" і Дзяржаўнага мемарыяльнага комплексу "Хатынь" пабачыла свет кніга Таццяны Падаляк "Нашчадкі вогненных вёсак". Выпуск выдання ажыццёўлены па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.




Падзеі Вялікай Айчыннай вайны зусім блізка ад нас. І не толькі таму, што Беларусь была ў эпіцэнтры велізарнейшай трагедыі ХХ стагоддзя. Відавочна, актуальнасць праблематыцы вайны і міру надае і сённяшні характар жыцця, запоўненага гвалтам, здзекамі з чалавека, ды ўсялякага роду антыгуманнымі дзеяннямі тых, хто імкнецца ўтрымліваць уладу і гаспадарыць дзякуючы самым розным сродкам узбраення. Некаторы час таму газета "Звязда" звярнулася да сучаснікаў з просьбай расказаць пра асабіста перажытае ў віхуры вайны альбо вядомае з вуснаў сваіх папярэднікаў пра трагедыі спаленых вёсак Беларусі і яе жыхароў. Адгукнуліся многія. Успаміны аказаліся балючымі для іх аўтараў і не меней балючымі для чытачоў. Адна публікацыя падштурхоўвала да другой. Адбылася своеасаблівая пераклічка людзей, якія размаўлялі на адной хвалі, на адной мове. Галасы апошніх сведак выклучалі тое, што нельга прыдумаць, а часам і немагчыма ўявіць, калі не сутыкаўся з фашысцкім зверам. "Нас палілі на Радаўніцу", — расказала Фаіна Анасовіч пра вёску Боркі Вілейскага раёна; "На пажарышчах дыміліся недагарэлыя трупы людзей...", — сведчыла Ганна Браткоўская з вёскі Беразінец Слуцкага раёна; "Ад брацікa застаўся толькі попел... Я не вытрымаў, страціў прытомнасць", — гэта з успаміну Васіля Сакаўца з вёскі Боркі Кіраўскага раёна; "Мае сяброўкі-аднагодкі загінулі, як растаптаныя кветачкі...", — словы Дануты Шаўлоўскай з вёскі Янушкавічы Валожынскага раёна.

Таццяна Падаляк за публікацыі ў "Звяздзе" пра спаленыя вёскі, лёсы іх жыхароў адзначана спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. А сёння новай адзнакай актуальнасці і значнасці грамадскага публіцыстычнага праекта можна назваць і выданне кнігі ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". У дадатку да кнігі — спісы паселішчаў, знішчаных гітлераўцамі разам з жыхарамі і не адноўленых пасля Вялікай Айчыннай вайны. Эмацыйны запал узмацняюць і пранізлівыя, пякучыя радкі пра Хатынь і Дальву беларускіх паэтаў Петруся Броўкі, Анатоля Вярцінскага, Уладзіміра Карызны і народнага паэта Таджыкістана Саідалі Мамура ў перакладзе Міколы Аўрамчыка. "...Што гэта звініць, Хатынь? / Што значыць тваіх каміноў перазвон? / Гэта звініць твой вечны сон? / Ці, можа, у гэтым звоне — / вечнае бяссонне?"

Кастусь ХАДЫКА

# Рыцар мастацтва

## Арт-лінія

Споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Шаліхіна, выдатнага піяніста-канцэртмайстра, дыктара радыё і тэлебачання, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

Шчодра адораны талентамі, ён, выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, сам казаў, што мог быць і спеваком, і дырыжорам, і піяністам. Шаліхіну было цікава ўсё, што датычыла сапраўднага мастацтва.

У 1968 годзе пад уласны акампанемент Уладзімір Шаліхін даў два канцэрты ў Доме работнікаў мастацтваў. У першым спяваў старадаўнія рамансы, у праграме другога вечара былі песні з вакальных цыклаў Ф. Шуберта і Р. Шумана, рамансы С. Рахманінава і М. Балакірава.

На працягу 18 гадоў У. Шаліхін акампанаваў студэнтам-вакалістам, столькі ж часу быў дыктарам на радыё, а ў 1970 годзе стаў дыктарам Беларускага тэлебачання. Адначасова працаваў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, дзе пачынаючы з 1951 года правёў больш як 11 тысяч канцэртаў. Уладзімір Шаліхін — аўтар і вядучы 25 радыёперадач з цыкла "Выдатныя майстры сусветнага музычнага мастацтва", удзельнік IV Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага ў Маскве (акампанаваў спеваку Валерыю Кучынскаму, які стаў тады лаўрэатам. — Рэд.). Яго голас вядомы амаль кожнаму жыхару Беларусі.

Уладзімір Аляксеевіч, чалавек з глыбокімі ведамі і шырокім кругаглядам, бліскуча валодаў дарам імправізацыі, быў, іншым разам, і аўтарам, і нават рэдактарам адначасова, таму што большасць радыё- і тэлеперадач ён вёў у жывым эфіры.

Вельмі сціплы, інтэлігентны Уладзімір Аляксеевіч Шаліхін гаварыў: "Напэўна, я ўсё ж такі музычна адораны дыктар і вядучы канцэртаў. Але жыццё падарыла мне сустрэчы з самымі таленавітымі майстрамі сусветнага мастацтва". І сапраўды, у яго калекцыі аўтографаў выдатных музыкантаў, спевакоў, акцёраў, дырыжораў, кампазітараў, танцораў такія гучныя імёны, як Ларыса Александроўская, Іван Казлоўскі, Дзмітрый Шастаковіч, Мсціслаў Растраповіч, Барыс Штокалаў, Лаліта Торэс, Галіна Уланава, Марыя Калас, Мая Плісецкая. Ім прысвячаў і свае артыкулы. А ў 2000 годзе ў выдавецтве "Чатыры чвэрці" выйшла яго кніга "Сэрца памятае..."

У 2003 годзе ў Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Аляксеевічам Раманавым быў перададзены архіў Уладзіміра Шаліхіна, у якім утрымліваецца шмат фотаматэрыялаў, ліставанне, дакументы і асабістыя рэчы. Архіў вельмі цікавы і чакае свайго даследчыка. Частка яго ўжо экспанавалася ў нашым музеі да 75-годдзя Уладзіміра Аляксеевіча. Да сёлетняй юбілейнай даты створана новая выстаўка. Яна экспануецца ў філіяле музея "Гасцёўня Уладзіслава Галубка", што ў Траецкім прадмесці.

Таццяна МЕЛЬНІКАВА,
вучоны сакратар
Дзяржаўнага музея
гісторыі тэатральнай
і музычнай культуры Беларусі



На здымку: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Шаліхін.

Фота з архіва музея

# Валагодчына — Мінск: літаратурнае пабрацімства

## Повязі

У Волагдзе пабачыў свет чарговы нумар літаратурна-мастацкага часопіса "Вологодский ЛАД", у якім істотнае месца займаюць творы беларускіх пісьменнікаў.




І гэта не першая сустрэча чытачоў аўтарытэтнага выдання з радзімы Васіля Бялова з сучаснай прозай, паэзіяй Беларусі. Яшчэ ў 2007 годзе быў выпушчаны ў свет "беларускі нумар" "Вологодского ЛАДа". А цяпер у Расіі прадстаўлены ў перакладзе на рускую мову творы Алеся Бадака (аповесць "Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца" пераклала на рускую мову Ірына Шаўлякова), Леаніда Левановіча, Раісы Баравіковай, Міколы Мятліцкага, Міколы Чарняўскага. З рускамоўнай літаратурай Беларусі валагодцы знаёмяцца па прозе і паэзіі Сяргея Клімковіча, Алега Ждана, Юрыя Сапажкова. Вядомы беларускі літаратуразнаўца і перакладчык, доктар філалагічных навук Іван Чарота выступае з артыкулам "Косаўская бітва працягваецца".

— Мы спадзяёмся, што і гэтай сустрэчай з сучаснай беларускай літаратурай, — дзеліцца сваімі развагамі галоўны рэдактар часопіса Андрэй Сальнікаў, — будзе выбудоўвацца трывалая лінія нашых стасункаў. Валагодскай дэлегацыі пашчасціла ў 2007 годзе ўдзельнічаць у Дні беларускага пісьменства ў Барысаве. Мы знаёмы з многімі пісьменнікамі Беларусі. Яшчэ раней мы надрукавалі творы Анатоля Казлова, Андрэя Федарэнкі. У партфелі рэдакцыі "Вологодского ЛАДа" — апавяданні Алеся Наварыча, Сяргея Трахімёнка, вершы Валянціна Лукшы, Уладзіміра Карызны, Навума Гальпяровіча, Валянціны Паліканінай, Тамары Красновай-Гусачэнкі, Андрэя Скарынкіна... Нас, нашага чытача цікавяць і гісторыка-літаратурныя матэрыялы, краязнаўчыя нарысы, якія расказвалі б пра Беларусь. Ваша родная старонка — і нам блізкі свет. Таму хацелася б сябраваць літаратурамі... Дарэчы, гэты год мог бы стаць падставай для больш шырокага прадстаўлення на Валагодчыне творчасці пісьменнікаў-франтавікоў у нашым літаратурна-мастацкім часопісе. А гэта, наколькі я мяркую па сваім веданні беларускай прозы, паэзіі, не толькі аповесці Васіля Быкава, не толькі вершы Аркадзя Куляшова, але і паэтычныя і празаічныя творы Аляксея Пысіна, Алеся Савіцкага...

Праекты валагодскіх арганізатараў літаратурна-мастацкага жыцця радуюць надзеямі на пашырэнне прасторы беларускай літаратуры ў Расіі, дзе па традыцыі ўмацоўвалася і перакладчыцкая школа, звязаная з паэзіяй і прозай Беларусі. Мажліва, цэнтры яе, асяродкі зараз сфарміруюцца не толькі ў Маскве і Санкт-Пецярбургу, але і ў рэгіёнах. Прыкладам, і ў Волагдзе таксама. Тым больш, што ёсць дзе будучым перакладам і быць надрукаванымі.

Мікола БЕРЛЕЖ

## 3-пад пяра

У серыі праектаў "Прыватная калекцыя" ў Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва працуе выстаўка "Крыху пра Валяр'яну Жолтак", прымеркаваная да 90-годдзя з дня нараджэння мастачкі. "Крыху..." — таму што таленту Валяр'яны Канстанцінаўны адпавядаў бы па-сапраўднаму манументальны размах выстаўкі. Тым не менш, у падборцы твораў расстаўлены ўсе неабходныя акцэнты, каб зразумець значнасць гэтай асобы ў гісторыі беларускага жывапісу, акрэслены важнейшыя кірункі яе творчасці: нацюрморт, пейзаж, тэматычная карціна.

На выстаўцы ёсць і малюнак. Накіды і жывапісныя эскізы да вялікай, этапнай карціны В. Жолтак "Восень" (канчатковы варыянт захоўваецца ў калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі) — сведчанні практычна зніклага ў наш час класічнага працэсу работы над вялікім творам, з яго незлічонымі замалёўкамі і натурнымі эцюдамі, з пошукам сярод дзесяткаў і нават соцень варыянтаў самага выразнага каларыстычнага і кампазіцыйнага рашэння. У экспазіцыю ўвайшлі партрэты Валяр'яны Жолтак, створаныя яе калегамі і проста сябрамі, а таксама некаторыя біяграфічныя дакументы.

Віктар ЗАЯЦ

Выстаўка рэпрадукцый карцін вядомага беларускага мастака XIX стагоддзя Напалеона Орды ўрачыста адкрылася ў аргенцінскім горадзе Рэсісцэнцыя, паведаміла БелТА. У выставачнай зале мэрыі прадстаўлена 25 унікальных работ, на якіх адлюстраваная старажытная беларуская архітэктура. Дэманструюцца таксама прадметы нацыянальна-прыкладнога мастацтва, выкананыя сучаснымі майстрамі на прадпрыемствах "Белмастацпромыслы". Мэр горада Аіда Айала, выступаючы на мерапрыемстве з нагоды экспанавання першай у гісторыі беларуска-аргенцінскіх зносін выставы Напалеона Орды, адзначыла унікальнасць яго работ і выказала захапленне ад прагляду вырабаў сучасных майстроў. Экспазіцыя арганізавана пры садзейнічанні пасольства Беларусі ў Аргенціне, а таксама актыўнай падтрымцы этнічных беларусаў, якія жывуць у аргенцінскай правінцыі Чако.

Бажэна СТРОК

"Калядныя сустрэчы" прайшлі ў гомельскай гарадской бібліятэцы № 11. Культурны цэнтр у адзін момант ператварыўся ў сапраўдны востраў добразычлівасці і гасціннасці для настаўнікаў ды вучняў сярэдняй школы № 47, бо менавіта тут адбылася цікавая сустрэча з таленавітай майстрыхай Аленай Кальцовай. Дарэчы, Алена Мікалаеўна кіруе аддзелам упраўлення якасці і сертыфікацыі завода "Дыяпраектар" горада Рагачова. А ў Гомель яна прыехала па запрашэнні, каб азнаёміць гараджан са сваімі творчымі набыткамі, непаўторнымі рэчамі, якія стварае ўласнымі рукамі. Алена Кальцова расказала пра свае захапленні, прадэманстравала вырабы з бісеру, графічныя малюнкі. Асаблівае захапленне ў прысутных выклікалі прыгожыя венецыянскія маскі. Як падкрэсліла майстрыха, кожны чалавек ад прыроды таленавіты і працавіты. Галоўнае, не трэба ленавацца, а імкнуцца развіваць свае здольнасці, шукаць адмысловы і захапляльны занятак для душы.

Галіна МІКАЛАЕВА



"Кнігазахавальніца", "кніжная клець", "чытальня", "кнігасховішча" і нават "кніжная палата"… У розных гарадах Беларусі памяшканні для кніг мелі самыя розныя назвы.
Знаёмае і такое блізкае нам слова "бібліятэка" ўпершыню сустракаецца ў знакамітай Генадзеўскай Бібліі 1499 года. У ёй насупраць нязвыклага на той час тэрміну перакладчык на палях пакінуў тлумачэнне — "кніжны дом". Такія дамы ў Беларусі шанаваліся заўсёды.
Пачынаючы ад XII стагоддзя і першых скарбніц пры храмах, перажыўшы росквіт збіральніцтва кніг у XVIII стагоддзі, калі свае кніжныя зборы мелі самыя знаныя магнацкія роды, бібліятэкі XXI стагоддзя самі сталі часткай гісторыі краіны. Увабраўшы ў сябе ўсе адценні функцый, якія "чыталіся" ў кожнай старажытнай назве, сучасныя кніжныя скарбніцы самі па сабе — установы унікальныя.




# Па-над зямной прасторай




Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага, якая святкуе сваё 70-годдзе, з'явілася на свет у першай палове XX ст.: праз год пасля ўз'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі, а менавіта 4 студзеня 1940 года.

Размясціўшыся на вуліцы Пушкінскай, напачатку гэта кніжная скарбніца таксама насіла ганаровае імя паэта ўсіх часоў А. С. Пушкіна.

Аддаючы даніну сусветнай і рускай літаратуры, установа тым не менш праз усе гады клапацілася найперш пра беларускія кніжныя скарбы. Шукала іх, без перабольшвання, па ўсёй зямлі. З клопатам пра вяртанне сваёй спадчыны Брэсцкая абласная бібліятэка супрацоўнічае з буйнымі бібліятэкамі і культурнымі цэнтрамі розных краін свету, з дзяржаўнымі ўстановамі і грамадскімі арганізацыямі Беларусі ды замежных краін, куды ў розныя часы траплялі нашы кніжныя рарытэты. За час доўгіх, але паслядоўных вышукаў добрымі сябрамі скарбніцы сталі Брэсцкае аддзяленне рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Русское общество", гарадская публічная бібліятэка ў Бялай Падлясцы (Рэспубліка Польшча), Інстытут імя Гётэ ў Мінску, "Кола сяброў г. Брэста" (Германія), Франка-беларуская зала інфармацыі пры Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, прадстаўнікі Пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь, Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Брэсцкае абласное аддзяленне "Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры", РВУ "Літаратура і Мастацтва" ды інш. Доўгатэрміновыя найцікавейшыя праекты захапляюць сваёй маштабнасцю і плённымі вынікамі.

Кожны рэгіён слынны ў сусветнай гісторыі сваімі векапомнымі старонкамі. У Брэсце іх, спрычыненых да друкаванага слова, таксама багата. Тут была заснавана (1553 г.) першая друкарня ў межах сучаснай Беларусі — канцлерам Вялікага княства Літоўскага Мікалаем Радзівілам-Чорным і вучоным-гуманістам Бернардам Ваяводкам. Тут выдадзены першы ў ВКЛ нотны зборнік "Песні хвал боскіх", у 1563 годзе — Біблія...

Адна з устаноў, дзе праз гады выяўляюць найбольш значныя падзеі велічнай гісторыі, забытых асоб, сапраўдных герояў, слава якіх перажыла іх саміх на шмат стагоддзяў, — якраз ёсць тою самаю рэгіянальнаю кнігазахавальніцай. Хадзіць па яе залах — чытальным, абанементе, каталогаў і дакументаў — значыць патанаць у свеце мінулай і сучаснай кніжнасці і быць сярод такіх жа, як сам, тых, хто ідзе сюды вядомай сцяжынай па веды. Сучаснае памяшканне на вуліцы Касманаўтаў, 48 вабіць не знешнім выглядам — атмасферай інтэлектуальнай, нават не перанасычанасці (перанасыціць інтэлект немагчыма), духоўнай моцы. У яе — самы трывалы падмурак — рэальныя факты, якіх багата на кожнай кніжнай паліцы. Альбо, як скажуць прафесіяналы, дакументных матэрыялаў. У шапіках каталогаў, тыповых для ўсіх беларускіх устаноў, дзе штосьці патрабуе сістэматызацыі, — "зачытаныя" карткі, махровыя па краях ад частага карыстання. Не дзіва: за 70 гадоў іх неаднойчы перагортвалі, шукаючы каардынаты неабходнага выдання. І "ЛіМ", артыкулы якога распісаны паасобку па тэмах, тут з 1946 года. Але акрамя звычайнай, уласна бібліятэчнай, працы тут ініцыіруюць унікальнейшыя праекты, да прыкладу, распрацоўку праграмы "Берасцейскія кнігазборы" на 2009 — 2012 гг.". Як адзін з кірункаў — стварэнне інфармацыйнай дакументальнай падставы для адкрыцця ў Брэсце Цэнтра вывучэння спадчыны рода Сапегаў. Дзякуючы гэтай жа задуме збіраюцца сабраць дакументальныя помнікі, якія знаходзяцца ў беларускіх і замежных бібліятэках, архівах, музеях і адначасова праводзяць іх так званую гістарычную рэканструкцыю. Галоўнае — дакументы актыўна ўводзяцца ў навуковы і культурны абыходак — значыць, даюць прастору і магчымасць навукоўцам, ды ўсім, хто цікавіцца гісторыяй, далучыцца да яшчэ невядомых старонак мінулага, адкрыць для нашчадкаў багатую беларускую спадчыну. Тут задумваюцца пра фарміраванне агульнадаступных электронных рэсурсаў, зноў жа — у імя захавання нашых каштоўнасцей. Электронныя версіі рыхтуюцца па такіх напрамках: "Берасцейскія кнігазборы: Сапегіана" і "Берасцейскія кнігазборы: прадукцыя брэсцкіх друкарань" ды інш. Так шукаюцца новыя захады для захавання і прадстаўлення ў карыстанне інфармацыі пра нацыянальную спадчыну, для вывучэння звязаных з кніжнай культурай лёсаў кнігапісцаў, друкароў, аўтараў і збіральнікаў кніг як у старажытнасці, так і ў навейшай гісторыі.



Шчыльна супрацоўнічаюць з Брэсцкім дзяржаўным універсітэтам імя А. С. Пушкіна: цэнтр культуры і цэнтр адукацыі аб'ядналіся ў мэтах папулярызацыі кнігі ў праекце "Бібліямарафон". Гэта маштабная праграма мерапрыемстваў. Задумана яна як нейкая дыстанцыя, як марафон для шырокага прыцягнення чытача да кнігі. У дні "Бібліямарафона", які праходзіць у навучальнай установе, але пры актыўным удзеле супрацоўнікаў абласной кніжнай скарбніцы, робіцца агляды ўсіх навінак навуковай, мастацкай, дакументальнай літаратур. І яшчэ раз падкрэсліваецца: кніга не знікае, якія б тэхнагенныя навінкі нас не здзіўлялі. Падчас такіх сустрэч выказваецца ўдзячнасць чытачу (!) — за тое, што гэтым неацэнным дарам ён распараджаецца правільна. Многія якраз праз гэта пачынаюць разумець, што праца над кнігаю ўздымае асобу на новы ўзровень развіцця.

Таму, насамрэч, свайму сацыякультурнаму цэнтру брастаўчане розных пакаленняў давяралі і па-ранейшаму давяраюць права берагчы літаратуру, памяць пра сябе. Пры ўсім гэтым установа з уласцівай ёй інтэлігентнасцю застаецца даволі сціплай. Яна не кідкая знешне, нават губляецца ў атачэнні гарадскіх гмахаў і пабудоў камунальнай гаспадаркі, бізнес-устаноў, што ўпрыгожваюць сябе рэкламамі, каляровымі падсветкамі. Будынак каторы год чакае рэканструкцыі, бібліятэкары — дадатковых сродкаў на камплектаванне фондаў і распрацоўку праграм. Словам, ідзе паўсядзённая карпатлівая праца ў імя чытача…

Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: загадчыца аддзела кнігазахавання Ніна Міклух і супрацоўніца гэтага ж аддзела Любоў Цэкала ў сховішчы рэдкіх кніг (у цэнтры — перавыданне Брэсцкай Бібліі, ажыццёўленае Пятром Кралікоўскім у Кракаве); у зале абанемента; адна з першых "бібліятэк на калёсах" (здымак з архіва).

Фота Кастуся Дробава і з архіва бібліятэкі

## Брэсцкай абласной бібліятэцы прысвячаецца

Мікола ПРАКАПОВІЧ

### Вечнасці сонечны дом

Ліпень. Чмялі. Саламяны падстрэшак.
У вішнях стракочуць шпакі.
Не бачу... Не чую…
Згубіўся дарэшты
У плыні вірлівай ракі —
Літары, словы.

Стыне вячэра, і маці з газнічкай
Прысела насупраць, глядзіць,
Як сын яе, хлопчык, зіхоткаю знічкай
У светлую мару ляціць, —
Зямля, не трымай, адпусці…
Пакуль ён не зведаў ні страху, ні болю,
Хай доўжыцца шчырасці міг! —
Нясі яго ў заўтра, у вольную волю
Вырай раскрыленых кніг —
На покліч людской дабрыні.

…Лячу — каб вярнуцца,
З'ўлюся — каб верыць:
Скрыжалі і крылы — адно.
Слязою, крывёю, віном
Народзіцца кніга —
Адчыняцца дзверы
У вечнасці сонечны дом.

Анатоль КРЭЙДЗІЧ

### Брэсцкай абласной бібліятэцы

Бясконцасцю духу і ведаў прасторай
Ратуеш — будуеш — шчыруеш да зморы...
Эдэм для удумлівых, духам жывых,
Сардэчнасць усю падзяляеш на ўсіх.
Цяжкая ці лёгкая доля такая?
Каралі, каменні ў Сусвеце збіраеш?
Агмень выкрасаеш, каб цемру рассунуць?
Ярыла зямное (ўсе бачаць!) існуе!

Асветлены словам хто мудрым і вечным —
Бадзёрыць усіх: ад старых да малечы;
Лятае ў марах, лунае над светам...
Акрылены — значыць, вятрамі спавіты.
Скарбонка святла найсвятлейшага ў свеце!
Нястомная пчолка ў сукведдзях асветы!
Аз, букі, ведзі... Глаголіш дабро,
Яму быць і крыжам тваім, і таўром.

Благое адпрэчвай,
Ідзі і глядзі,
Боскай сцяжынай
Людзей ты вядзі.
Іначай і нельга,
Як нельга не пець
Табе, Сэрца сэрцаў,
Эліта эліт,
Краса красамоўства,
Аснова асноў...

## З нагоды свята

Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага — актыўная ўдзельніца яркіх праектаў і праграм, скіраваных на захаванне нацыянальнай спадчыны, пашырэнне доступу да інфармацыі, мадэрнізацыю бібліятэчнай дзейнасці і прадастаўленне карыстальнікам новых паслуг. Яна з'яўляецца незаменным звяном бібліятэчнага супольніцтва, адкрытым для ўзаемадзеяння, надзейным партнёрам. Ад усяго сэрца ўсім супрацоўнікам — дабрабыту, удзячных чытачоў, творчага натхнення, добрага здароўя на доўгія гады.

Раман МАТУЛЬСКІ, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Калі чалавек, асабліва дзіця, ідзе ў бібліятэку — яму неабходна ствараць прэферэнцыі. У бібліятэку павінны хадзіць чытаць! Гэта асноўная яе прадвызначанасць. У Брэсцкай абласной — выдатнейшая праца спецыялістаў. Як і ў пачатку XX стагоддзя, яны нясуць людзям веды і інфармацыю. Асабліва — пра кнігу беларускую. Бясспрэчна, у XXI стагоддзі мы павінны мяняць формы працы. І канферэнцыі, якія праходзяць тут,— выдатнейшая спроба штосьці перайначыць у нашым жыцці. Плёну і поспехаў усім супрацоўнікам, няхай яны застаюцца такімі ж адухоўленымі, якімі ёсць сёння!

Аляксандр РАГАЧУК, начальнік упраўлення ідэалагічнай работы Брэсцкага аблвыканкама



# У кантэксце сусветнай культуры



Начальнік упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Рыгор БЫСЮК — добры сябра Брэсцкай абласной бібліятэкі. Неаднойчы ахвяраваў для скарбніцы кнігі з уласнага збору, перадаваў і тыя, што дораць госці рэгіёна.

— Рыгор Рыгоравіч, калі раней словы бібліятэка і чытальня былі сінонімамі, то цяпер можна гаварыць пра значнае пашырэнне ролі і функцый кніжных скарбніц. Якое месца займае Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага ў сістэме іншых устаноў культуры рэгіёна?

— Скажу коратка: Брэсцкая абласная займае вядучае месца сярод абласных бібліятэк краіны па фарміраванні бібліятэчнага фонду. Гэта было пацверджана ў 2002 годзе спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі "бібліятэчная справа". Да таго ж, гэта метадычны цэнтр для больш як 600 бібліятэк рэгіёна, аб'яднаных у 19 бібліятэчных сістэм. Штат бібліятэкі досыць унушальны — 145 чалавек, амаль 90 працэнтаў маюць вышэйшую адукацыю.

Тут вядзецца кансультацыйная, аналітычная і выдавецкая дзейнасць, неабходная для эфектыўнай працы бібліятэк рэгіёна.

— Сёння многія гавораць пра крызіс пісьменніцкай, чытацкай і ўвогуле кніжнай культуры. Значыць, патрэбна будаваць новыя бібліятэкі, кнігарні, кіёскі. Аднак, нават флагман — абласная бібліятэка — цяпер у досыць "сціплым" становішчы: яна не заўважная ў гарадскім інтэр'еры, пра рэканструкцыю памяшкання вядуцца размовы вось ужо чатыры гады. Ці можна спадзявацца, што нешта зменіцца ў бліжэйшы час?

— Пытанне рэканструкцыі бібліятэкі сапраўды вельмі вострае. У снежні 2005 года было прынята рашэнне аблвыканкама пра рэканструкцыю памяшкання. У 2006 годзе праведзены тэндэр на права складання праектна-сметнай дакументацыі.

Праектаванне зацягнулася па шэрагу аб'ектыўных прычын. Ускладняецца сітуацыя са зносам жылых памяшканняў, размешчаных у зоне забудовы, і неабходнасцю рассялення грамадзян, якія ў гэтых дамах жывуць. Сёння праектна-сметная дакументацыя (архітэктурны праект) знаходзіцца на дзяржбудэкспертызе, і папярэдні кошт работ па рэканструкцыі складае прыкладна 16,5 мільярдаў рублёў.

— На жаль, крызіс, і не толькі апошняга года, прывёў да скарачэння колькасці бібліятэк, кнігарань. І сёння грамадскасць занепакоеная магчымым спадам чытацкіх магчымасцей. Не маглі б вы пракаменціраваць сітуацыю, якая склалася ў рэгіёне?

— Сапраўды, скарачаецца і сетка кнігарань, і сетка бібліятэк. Калі гаварыць пра 2009 год, то кніжных скарбніц стала менш на 15. Але радуе, што ўсё ж адкрываюцца і новыя. Да прыкладу, не пазнаць бібліятэкі аграгарадкоў. У межах "Дзяржаўнай праграмы адраджэння і развіцця вёскі на 2005 — 2010 гады" змянілі сваё аблічча больш як 100 устаноў. У іх праведзены рамонты, закуплена новае абсталяванне, камп'ютэры, падключаны Інтэрнет. А ў тых вёсках, дзе бібліятэкі былі зачыненыя (гэта маленькія неперспектыўныя вёсачкі), насельніцтва, як правіла, абслугоўваюць бібліятэкі-аўтобусы, іх у рэгіёне да канца 2010 года павінна працаваць адзінаццаць.

— У свой час Брэсцкая абласная бібліятэка ўздымала пытанне пра Берасцейскія кнігазборы, нават праводзіла навуковую канферэнцыю з удзелам прадстаўнікоў Расіі, Польшчы, Літвы з мэтай высветліць, што маецца ў замежжы. Больш як 30 тысяч кніг з бібліятэкі было вывезена падчас Другой сусветнай вайны ў Германію. Ці магчыма ініцыіраванне захадаў па вяртанні на Радзіму вывезеных каштоўнасцей?

— Сабраныя ў ходзе названай канферэнцыі матэрыялы ўвойдуць у зборнік, які рыхтуецца да выдання. Як адзін з вынікаў канферэнцыі — Камісія ЮНЕСКА пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь па выяўленні, вяртанні, сумесным карыстанні і ўвядзенні ў культурны абыходак нацыянальных, культурных каштоўнасцей даручыла Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў партнёрстве з Брэсцкай абласной падрыхтаваць праект па віртуальнай рэканструкцыі бібліятэкі Сапегаў.

Калектыў бібліятэкі — гэта высокія прафесіяналы, шчырыя людзі з адкрытым сэрцам. Хочацца пажадаць, каб хутчэй пачалася рэканструкцыя памяшкання. Як толькі будзе гатова дакументацыя, пачнём будаўнічыя работы.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: начальнік упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Р. Бысюк.

Фота Кастуся Дробава

# Загадкавы Псалтыр

Рэдкія кнігі ў фондзе любой бібліятэкі — прадмет асаблівай гордасці і вывучэння. Гордасці, таму што наяўнасць такіх выданняў сур'ёзна павышае культурную каштоўнасць дакументнага фонду. Аб'ект вывучэння — асаблівы, захапляльны, часам дэтэктыўны спосаб пазнавання гісторыі і культуры ў цэлым, роднага краю — у прыватнасці. Набываюцца яны не часта: тут і жорсткая канкурэнцыя з боку прыватных калекцыянераў, і адвечная адсутнасць сродкаў фінансавання для бібліятэк, і адсутнасць кнігарні "Букініст" у горадзе.

Фонд кніг Брэсцкай абласной бібліятэкі, выдадзеных да гістарычнага для Брэстчыны 1939 года, параўнальна невялікі — да 800 экзempляраў. Сярод іх — энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі, прыжыццёвыя выданні класікаў мастацкай літаратуры, перыядычныя выданні. Самай старой кнігай у нас была «Сибирская история с самого открытия Сибири до завоевания сей земли российским оружием» І. Е. Фішара, выдадзеная ў 1774 годзе Санкт-Пецярбургскай імператарскай акадэміяй навук. Але кніга, пра якую пойдзе гаворка, напэўна, самая загадкавая.

Псалтыр. Кніга псалмоў, якія выкарыстоўваюцца ў асноўным у богаслужэнні. Памятаю свае пачуцці, калі на апошняй старонцы добра захаванага фаліянта ўпершыню прачытала:

"Сия святая и богодухновенная книга, нарицаемая Псалтырь, напечатана бысть в царствующем граде Москве в царство благочестивого царя Алексея Михайловича. При святейшем Иосифе патриархе". Цараванне Аляксея Міхайлавіча і патрыяршаства Іосіфа? Дык гэта ж не раней за 1645-ы і не пазней за 1652-і. Гэта значыць, даніканаўская, дарэформенная Русь! А ніжэй — радок: "Ныне же препечатася с онаго древлепечатного перевода в типографии Почаевской". У кароткім запісе схаваны глыбокі сэнс. Зразумела: перад намі перавыданне, але якога часу? Друкарня ў Пачаеве пачала дзейнічаць толькі ў 1730 годзе, а слова "древлепечатный" у адносінах да царкоўных кніг выкарыстоўвалася ў сэнсе "да уніяйны", значыць, кніга, як цяпер сказалі б, перавыдавалася ў Пачаеве са старажытнага, "не выпраўленага" ніканаўскай рэформай набору? Якім чынам старыя паліграфічныя "дошкі" трапілі ў Пачаеў?

Пытанняў станавілася ўсё больш, і я звярнулася да вядомага краязнаўцы і кнігаведа Васіля Туміловіча, настаяцеля праваслаўнай царквы ў вёсцы Пашукі Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Айцец Васіль пацвердзіў мае сумненні і дадаў новыя. Так, перад намі перавыданне. Але ў якім годзе яно выканана? Разгадка магла быць у так званым "Памянніку", г. зн. у раздзеле, дзе зазвычай у царкоўных кнігах знаходзіцца пералік асоб, за якіх трэба маліцца. На старонцы 287, дзе павінен быў быць змешчаны гэты спіс, на чале якога імёны цара і патрыярха (гэта дапамагло б вызначыць дату выдання), запісы адсутнічаюць. Не згадваюцца яны і ў раздзеле "Месяцаслоў", г.зн. календары з указаннем дзён памяці святых і кола царкоўных святаў, і вельмі шанаваных у Пачаеве Святога Іова Пачаеўскага і свята яўлення абраза Пачаеўскай іконы Божай Маці! Значыць, перавыдаючы кнігу, арыгінальны тэкст выпраўлялі.

Аднак пытанняў засталося яшчэ шмат: як трапіў ва уніяцкі на той момант Пачаеў набор «древлепечатной» кнігі, якую надрукаваць у Маскве было ўжо немагчыма? Чаму выдалі кнігу, не зрабіўшы ў ёй неабходных правак? Магчыма, кніга выдадзена на некалькі гадоў пазней — людзьмі з Масковіі, якія ратаваліся ў Пачаеве ад Напалеона? Што яшчэ можа расказаць нам бляклa-зялёная, са светлымі паралельна-папярэчнымі палосамі папера выдання?

Ала МЯСНЯНКІНА,
намеснік дырэктара
Брэсцкай абласной бібліятэкі



На здымку: аўтар артыкула і той самы старажытны фаліянт.

Фота Кастуся Дробава

# Берасцейскае вогнішча, альбо Што я ведаю?

Пачуць сябра-аднадумца з іншага рэгіёна альбо дзяржавы — заўсёды прыемна. Таму і культурныя набыткі беларускай нацыі, як і любой іншай, запатрабаваныя і ў нас на Радзіме, і за мяжой. Кнігі-помнікі і сучасныя ўзоры прыгожага пісьменства вабяць сваёй нязведанасцю. Гэта надае імпульс установам, дзе сканцэнтраваны друкаваныя скарбы, шукаць магчымасці пашырэння кнігаабмену. Дзеля гэтага ўстановы-кнігазахавальніцы кантактуюць з культурнымі цэнтрамі розных краін свету, дзяржаўнымі ўстановамі і грамадскімі арганізацыямі Рэспублікі Беларусь і замежных краін. Вось найбольш вядомыя з праектаў Брэсцкай абласной бібліятэкі.

"Берасцейскія кнігазборы: стан і перспектывы даследавання". Такую назву мела міжнародная навукова-практычная канферэнцыя, якая адбылася ў 2008 годзе. Ініцыятыву бібліятэкі падтрымалі Брэсцкі аблвыканкам, прадстаўнікі навуковых колаў Расіі, Польшчы, Літвы, Украіны і Беларусі.

На гэтым форуме прафесійныя гісторыкі, навукоўцы, бібліёграфы, краязнаўцы паспрабавалі прасачыць лёсы або ўстанавіць месцазнаходжанне унікальных кніжных калекцый палацаў, фальваркаў, знаных сядзіб Берасцейскага краю. Сярод удзельнікаў быў адзін з самых дасведчаных знаўцаў беларускіх кнігазбораў у Еўропе — доктар гістарычных навук, загадчык аддзела рэдкай кнігі Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу М. Нікалаеў.

"Рускі праект" — гэта сумесная акцыя з Брэсцкім аддзяленнем рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Русское общество" пры падтрымцы Генеральнага консульства Расійскай Федэрацыі ў горадзе Брэсце. У яго межах праходзяць "Горкаўскія чытанні", якія па сваёй сутнасці з'яўляюцца навуковымі літаратуразнаўчымі канферэнцыямі з удзелам выкладчыкаў Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна, студэнтаў-філолагаў, настаўнікаў рускай мовы.

"Берасцейскае вогнішча" — праект, сумесны з РВУ "Літаратура і Мастацтва". Дзякуючы яму выйшлі ў свет кнігі берасцейскіх аўтараў: І. Дашынай "Графіці на сэрцы", В. Ляшук і Г. Снітко "Літаратурная Берасцейшчына", "Палеская элегія" М. Купрэева, зборнік вершаў М. Рудкоўскага, М. Пракаповіча і А. Каско "Трохперсце", дакументальна-мастацкая кніга А. Гладышчука "Нямцэвічы: Сапраўдныя гісторыі", А. Бензерука "Свята для сэрца", А. Паплаўскага "Пастка для рэха", Н. Мацяш "У прыгаршчах ветру".

"Кнігі для Брэста". У кастрычніку 2006 года была падпісана дамова аб супрацоўніцтве з "Колам сяброў г. Брэста" — партнёрскай грамадскай арганізацыяй зямлі Сярэдняя Шусенталь (гарады Равенсбург, Вайнгартэн, Байнтфурт, Баўндт, Берг — ФРГ). Дзякуючы гэтаму фонд бібліятэкі папоўніўся калекцыяй з 400 кніг і электронных дакументаў.

"Што я ведаю?". Калекцыя кніг з такой французскай серыі цяпер знаходзіцца ў Брэсце. Па ініцыятыве супрацоўніка Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Алексіса-Жыль Гранда ў абласной бібліятэцы быў адкрыты новы праект — перасоўная міні-бібліятэка французскай літаратуры. Экспануецца і працуе ўжо 17-я выстава. Супрацоўніцтва з франка-беларускай залай інфармацыі пры Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна пачалося ў 1998 годзе.

Брэсцкая абласная бібліятэка з'яўляецца адзінай у рэспубліцы ўласніцай калекцыі на тэму "ЗША ў Другой сусветнай вайне" (прадстаўлены збор на англійскай мове, больш як 600 экз. кніг).

Па лініі праграмы "Інтэрнет-2 у Беларусі" ў бібліятэцы працуе бясплатны Інтэрнет-цэнтр; прадстаўнікамі Пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь у розныя гады бібліятэцы былі падараваны калекцыі класічнай і сучаснай мастацкай літаратуры, даведачныя і навучальныя матэрыялы, электронныя дакументы.

Галіна БУРЫНА,
намеснік дырэктара Брэсцкай абласной бібліятэкі

## Бліц-апытанне

# Лёсам дадзенае сяброўства

Станіслаў РАЧЭЎСКІ, дырэктар Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў, прарэктар па вучэбнай рабоце Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна:

1. У мяне ёсць даўняя і трывалая повязь з нашай абласной бібліятэкай. Першы вузельчык завязаўся ў тыя дні, калі бібліятэка толькі асвойвала новы будынак, а я, студэнт-філолаг, быў уцягнуты ў вір грамадска-культурнай працы ў гэтым бібліятэчным асяродку, чытаў для наведвальнікаў-аматараў вершы паэтаў пары грамадзянскай вайны. Быў і другі вузельчык: пэўны час не ўдавалася ўтаймаваць мае адносіны з рукапісам дысертацыі па мове твораў Янкі Брыля. Такі чаканы для мяне "прарыў" і завяршэнне самай складанай часткі дысертацыйнай працы адбыліся не ў Мінску, дзе вучыўся ў аспірантуры, а якраз у цішы і летняй прахалодзе тых залаў абласной бібліятэкі, аблюбаваных са студэнцкіх часоў.

2. Чытацкі густ фарміраваўся пад уплывам маёй школьнай настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Л. В. Буцько, маіх педагогаў у вышэйшай школе У. А. Калесніка, Л. П. Смальянавай, В. Я. Ляшук, Г. М. Малажай, Ф. М. Янкоўскага. З асабліва любімага назаву паэзію Уладзіміра Караткевіча. Прыблізна раз у 5 гадоў перагортваю-смакую "Сагу пра Фарсайтаў" Галсуорсі — вечную, па-мойму, кнігу жыцця. Люблю творы паэтаў-песеннікаў усіх краін і народаў.

3. Бачыцца мне адзін сумесны з бібліятэкай праект — і пасільны, і вельмі неабходны. Гаворка ідзе пра тое, каб разам падрыхтаваць і выдаць хрэстаматыю народнай педагогікі і культуры Брэсцкай вобласці. У нашым універсітэце працуе каля 200 ураджэнцаў з вёсак, мястэчак, малых гарадкоў, дзе ў свой час яны адчулі на сабе дабратворны ўплыў таго, чаму вучылі і што выхоўвалі людзі старэйшага веку. Гэты феномен народнай педагогікі і культуры нашых малых радзім, гэтыя каштоўнасці, калі не засведчыць іх на старонках друкаванага выдання, могуць вельмі недарэчна знікнуць і не вярнуцца ніколі…

Сп. КАТРЫН ОСТВАЛЬД-РЫХТЭР, першы сакратар Пасольства ФРГ, дырэктар Інстытута імя Гётэ ў Мінску:

— Больш як 10 гадоў таму ў Брэсцкай абласной бібліятэцы Інтытутам імя Гётэ быў адкрыты нямецкі куточак — Цэнтр вучэбных сродкаў па нямецкай мове. У распараджэнне выкладчыкаў паступілі вучэбныя матэрыялы і вучэбна-метадычныя дапаможнікі па нямецкай мове. Асобна нам хацелася б адзначыць шматлікія праекты і мерапрыемствы, праведзеныя сумесна з Брэсцкай абласной бібліятэкай: літаратурныя чытанні з удзелам аўстрыйскага пісьменніка і публіцыста Марціна Полака, паэтычны перформанс Нікіты Гарбунова і Філіпа Шарэнберга, семінары для выкладчыкаў нямецкай мовы ў рамках Нямецкага тыдня ў Брэсце ды іншыя.

# Ад ніў Прыдзвінскіх…

Нараджэнне дзіцяці — знамянальная падзея. Дзіця чакаюць, звязваюць з ім пэўныя надзеі. Новае жыццё заўсёды прыносіць нешта адметнае ў гэты свет. Вось такім доўгачаканым дзіцяткам стаў у 2009 годзе зборнік “Ад ніў Прыдзвінскіх”, у які ўвайшлі творы мастакоў слова Віцебшчыны. Паэзія гэтага краю асаблівая, са сваім каларытам, непаўторным шармам, “з памяццю пра ўрокі папярэднікаў”. Асноўны пафас зборніка жыццялюбны, аптымістычны, хоць лірыка ў ім драматычная, інтымныя перажыванні, як правіла, суаднесеныя з канкрэтнымі думкамі чалавека, чулага да вострых пытанняў сучаснасці. Густ, зразумела, у кожнага свой, але ў зборнік увайшлі настолькі разнапланавыя творы, што кожны можа адшукаць блізкае сабе. Разнапланавасць праяўляецца, галоўным чынам, у тэматычнай разнастайнасці.

Напрыклад, творчасць Віталя Гарановіча ў зборніку прадстаўлена толькі пейзажнай лірыкай. У вершы “Прэлюдыя восені” паэту ўдалося зрабіць лёгкую, вобразную замалёўку пераходнага ад лета да восені перыяду, але такой яна здаецца менавіта дзякуючы выразным параўнанням (“страху, бы лёгкую хусцінку…”, “рваў хмары, нібы ласкуты…”). Сімвалічны “вецер”, які паўстае з першых радкоў твора разбуральным, неўтаймаваным, развіваецца ў гэтым плане далей, але ў апошняй страфе пра яго існаванне сведчыць толькі тое, што “…Гаілі сонныя прасторы, // Віхуры ўтаймаванай след”. Усё ж такі разбуральны пачатак пераможаны спакоем. Прырода ажывае ў гэтых радках, пачынае жыць самастойным, таямнічым жыццём.

Своеасаблівасць беларускага неба, яго зменлівасць, наогул гэтую міфалагему раскрывае ў сваім вершы “Неба” Вольга Чайкоўская. Дастаткова трапныя эпітэты, назыўныя сказы спрыяюць лёгкаму, вобразнаму ўспрыманню твора. У літаральным сэнсе перад намі замалёўка зменлівасці неба, але гэта толькі на першы погляд. За апісаннем пейзажу хаваецца і філасофскае яго асэнсаванне. У пераносным сэнсе неба можна ўспрыняць як рай, дзе жыве душа. Тады гэтая зменлівасць — ужо і шматпланавасць душы, яе адценняў, колераў, бо нездарма неба “сіняе наўзрыд!”.

Верш Ірыны Бельскай “Так поўня ззяла над Дзвіною…” таксама можна аднесці да пейзажнай лірыкі, але твор набывае больш глыбокі змест пры далейшым асэнсаванні. Шчымлівая адзінота перарастае ў матыў пошуку; персаніфікаваны вецер паўстае паўнавартасным лірычным героем, які жыве на мяжы рэальнага і нерэальнага. Паралель паміж верай і бязвер’ем па-мастацку развівае матыў пошуку.

Верш Яўгеніі Мальчэўскай “У родным краі” змяшчае тыповыя вобразы азёрнага краю. Прыўзняты настрой, лёгкасць і разам з




тым засяроджанасць адчуваюцца ў кожным радку. Аўтарка разглядае чалавека як частачку прыроды, завяршальным акордам з’яўляецца пачуццёвае блаславенне:

Дык блаславёнай
будзь заўсёды,
Святая ціша над зямлёй,
Дзе я зліваюся з прыродай
І раствараюся у ёй.

Верш Уладзіміра Міхно вылучаецца трапным вобразам буслянят. Жывая замілаванасць, пачуццё адказнасці перад пачаткам самастойнага шляху, хваляванні бацькоў… Вельмі арганічна гучыць у апошніх радках твора пажаданне-настаўленне:

Хай жа будзе светлаю дарога,
Хай жа будзе моцны
ўзмах крыла,
Хай жа помняць
родны кут, з якога
На прастор дарога іх лягла…

У зборніку шырока прадстаўлены вершы на тэму беларускай мовы. Прычым кожны паэт апісвае мову на розных узроўнях, натхнёны пэўнай яе асаблівасцю.

Напрыклад, верш “Роднае слова” Анатоля Канапелькі праз шматлікія параўнанні трапна характарызуе гукавыя асаблівасці беларускай мовы — з дапамогай вобразнага ўвасаблення:

Адкрываю, як свет, нанова
Беларускае роднае слова,
Пералівістае —
як каменьчык,
весялковае — як ручэй,
цёплае — як агеньчык
Добрых тваіх вачэй,
Светлае — як маланка,
Гнеўнае — як пярун,
Ціхае — як калыханка,
Вечнае — як Беларусь!

З іншага боку — функцыянальнага — дае сваю ацэнку мове Змітрок Куніцкі ў вершы “Мова”. Ён падкрэслівае сацыяльную, духоўную функцыю мовы. Яна быццам сэрца жывога арганізма. Калі яно спыніцца, то перастане існаваць і ўвесь “арганізм” — нацыя.

Тамаш Ляшонак у вершы “Шаную сілу, што належыць слову…” па-філасофску канстатуе, што мова, ды нават кожнае яе слова валодае сапраўднай сілай, здольнай абудзіць “у чэрствых сэрцах іскры дабрыні”.

Вельмі шырока прадстаўлены вершы на хрысціянскую тэматыку. Так, верш Ірыны Жарнасек “Тваё аблічча” нагадвае роздум-малітву. Яе прамы зварот да Хрыста пачынае верш, у якім яна спрабуе адказаць на пытанне: “…адкуль на мяне ўзіраюцца // вочы Твае, о мой Езу, // з нястворанага // нікім Аблічча”. Лірычнаму герою лягчэй убачыць вобраз Хрыста ў жывой прыродзе (“бацькавым садзе”, “квецені луга”), чым “на палатне суровым”. Гэта ідэя яшчэ раз падмацоўвае думку аб тым, што Бог — гэта не нешта прыдуманае чалавекам, гэта ўсё тое, што вакол нас, здзейсненае Творцам і, канечне, тое што ўнутры нас — у душы.

Духоўны крызіс — актуальная сёння з’ява, але ён можа быць пераадолены, бо вера ўзмацняецца ў такіх спрэчках з сабой. Галоўнае — знайсці правільныя адказы на свае пытанні.

Ёсць у зборніку твор і на ваенную тэматыку. Верш Анатоля Канапелькі “Колькі родных і блізкіх імён…” працяты болем, тугой, што не суцішваюцца і праз гады. Чакаюць па ўсёй Беларусі “дарагіх, незабыўных, каханых”, але “абеліскі — ў цэню бяроз, абеліскі — ў цэню таполяў” — сведкі мільёнаў смерцяў — падказваюць, што чакаць ужо няма сэнсу. Трэба дзякаваць ім за неўміручы подзвіг, на які ішлі дзеля нас — і памятаць.

У зборніку ёсць таксама творы, разлічаныя на маленькага чытача. Аптымістычным настроем вызначаецца дзіцячая паэзія Тадзіяны Кляшторнай. З дапамогай цікавых форм, разнастайных вобразаў ствараюцца лёгкія для ўспрымання вершы.

Казка вечарам ішла
Ля прыгожага сяла,
Ціха ўвайшла ў хацінку,
У ложку ўбачыла дзяўчынку.
Покуль нешта ёй шаптала,
Дык сябе закалыхала.

Гумарыстычныя і ў той жа час напоўненыя пэўнай філасафічнасцю, “міранізмы” Міхася Мірановіча выразна вылучаюцца на агульным фоне. Менавіта з дапамогай гумару створаны яркія запамінальныя партрэты герояў, іх глыбокія псіхалагічныя характарыстыкі. Бязлітасна высмейвае паэт стэрэатыпы сучаснага грамадства (“Прыгажосць уратуе свет”), спрабуе з гумарам пераасэнсаваць жаданні, патрэбы і памкненні сучаснага чалавека (“Каб грошай хапала”, “Абваліліся б нябёсы”).

Прадстаўлена і філасофская лірыка. У вершы Элы Петрачэнкі “Жыццё вымяраецца хуткасцю знічкі…” форма і змест арганічна спалучаюцца, сур’ёзная думка хаваецца за незвычайнай вонкавай абалонкай.

Сярод літаратараў старэйшага пакалення, вершы якіх носяць рэтраспектыўны характар і ўтрымліваюць мастацкае асэнсаванне ўсяго пражытага жыцця, вылучаецца Франц Сіўко. Вельмі глыбокім, але крыху песімістычным атрымаўся яго верш “Не ўмею…”, які аналізуе сучаснага беларуса. Пры мастацкім узнаўленні мінулых падзей ён карыстаецца прыёмам супастаўлення. На сваім уласным прыкладзе паэт паказвае як змяніўся “сялянскі сын”, што калісьці выдатна “ўрабляў зямлю”, “аддана маліўся”, “цяслярыў”…

Зборнік “Ад ніў Прыдзвінскіх” вылучаецца самабытнасцю. Тэматычная разнастайнасць, пошукі ў сферы паэтычнай формы дапамагаюць стварыць панараму жыцця рознакаляровага, поліфанічнага, зменлівага і… адвечнага.

Вольга САЎЛЕНКА

## Віншуем

З 90-годдзем Аўрамчыка Міколу (Мікалая Якаўлевіча), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

З 70-годдзем Дайнеку Леаніда Мартынавіча, беларускага паэта, празаіка.

З 70-годдзем Клімуця Яраслава Іванавіча, беларускага крытыка, літаратуразнаўцу.

З 70-годдзем Смыкоўскую Валянціну Іванаўну, беларускага літаратуразнаўцу.

З 60-годдзем Спрынчана Вадзіма Браніслававіча, беларускага паэта, перакладчыка.

З 60-годдзем Трафімчука Міколу (Мікалая Мікалаевіча), беларускага паэта.

## Юбілейны каляндар

120 гадоў Простаму Пётру (сапр. Бобіч Ільдэфонс), беларускаму празаіку, драматургу, публіцысту, перакладчыку.

110 гадоў Моркаўку Аркадзю Андрэевічу, беларускаму паэту.

105 гадоў Пятроўскаму Яну Дзям’янавічу, беларускаму перакладчыку, празаіку, мемуарысту, выдаўцу.

105 гадоў Пальчэўскаму Алесю (Аляксандру Восіпавічу), беларускаму празаіку, драматургу.

70 гадоў Вышынскаму Міхаілу Антонавічу, беларускаму празаіку, крытыку.

60 гадоў Барэйшу Міхасю (Міхаілу Уладзіміравічу), беларускаму празаіку, паэту, перакладчыку, журналісту.

# Дагары нагамі

Сатырычна-гумарыстычныя творы заўсёды маюць пэўную тэндэнцыйнасць. У зборніку Б. Бележэнкі “Успаміны пра майго асла”, удастоенага дыплома на рэспубліканскім конкурсе “На лепшы літаратурны твор за 2008” у намінацыі “Гумар і сатыра”, ёсць тое, што відавочна адразу: і горка, і грэшна, і смешна. Гартаю старонкі кніжачкі — і трапляю ў своеасаблівы залюстэркавы свет, дзе многа чаго перакручана і перакулена з ног на галаву, а шматлікія дэталі, рысы, штрыхі цяперашняга жыцця людзей і іх псіхалогіі падаюцца з адчуваннем важнасці. Апранаючы “герояў” у адзенне аслоў, ваўкоў, бычкоў, шакалаў, бараноў і іншых алегарычна-традыцыйных літаратурных персанажаў, аўтар пераводзіць іх паводзіны і характары на чалавечыя ўзаемадачыненні, знаходзячы там сучасныя праявы сквапнасці, зайздрасці, маральнай замшэласці, быдлячай упартасці, свінства, тупасці, звычайнага апушчэнства і г. д.

Асаблівую ўвагу сатырыка прыцягнуў асёлбразготка, да вобраза якога звычайна звяртаюцца многія байкапісцы, часам паўтараючы І. Крылова, К. Крапіву, Ул. Корбана, Э. Валасевіча і іншых аўтараў мінулых эпох. У Б. Бележэнкі ён выдаўся вельмі “сваім”, не падобным да ўжо вядомых у літаратуры. Рэч нагадвае лепшыя традыцыі жанру, хаця аўтар назваў твор “Успамінамі пра свайго асла”, надаўшы матэрыялу такую плынь, дзе ўдала сумяшчаюцца фантастычнае і рэальнае. Вобраз асла выпісаны рабрыста-пуката, з глыбокім і канкрэтным суровым падтэкстам. Акцэнт робіцца на пацешных і абсурдных сітуацыях, у якіх самавіта арудуе няўдзячны гаспадару быдляк: ад ідылічна-спакойнай пасьбы яго на лузе, цяжкай і неахвотнай працы ды п’янства аж да свінячага піску, разбэшчвання свайго асяроддзя, шальмавання блізкіх, згвалтавання авечак. Тое, што вытварае ён, — нейкі сюррэалістычны жах.

Выснова ж канкрэтна-празрыстая: ёлупняўдурняў не сеюць і не жнуць, яны самі растуць. Адносна вядомай жывёліны скажам так: асёл — ёсць асёл у любым становішчы. Атрымалася ліха, карыкатурна-саркастычна. “Успаміны...” характарызуе вельмі гнуткая інтанацыя, натуральнае гучанне беларускай мовы.

Іронію і ўсмешку выклікае байка “Цюцька-задавака”, у якой кранаецца творчае асяроддзе. А ў ім, як вядома, хапае часам безапеляцыйнага самахвальства аж да прыкрасці, самаўпэўненасці, пыхі, прыніжэння годнасці іншых, замест крытычнай ацэнкі ўласна зробленага.

І акварэллю, і алеем
Барбос напэцкаў сто карцін.
І хваліць сам сябе, аж млее,
Што ён мастак з усіх адзін,

— настройвае аўтар нас на спакойна лагоднае ўспрыманне з’явы. Але ж натуральная выснова папераджальна-дакладная: ад якання да яўкання — усяго адзін невялічкі крок. Так выйшла і з тым барбосам-хвалько, які, нагадваючы “жабу ў каляіне” (К. Крапіва), так і не змог прымірыцца з аб’ектыўнасцю. А яна ж — мацней за ўсё.

Барбос на розных скрыжаваннях
Чарніў партнёраў, выў ажно.
Ад злосці выпетраў да звання,
Што поўсць звалялася ў сукно.
“Ніхто не пераходзь дарогу!” —
Меў цюцька лозунг баявы...
Але ж было патрэбна Богу
Накіраваць цераз дарогу
Рэйс гужавы і грузавы.

Сапраўды, як гаворыцца ў народзе, самахвальства не толькі смярдзіць, але і небяспечна.

З’едліва-крытычным стылем пранізаны і іншыя рэчы Б. Бележэнкі. Ягоны клопат — раскрыць, як трапляюць часам людзі ў розныя абсалютна прадбачаныя і непрадбачаныя сітуацыі, калі іх ахоплівае псіхоз. Байка “Сучасныя лекі” пра кашпіроўскіх, чумакоў і іх паслядоўнікаў, якія гандлююць даверам людзей, як бульбай на базары, і на іх бедах знайшлі для сябе прыбытковы бізнес. Пад “наждак” трапляюць і тыя, хто верыць, і тыя, хто абдурвае людзей.

Гумарыст добра адчувае актуальнасць многіх праблем, працягваючы традыцыі байкапіснага выкрыцця бюракратызму і валакіты, але ўжо на новай фактычнай аснове. Варта прыгадаць байку “Даведкі”, дзе дастаецца тым, хто не дбае пра сумленныя службовыя адносіны, любіць з асалодай “паганяць” просты люд па розных кабінетах.

“Зайдзіце ў пяты кабінецік!”
А там: “У першы трэба вам!”
А з першага паслалі ў трэці...
А ў ім — паслаў кагосьці сам.

Прачытаеш такую байку і адразу ўзнікае згадка пра сучасныя праблемы бюракратызацыі, якія сталі вялікім сацыяльным злом, бо зневажаюць чалавечую годнасць.

Аўтару ўласціва ўменне “падглядзець” само жыццё, адкрыта і выразна перадаць ягоныя непрыглядна-ідыёцкія праявы, якія супярэчаць здаровай чалавечай логіцы і маральным прынцыпам, апустошаным рыначнымі адносінамі. Яны відавочны ў байках і сатырычных вершах “Воўчая прэмія”, “Перабудаваўся”, “У аўтобусе”, “Рабацяга” і шэрагу іншых. Напісаныя ў розныя часы, яны не страчваюць надзённасці, бо кожны “вязе” сваю ідэю, нясе выкрывальную місію. Скажам, як у байцы “Пра “Дзірол”, дзе ёсць звычайныя для гумарыстычна-сатырычных твораў гульня слоў “дзірол-абдзірол”.

Трапна “страляюць” па п’янстве сатырычныя творы “Маладыя самагоншчыкі”, “Маладзіла”, “Нюх”, “Бачэйкаўскія зданькі”, паказваючы і небяспечнасць з’явы, і сучасных алкаголікаўп’янтосаў, якія страчваюць чалавечае аблічча.

У творах Б. Бележэнкі нямала камедыйнага і камічнага. У іх закранаецца шырокае кола праблем, жывуць яго вялікасць смех, сатыра, здаровы гумар, якія лечаць чалавечыя хібы і заганы, спрыяюць усталяванню здаровай маральна-псіхалагічнай атмасферы цёплых, даверлівых і паважлівых адносін паміж людзьмі, так неабходных для нармальнага жыцця.

Міхась КУЗЬМІЧ

№ 4 29 студзеня 2010 г.







Соф'я
ШАХ

* * *

А мамы няма анідзе на зямлі...
Усё тыя ж пагоркі, лугі і палі,
усё тое ж у дрэў вузлаватае голле,
а мамы няма
і слядоў у ваколлі.
Вятры то шалеюць,
то зноў ласкавеюць,
дажджы то буйнеюць няўзнак,
то драбнеюць,
і сцежкі то ў снезе штораз,
то ў вадзе,
а мамы —
нідзе ў белым свеце, нідзе.
Уздымецца сонца,
ускоціцца поўня,
разгорнуцца зоркі
ў глыбінях прадоння...
Ні ночы, ні дні —
не памочнікі мне:
як вечнасць, адмоўе магутнае «не».

* * *

Ну што ты зробіш,
— зноўку нібы сон —
з былымі аднакласнікамі стрэча.
Другі ўжо раз апанаваў так ён,
так захапіў паўдня
і цэлы вечар.
Наяве — сон.
Рэальнасці — ані.
Ну не ўспрымаецца
і доляй праўды
ні ўзняты шал
чарговай мітусні,
ні смех, ні спеў,
ні споведы, ні жарты.
Усё як бы за нейкаю смугой,
за нейкім шчыльным
часавым туманам,
што стаў хоць
невідочнаю сцяной,
але трывалай
і наканаванай.
Як быццам зноў
адбыўся збой няўзнак
у памяці, ў душы,
у слыху-зроку, —
сучаснаму з мінулым аніяк
адначасова не прыйсці да толку.
Мінулае з сучасным...
Новы шквал
нахлынуў, асляпіў да аглушэння
і знік, жывы пакінуўшы запал,
каб зноў душа
хварэла раздваеннем.

* * *

А над Азарычамі
сонейка ўзышло,
прабілася скрозь
зацяжную хмарнасць, —
не толькі мне,
як бы і дню на радасць
распрамянілася нясмелае святло.
Чамусьці менавіта
ў час кароткі той,
калі я свой пасёлак праязджала,
калі яго вачыма атуляла
і абдымала ўзрушанай душой.
Як засвяцілася
ў сівых аблоках высь,
як зацяплелася лагодна просінь,
як быццам на двары
зусім не восень,
а існа майскі дзень
пранікіывы якісь...
І мне здалося,
гэта мамачка мяне
з вышынь сваіх
завоблачных сустрэла,
усмешкаю ласкавай прасвятлела
у нашай з ёю родна-любай старане.
А то чаму ж
за зіхаценнем тым услед,
як толькі мы Азарычы мінулі,
зноў хмары
неба густа зацягнулі
і заімжэў,
і зажурыўся белы свет?..

* * *

Нічога не вернеш,
нічога не вернеш, —
ні-чо-га.
Здаецца нат,
бліжай (і ў гэта ўжо верыш)
да Бога,
чым да незапамятных дзён,
дзе малечай
няўцямнай
штоночы, шторання,
штодзень і штовечар —
ля мамы.
Утульна, няўтульна,
спакойна, не надта, —
мінула.
Мінула усё, абярнуўшыся стратай
прачулай.
Няма ні разбітага нават карыта,
ні шчэпкі, ні трэскі, —
прысвоена ўсё назаўсёды нябытам
ўсяленскім.





Алег
САЛТУК

## Сон

Сон аднойчы прысніўся вясёлы:
У самотнай начной цішы
Ці то лебедзі, ці то анёлы
Там былі, дзе ніводнай душы.

Я глядзеў у вышыню, што ёсць сілы,
І не бачыў нічога, акром
Іх, таемных, такіх белакрылых,
Над маім паўзабытым жытлом.

Яны ў небе бяздонным стаялі,
Не ляцелі нікуды ані,
А пасля незаўважна знікалі
Ў недасяжнай сваёй глыбіні.

Я ўглядаўся,ірваўся за імі,
Я спасцігнуць, хто гэта, жадаў.
Покуль недзе ў завоблачным дыме
З іх апошні зусім не прапаў.

Не магу я пра сон той забыцца:
Нада мной —
белакрылая раць…
На зямлі нам жыццё толькі сніцца.
Дзе яно, трэба ў неба спытаць.

## Ціш

Такая слепкая зіма,
Што хочацца зажмурыцца!..
Тваіх слядоў даўно няма
Ні ў свеце, ні на вуліцы.

Усё ачмурана наўкол,
Ад снегу голле ломіцца.
Снягір — руплівы навасёл —
Выклёўвае саломінку.

Снягі ідуць, снягі нясуць
Сцягі ўрачыста-белыя.
Ціш можна вуснамі крануць
Падатліва-самлелую.

Цябе няма, твае сляды
Снягамі зацярушаны…
Гудуць настыла правады
Над акалелай грушынай.

## У вёсцы

Жыву зімой у дзікай вёсцы,
Дзе у піліпаўку ваўкі
Глядзяць і выюць на нябёсы
Так, бы канчаюцца вякі.

Пазёмка круціцца вужакай,
Б'е размяцеленым хвастом.
І аніводнага сабакі
Няма на дзесяць вёрст кругом.

## Суд

Як настане час і Судны дзень
Нас на пакаянне ўсіх пакліча,
То лічына з кожнага спадзе,
Кожнае адкрыецца аблічча.

Колькі будзе голых каралёў,
Колькі раптам адусюль паўстане
Вырадкаў, хлусліўцаў, халуёў,
Падхалімаў у высокіх званнях!

Яшчэ больш убачыцца рабоў
Па прымусу і добраахвотных,
Хто заўжды
і ўсюды ўраз гатоў
На любую подлую работу.

Маскі ўсё ж —
не вечныя — спадуць
Некалі; грахі пакажуць вушы.
І настане найвышэйшы Суд
Боскі суд і жах
у чорных душах.





Уладзімір
МАРХЕЛЬ

## Максімы

* * *

Пра ісціны не думаць, а пра віны —
Не толькі перад продкамі правіны.

* * *

Што ўжо думаць пра мінуты,
Калі час твой прамінуты.

* * *

Пагляды быццам, бы са сталі
То кім жа вы сягоння сталі?

* * *

Ён самы граматны між намі нават:
Найболей мае ганаровых грамат.

* * *

І не першы, і не соты
Не запоўніць труцень соты.

* * *

Хоць ты пакінуў родныя Паставы,
Але не памяняў сваёй паставы.

* * *

Няма на свеце нораў,
Дзе ваш схаваўся б нораў.

* * *

Быць-не быць, але ўсё-такі годзе
Славіць глупствы свае
ў новым годзе.

* * *

Калі наўкол нікога, акром варты,
Якой свабоды мы з табою варты?

* * *

За ідэю — быў яго зачын,
А працяг праводзіўся — за чын!

* * *

Выходзіў ты навошта з лёх,
Калі пад ногі злыдням злёг?

* * *

Што застанецца ад нас потым,
Калі ўсё чыста пойдзе потам.

* * *

Мне не да стрэлаў, не да куль,
Але трываць цябе дакуль?

* * *

Сваё буду права каваць —
Хоць стануць і правакаваць.

* * *

Вырашаеш ты задачу:
Грошай колькі ўзяць за дачу?

* * *

Ці схавацца ворану за ворана,
Калі прыбрана ўсё і ўсё заворана.



Фота Кастуся Дробава

# Вуліцы і людзі



Уладзімір СЦЯПАН

## Акварэльныя малюнкі

### Страла

З амерыканскіх клёнаў цёк сок. І з таполяў абпілаваных, і з каштанаў цёк сок… Кульцістыя дрэвы падпіралі сіняе неба побач з чырвонацаглянымі гаражамі... З амерыканскага клёна Толік зрабіў сабе лук. А дамы-чатырохпавярховікі на Кастрычніцкай ружавелі, як зефір. Пад абпілаванымі дрэвамі сохла бялізна, і яна нагадвала пра снег. Любка ішла па вуліцы. Ёй было васемнаццаць. Вочы шэрыя… Толік стаяў на грукатлівым даху гаража. У руках трымаў лук з амерыканскага клёна. Адзінаццацігадовы хлопец ускладаў на цецыву стралу, зробленую з ваконнага штапіка. Плюнуў на пальцы і напяў лук.

Не кажыце мне ніколі пра маю малую радзіму брыдў. Ніколі не кажыце!

Ціўкнула нацёртая смалой вяроўка. Страла ўдарыла Любу ў плячо. Войкнула дзеўка. Падняла стралу і зламала злосна. Да нашага пад'езда заспяшалася.

“Во, бляха. Заўважыла!” — Плюнуў Толік на кірзовы бот. Люба пайшла да Толікавых бацькоў. Яна несла ў руцэ паламаную стралу. А бацькі — на працы.

У кватэры Любу сустрэў Шурка, старэйшы Толікаў брат.

Не кажыце на маю малую радзіму брыдкія словы. Не кажыце!

Бо Толік — мой аднакласнік і сусед. А яго лук з амерыканскага клёна і страла са штапіка ваконнага — чароўныя. Шурка з Любай сорак два гады жывуць разам.

А Толік на небе.

### Цукерка

Сапраўдны сябар заўсёды толькі адзін.

Мы з Валодзькам дапамаглі маёй суседцы цётцы Ніне перанесці з гаража ў кватэру дванаццаць парожніх трохлітровых слоікаў. Суседка закатвала гуркі і памідоры. Прынеслі і не пабілі. Валодзька схапіў мой мячык і пабег на школьную пляцоўку. Суседка пераглядзела кожны слоік і дала мне дзве вялікія шакаладныя цукеркі. Вядома, што адну мне, а другую Валодзьку. Як жа інакш. Я сваю з'еў у пад'ездзе, фанцік выкінуў, рот выцер. Пабег да школы. Мой сябар сам-насам ганяў па пыльным стадыёне мячык. Я радасны аддаў Валодзьку цукерку. Ён разгарнуў фанцік. Глянуў на мяне. Я зрабіў выгляд, што цукерка была ўсяго толькі адна. Сліну пракаўтнуў, калі згадаў яе смак. Валодзька адкусіў палову, а другую падаў мне. У мяне пачырванелі вушы, калі ўзяў і пачаў есці. Мой сябар падфутболіў мячык. Ён завіс у паветры над пыльным стадыёнам. Потым мячык упаў і пачаў скакаць. Бух-бух-бух…

Я выціраў рот і сачыў за мячыкам… Школы на Кастрычніцкай, дзе мы вучыліся, няма. Заместа яе — дзіцячы садок.

Валодзькава цукерка аказалася смачнейшай...

### Дзевяць-дзесяць

Мішка Мармуль сядзеў пад пальмай у фае Палаца культуры і граў на чорна-белым баяне вальсок. У Мішкі Мармуля няма прыпяканкі, рагаткі, ножыка, самаробнай клюшкі. Мішка тоўсты і няўклюдны. Ён не ўмее даваць нырца, плавае толькі па-сабачы, не ўмее з'язджаць з ледзяной гары на нагах — скрозь падае на ср… і сунецца, як торба з бульбай. Ён не мацюкаецца, не крадзе ў бацькі папярос, не ўмее вадзіць мячык…

Я стаю побач з гардэробам, камячу зімовую шапку і гляджу, як кароткія Мішкавы пальцы бегаюць па касцяных кнопках, як Мішка наморшчвае нос і прытупвае сабе кірзавымі ботамі. Побач з маімі нагамі расцяклася па чыстым паркеце брудная лужына расталага снегу. Мішка заплюшчыў лупатыя вочы. Хоць бацькі і настаўнікі ставяць яго ў прыклад, але Мармуля няма за што паважаць.

Мішка з казённым баянам застаўся пад пальмай, а я пайшоў. Мне было дзевяць, а Мішку дзесяць. Я мог падысці і так пікнуць Мішку ў бок, што ён паваліцца пад пальму і пачне румзаць.

Але Мішка граў вальсок, а мне не ставала паветра.

### Дэнатурат

Дэнатурат я не піў, але выгляд яго мне падабаўся заўсёды. Радасны анілінавы колер хваляваў. Адразу зразумела — гарыць звонка-празрыстая смярдзючая вадкасць выдатна. А мужчыны пілі — бачыў на свае вочы. Моршчыліся, але каўталі і салам заядалі.

Яфіменкі жылі ў трэцім доме. Дзве дачкі, брат і бацькі. Старэйшы Яфіменка дробны і худы, а яго жонка мажная, у брудным сацінавым халаце з рукавамі закасанымі. Рукі, як ногі. Яна заўжды крычала на падлеткаў, каб да яе дачок не чапляліся. А да іх ніхто чапляцца і не збіраўся, бо дурніцы, як ёсць. У Яфіменак былі свінні ў дрывотні. Свінняў яны гадавалі, памы са сталоўкі па Кастрычніцкай насілі ў тазах і вёдрах, расплёхвалі. Толькі бацька не насіў, бо задохлы. Ён другі год пакутаваў на страўнік. Яму нават аперацыю рабіць адмовіліся. Каб не пакутаваць далей, Іван Яфіменка вырашыў скончыць жыццё самагубствам. Узяў літровую бутэльку дэнатурата і падняўся на гарышча. Там выпіў да апошняй кроплі і паваліўся тварам у птушынае лайно. Вечар і ноч на гарышчы ляжаў. Знайшла суседка, калі панесла бялізну вешаць. Крыку нарабіла, галубоў распалохала. Іван яшчэ не сканаў. Завезлі ў бальніцу. Праз тыдзень Івана выпісалі дамоў. Выпісалі, а ён не памірае. Месяц не памірае, другі не памірае… Усе чакаць перасталі. Іван схадзіў праверыцца, а яму дактары сказалі, што ён здаровы і вантробы, як новыя. На Каляды Яфіменкі адну свінню забілі, а пад Вялікдзень другую. Дактарам свежаніны занеслі.

Дэнатурат запаважалі не толькі на Кастрычніцкай, але і на Школьнай, і на Пасялковай…

### Інтэрнат

Інтэрнатаўскіх сірот мясцовыя ніколі не білі. Фабзайцаў малацілі, а дзяцей у шэрых палітонах і аднолькавых чаравіках не чапалі.

Чатырохпавярховы цагляны будынак стаяў за парканам. Брамка, вароты, жалезны паркан. Не падабаўся мне будынак.

Гурток выяўленчага мастацтва наведвалі два падлеткі з інтэрната. Меншага звалі Мішка Гарбачоў. Другі — васьмікласнік Лёнік. Ён на два гады старэйшы за Мішу. Лёнік маляваў кепска, а Мішка выдатна. Яны хадзілі ў гурток з восені, з першага верасня. Пасля Калядаў не з'явіліся колькі разоў, і кіраўнік гуртка паслаў мяне дазнацца, чаму хлопцы не ходзяць. У інтэрнаце было чысцюсенька, светла і цёпла. Я сустрэў Лёніка. Ён сказаў, што Мішка маляваць не будзе. Калі выходзіў, то заўважыў Мішку. Гаварылі не вельмі доўга. Мішка прызнаўся, што Лёнька яму забараніў маляваць. Я развярнуўся шукаць васьмікласніка, каб даць у рыла, але не знайшоў. Лёнька схаваўся.

Праз два тыдні Мішка ўцёк са школы-інтэрната. Не знайшлі…

У школу-інтэрнат я заходзіў толькі аднойчы.

Інтэрнат, турма, бальніца заўсёды далёка, нават, калі яны і на суседняй вуліцы...

### Будзільнік

Старыя, асабліва цёткі, кідаць камяні не ўмеюць…

Маскаліха хадзіла па вуліцах гэ.пэ. у доўгай чорнай спадніцы, хустцы, насунутай на вочы, у карычневай кофце і хатніх тапках. Хадзіла хутка і нячутна. Дробная старая цётка, прыгнутая і запалоханая жыццём. Мы — дзеці, бегалі следам, круціліся вакол і крычалі: “Будзільнік-будзільнік-будзільнік!” Яна сварылася, магла няўмела шпурнуць камянём, і не патрапіць…

Казалі, што Маскаліха раней працавала на шклозаводзе прыбіральшчыцай. У канторы падлогу шаравала, смецце выносіла. Там і скрала з дырэктарскага кабінета будзільнік. Спадабаўся напэўна так моцна, што не змагла і стрымацца. Схавала пад спадніцу, а калі выходзіла з завода, то ён пачаў звінець. На прахадной падаў голас. Злодзея затрымалі і з працы звольнілі. Відаць, даўно гэта было, але не забылася. Так яе і звалі — Будзільнікам, а яна злавалася.

Яна магла ісці па вуліцы, няхай сабе і па Кастрычніцкай, раптам спыніцца, скласці далонь ракаўкай, прыціснуць да вуха… Стаяць на адным месцы і паварочваць галаву. Даволі доўга магла стаяць і слухаць, толькі ёй чутнае. Можа, далёкае, а можа, і блізкае…

Гэтыя яе нечаканыя прыпынкі пасярод вуліцы, палохалі. Можа, яна чула, як бяжыць-кропае час. Абсалютна нябачны, як паветра. Можа яна ведала, што кожнаму празвініць будзільнік і тады яго звольніць… Мне здаецца, што я раблю старую цётку занадта містычнай і значнай, а яна, насамрэч, самая звычайная – трапілася на крадзяжы гадзінніка.

Але што ж яна так уважліва слухала?

### Кашуля

Цыгане з'яўляліся ў гэ.пэ. вясной і восенню. Калі садзілі і капалі бульбу.

Запомніў, як цыган выцяў пугай свайго цыганёнка. У таго ажно кашуля раз'ехалася на спіне. Цыганёнак качаўся на асфальце і крычаў. А цыган-бацька сеў на калёсы і паехаў. Цыганёнак, як сабачка, пабег даганяць.

У клубе ішоў фільм “Няўлоўныя мсціўцы”. Там геройстваваў цыганёнак Яшка ў чырвонай шаўковай кашулі.

### Ціхая вуліца

Вуліца Садовая ціхая. І людзі там спакойныя. Нават і расказаць няма чаго пра гэтую вуліцу з прыватнымі дамкамі і прыгожай назвай. Хіба што як на ёй знайшлі Толікаву руку. Сабака выцягнуў руку на асфальт і трыбушыць пачаў. Убачыў гаспадар, загадаў, каб цуцык брыду кінуў. А сабака кідаць не хацеў і да гаспадара не ішоў… Потым і астатнія часткі Толіка пазнаходзілі: нагу, галаву, тулава. Хлопцы вучыліся ў адной школе, бо жылі на Садовай. Толік з'ехаў на шабашку першым, а потым і суседзяў у сваю брыгаду запрасіў. Жэнька з Ігарам паехалі, папрацавалі. Казалі, што Толік не разлічыўся з хлопцамі. Вось яны і не даравалі яму. Вуліца Садовая самай ціхай і спакойнай лічылася, з Кастрычніцкай, ці Першамайскай — не параўнаць.

### На школьнай

Віцьку Сухога папрасілі прыбегчы другім, а ён прыбег першым і атрымаў грамату. Ён мог і яшчэ пару кружкоў па парку нарэзаць. Дыхалкі хапала.

Хлопцаў трое, а Віцька адзін. Усе трое старэйшыя за яго і нашмат дужэйшыя. Віцька крыкнуў і пабег. Праз кусты, без сцежак. І хлопцы кінуліся следам. Сухога загналі да бетоннага паркана. Пастка. Віцька схапіў дрын. Калі дрын зламаўся, васьмікласніка пачалі біць…

Потым стаміліся, кінулі і пайшлі.

Віцька падняўся на карачкі, а потым і на ногі стаў. Языком выцягнуў выбіты зуб, які ледзь трымаўся. Выплюнуў разам з крывёй і паспрабаваў зрабіць крок. Віцька хіснуўся, і каб не паркан, то ён бы і ўпаў. Расшпіліў непаслухмяную прарэху і памачыўся. Было балюча, але галава трохі перастала круціцца.

Ноччу падлетку зрабілася кепска. Ванітавала. Бацькі спалохаліся, выклікалі “хуткую”. Доктар і паведаміў у міліцыю. Участковы прыйшоў у палату, але Віцька не сказаў пра трох хлопцаў з вуліцы Школьнай. Маўчаў і глядзеў на тры зорачкі лейтэнанцкіх пагонаў…

Гэта быў верасень 1976.

З сярэдзіны верасня і амаль да канца вясны Віцька ездзіў у Гомель па тры разы на тыдзень. Усім казаў, што займаецца ў гуртку, дзе робяць мадэлі планераў. Шалёсткая папера, клей, акуратныя рэйкі часам з'яўляліся на яго стале. Потым, у траўні ездзіць перастаў, рэйкі, клей і папера зніклі. Прыехаў да Віцькі высокі мужчына ў сіняй кашулі. Ён угаворваў Сухога вярнуцца ў секцыю боксу і працягваць займацца. Віцька сказаў, што яму гэта нецікава. Легкавік з сінім надпісам “Дынама” з'ехаў. Гэтая падзея засталася амаль незаўважанай.

Першым быў Шурка па мянушцы Малы. Шурка і рыпнуцца не паспеў. Сухі зламаў яму нос і выбіў два пярэднія зубы. Упаў пасля трэцяга ўдара і застаўся ляжаць.

Косцік трапіўся за клубам. Лебедзь ішоў і курыў. Сухі з'явіўся перад ім, як з пад зямлі. Косцік вышэйшы за Віцьку на галаву і ў плячах шырэйшы. Лебедзь галіўся і гадаваў чорненькія вусы. Бойка скончылася хутка.

І Фэда Лашкевіча Віцька адкалашмаціў тым жа вечарам. Калі падбеглі Фэдавы сябры са Школьнай, то Сухі сышоў. Фэд курчыўся на зямлі і стагнаў.

Участковы не мог паверыць, што Сухі адзін перамог трох. Вельмі дробным і недалужным выглядаў васьмікласнік у параўнанні з хлопцамі з вуліцы Школьнай.

Віцьку Сухога забіла раўнівая каханка. Яна была малодшай сястрой Косціка Лебеды. Жанчына перацяла Віцькава горла, калі той спаў. Здарылася гэта на вуліцы Школьнай, на Калядах, пачынаўся 1989 год.

### Сустрэча на Камунальнай

Іду па вуліцы Камунальнай, а з таполяў ляціць пух.

...Мне давялося бачыць тысячы анёлаў. Можа, і больш. Намаляваных на сценах сабораў, выкладзеных з каляровых каменьчыкаў, высечаных з мармуру, выразаных з дрэва, адлітых з бронзы і жалеза, злепленых з гліны, пластылінавых і васковых. На дошках абразоў і палотнах. Анёлаў, намаляваных на паперы… Дзесяткі тысяч рукатворных анёлаў. І ні разу не бачыў сапраўднага — “жывога”. Хіба так можа быць? Анёлы існуюць, але мне пакуль не пашчасціла ўбачыць...

Па Камунальнай ляціць таполевы пух. Вочы пачынаюць слязіцца і мне здаецца, што пад ружовай трансфарматарнай будкай стаіць ён. Пры шэрых дзвярах, на якіх чарнее трафарэтная выява чэрапа і маланкі…

### Другое неба

Гэта смачней за соль і цукар, гарачым языком лізнуць неба…

Хто не хацеў дакрануцца да сінечы? Далонню, чырвонай ад іржы, успатнелай шчакой, спіною, ці грудзямі пад надзьмутай высокім ветрам кашуляй адчуць яго бязмежнасць і глыбіню. У адзінаццаць яшчэ не паадвальваліся крылы, а можа, дарослыя яшчэ не паспелі адарваць нябачныя дзіцячыя крылы.

Самае высокае на гэтым баку шашы — чырвоны комін кацельні. Ён толькі крыху ніжэйшы за заводскія коміны. Калі цёмна, то комін кацельні глядзіць на зоры тэлескопам. А за вялізнымі вокнамі кацельні катлы і печы, качагары і агонь.

Вечар. Атрамантавае неба. І безліч бела-сініх зорак.

Тры падшыванцы вырашылі ўзлезці на комін. На самы верх. Але спакуса паглядзець у запатнелае вакно жаночай лазні, у прадрапанае ў брудна-салатавай фарбе вочка — аказалася большай, чым прага вышыні. Большай, чым прага бязмежная неба… І толькі адзін з трох падшыванцаў, пакуль яго сябры па чарзе прыпадалі ілбамі да шкла, палез на комін.

Ён ускараскаўся на самы верх. Ледзь не разбіўся, калі з'едзеная іржой скобка прыступкі зламалася… Ён лізнуў кроў з рассечанай губы. І гэта быў смак неба.

Акрамя гэтага ён нічога не расказаў цікавага. А яму пра жаночую лазню гаварылі і гаварылі…

Цяпер таго коміна няма.

Як няма ў мяне і другога неба.



Наш тэатр — з'ява унікальная, самабытная. На працягу ўсёй сваёй гісторыі ён непарыўна звязаны са сцэнічным мастацтвам Расіі, Украіны, Польшчы… Беларускі тэатр вабіла і вабіць драматургія суседніх краін, магчымасць абнаўлення… Варта нагадаць, што з 1929 года ў Мінску працаваў Польскі вандроўны дзяржаўны тэатр БССР, з 1939 года ў Гродне — Дзяржаўны польскі тэатр БССР і Дзяржаўны польскі тэатр лялек БССР. Дзяржаўны рускі драматычны тэатр Беларусі, вядомы сёння як Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага, з'яўляецца адным з самых цікавых сучасных прафесійных калектываў краіны. А быў ён заснаваны ў Бабруйску ў 1932 годзе на базе вандроўнай рускай трупы пад кіраўніцтвам Уладзіміра Кумельскага.



# Беларускі тэатр між Захадам і Усходам

З даўён ладзіліся сувязі беларускага і польскага тэатраў. Вядома, што праз Польшчу з Заходняй Еўропы прыйшлі да нас тэатры, без якіх нельга ўявіць гісторыю айчыннага сцэнічнага мастацтва, — батлейка і школьны тэатр. У Беларусі з самых першых крокаў прафесійнага тэатра была вялікая цікавасць да польскай літаратуры. Інсцэніроўкі Э. Ажэшкі "Хам" і "У зімовы вечар" ставіліся Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі (1917), другі з названых твораў — знакамітай трупай Уладзіслава Галубка. Беларуская ж драматургія ставілася ў Польшчы: "Хто смяецца апошнім" К. Крапівы — Варшаўскім тэатрам "Сірэна", "Несцерка" В. Вольскага — Варшаўскім Тэатрам Нарадовым, "Трыбунал" А. Макаёнка, "Парог" А. Дударава — Беластоцкім тэатрам імя Венгеркі, "Стомлены д'ябал" С. Кавалёва — Люблінскім драматычным тэатрам імя Ю. Астэрвы і г.д.

Польская п'еса на працягу дзесяцігоддзяў захоўваецца ў рэпертуары тэатраў Беларусі. З канца 1980-х п'есы С. Мрожака даволі актыўна ставіліся на беларускай сцэне. Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паказваў "Эмігрантаў" (рэж. М. Пінігін, 19-89), "Дом на мяжы" (рэж. А. Якімец, 1993), "Чароўную ноч" (пастаноўка і сцэнаграфія Д. Саладухі і Д. Марыніна). У Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа ішлі "Танга" (рэж. К. Ратніцкі, 1989), "Шчаслівае здарэнне" (рэж. Б. Эрын, 1992). Дзяржаўны маладзёжны тэатр Беларусі іграў "Запрашэнне на танга" (рэж. А. Маркевіч, 1995); Брэсцкі тэатр драмы і музыкі — "Страляць хочацца" (паводле п'есы "Кароль", 1996), Мінскі абласны драматычны тэатр (Маладзечна) — спектакль "Кароль" (рэж. А. Растрыжэнкаў, 1997) і "Забава" паводле С. Мрожака (рэж. І. Блінкоў, 2007)…

Застаючыся і ў наш час вельмі рознымі, не падобнымі адзін да аднаго, беларускі і польскі тэатры падтрымліваюць і развіваюць творчыя сувязі. Нашы тэатры запрашаюцца на тэатральныя фестывалі ў Торунь, Кракаў, часцей — у Люблін, на "Тэатральныя канфрантацыі", дзе дэманструюцца амаль усе кірункі сучаснага польскага тэатра, у якім аддаецца перавага драматургіі абсурду, жорсткай рэжысуры, што дыктуе кідкія акцёрскія фарбы ў спалучэнні з нечаканымі натуралістычнымі эфектамі.

Не дзіўна, што, трапляючы на люблінскі фестываль, тэатры з Беларусі знаёмяць польскага гледача з зусім іншай сцэнічнай культурай, дзе ёсць імкненне выканаўцаў здзівіць пражываннем лёсаў сваіх персанажаў, паглыбленнем у тэкст, у тонкасці ўзаемаадносін. Памятаю, з якой трапяткою ўвагай прымала люблінская зала "Саламею" С. Кавалёва ў пастаноўцы Брэсцкага тэатра драмы і музыкі (рэж. А. Бакіраў). Прывабнай, мудрай і незвычайна шчырай была актрыса Тамара Ляўчук ў ролі Саламеі. Актрыса вылучалася майстэрствам і жаночай абаяльнасцю. Яе гераіня, асоба прывабная, прымала ўсе ўдары лёсу, спадзеючыся толькі на сябе і сваё ўласнае шанцаванне. Яе ж мужы мільгалі, як у калейдаскопе, прыходзілі і знікалі, нібы ў бездань, так і не здолеўшы зрабіць шчаслівай выключную, не падобную да іншых, Саламею. Але ў кожным выпадку гераіня прымала каханне як падарунак і вялікую раскошу. Спектакль жа "Трыстан і Ізольда" паводле С. Кавалёва, паказаны Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы (рэж. А. Гарцуеў) амаль на працягу ўсяго дзеяння суправаджаўся апладысментамі. Так удзячна ўспрынялі гледачы створаную на сцэне атмасферу жыццярадаснага свята маладосці і закаханасці. Купалаўская моладзь прадэманстравала зладжаны акцёрскі ансамбль. Асабліва цікавымі і пераканаўчымі былі вобразы, створаныя Аляксандрам Малчанавым (Кароль Марка), Святланай Анікей (Брагіня), Кацярынай Яворскай (Ізольда) і Андрэем Гладкім (Трыстан).

На купалаўскай сцэне А. Гарцуевым пастаўлена "Івона, прынцэса Бургундская" В. Гамбровіча (вядома, што наватарскай і незвычайнай стала пастаноўка гэтай п'есы Гжэгажам Яжынай у Кракаўскім Старым тэатры). Наш спектакль быў паказаны ў Любліне на фестывалі, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння драматурга, які застаецца для палякаў улюбёным і сучасным аўтарам. Магчыма, таму, што галоўныя ў яго творчасці — тэмы талерантнасці, павагі і паразумення паміж людзьмі.

А. Гарцуеў у "Івоне…" імкнецца да відовішчнасці, тэатральнасці, характарнасці ў падачы вобразаў. Гэта падкрэслена і ў святочным афармленні сцэны, і ў касцюмах кожнага з герояў (мастак А. Касцючэнка, мастак па касцюмах А. Ігруша). Стрыманасць, замкнёнасць, нават недарэчнасць характару падкрэсліваюць пастэльныя фарбы і малюнак адзення Івоны, якую іграе Г. Хітрык. Яркую, эфектную асобу сімвалізуе вогненна-чырвоная сукенка каралевы Маргарыты (актрыса З. Белахвосцік). Маляўнічы, уражлівы вобраз караля ўвасабляе У. Рагаўцоў. Купалаўская "Івона" вельмі адрозніваецца ад польскіх пастановак. І не толькі тым, што спектакль ідзе на беларускай мове, але, у першую чаргу, высокім прафесіяналізмам выканаўцаў. І яшчэ тым, што Гарцуеў будуе пастаноўку ва ўласцівай яму дакладна выверанай рэжысёрскай манеры. Спектакль купалаўцаў — пра няпростыя ўзаемаадносіны паміж людзьмі, ці то ў каралеўскім, ці то ў звычайным свеце; пра тое, як цяжка неардынарнай асобе вытрымаць і выжыць у атмасферы фальшу і непрызнасці. Беларускае прачытанне п'есы В. Гамбровіча атрымалася цікавым і незвычайным для польскага гледача.

Польскія тэатральныя калектывы штогод запрашаюцца ў Брэст на Міжнародны тэатральны фестываль "Белая Вежа". І іх удзел у конкурсных паказах заўсёды вельмі прыкметны. "Шлюб" В. Гамбровіча, пастаўлены Люблінскім драматычным тэатрам імя Ю. Астэрвы (рэж. М. Каханчык, мастак П. Дабжыцкі, кампазітар Т. Баерскі), — своеасаблівае адкрыццё для нашага гледача. П'еса "Шлюб" далёкая ад банальных і побытавых замалёвак з жыцця і варыяцый на тэмы жаніцьбы. Шлюб — толькі падстава, толькі намёк на важны крок у жыцці чалавека. Рэжысёр М. Каханчык следам за драматургам прадстаўляе гледачу відовішча складанае, глыбока філасофскае, — пра драму сучаснага чалавека, які церпіць крах у жыцці. Нягледзячы ні на што, герой імкнецца вярнуць страчанае: такое неабходнае каханне, веру ў чысціню, сапраўднае сяброўства, надзею на бацькоўскую падтрымку. І нібы воляю чараўніка, перад ім з'яўляецца жаданы новы свет, дзе ўсё можна пачаць спачатку. Вось толькі, на жаль, мінулае не адступае, нібы прывід, дыктуе свае нечалавечыя законы, патрабуе расплаты, крыві, смерці. Так, нечакана для сябе, герой пачынае жыць і кіраваць у свеце, дзе ўсе навокал хлусяць, нагаворваюць адно на аднаго, зайздросцяць нават сваім блізкім. А ці можна жыць у свеце, у якім не існуе чалавечых узаемаадносін?

Мастак П. Дабжыцкі будуе на сцэне незвычайны палац з металічных халодных канструкцый, з вялікай пустой залай, якую паступова засяляюць прывіды з мінулага. На бліскучую лёдавую падлогу выплывае грацыёзная масоўка і застывае ў чаканні музыкі жорсткага балю. Дарэчы, масоўка ў спектаклі палякаў — галоўны чыннік у сцэнічным дзеянні. Яна ўвесь час то падыграе герою, то спрачаецца ва ўмоўным дыялогу. Яна — гэта людзі і абставіны, гэта сябры і ворагі, ад якіх залежыць наша жыццё. "Усё вырашаецца паміж людзьмі. Усё ідзе ад людзей. Словы — не факты. Але менавіта імі можна і абляшчыць, і забіць...". Спектакль "Шлюб" Люблінскага драматычнага тэатра дэманструе высокі ўзровень майстэрства найстарэйшай у Польшчы акцёрскай трупы, а таксама знаёміць з сапраўдным прафесіяналізмам пастаноўшчыкаў, якія здолелі ўзняць праблемы не толькі рэлігійнай, але і свецкай духоўнасці чалавека і грамадства.

Частым госцем фестывалю "Белая Вежа" з'яўляецца тэатр "Правізорыум" з Любліна. Гэта адзін з самых вядомых у Польшчы і Еўропе альтэрнатыўных тэатраў. Дата яго стварэння — 1976 год. На залеташнім фестывалі трупа паказала ў Брэсце 400-ы спектакль "Фердыдурке" паводле В. Гамбровіча (пастаноўка Я. Апрыньскага і В. Мазуркевіча, сцэнаграфія і касцюмы Е. Руцкага). Гэты твор ёсць узорам польскай драматургіі абсурду. У ім прадстаўлены не героі, а "брыдкі твар", што жыве ў кожным чалавеку і якому не патрэбны добрыя манеры і этыкет і які здольны на самыя вычварныя і непрыгожыя ўчынкі. Польскія акцёры Я. Бжэзінські, В. Мазуркевіч, Я. Таміца, М. Згет дэманструюць высокае прафесійнае майстэрства, працуюць з поўнай самааддачай, даводзячы ў фінале сваіх персанажаў да амаль недасягальных эмацыянальных станаў, а сітуацыю, у якой тыя існуюць, — да поўнага абсурду.

Сучасны беларускі тэатр вельмі цесна звязаны шэрагам акалічнасцей з тэатрамі суседніх краін: Польшчы, Расіі, Украіны, Літвы... Відавочна, ён існуе ў выключным акружэнні прызнаных тэатральных дзяржаў. І ўсё ж нават тады, калі ён ставіць польскую, украінскую, рускую і іншую драматургію ды запрашае рэжысёраў з-за мяжы — скажам, Анджэя Якімеца, Альгірдаса Лацкнаса ці Уладзіміра Панкова, — наш тэатр заўсёды застаецца непаўторным, самабытным і не падобным да іншых тэатраў Еўропы.

Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ

На здымку: сцэна са спектакля "Эмігранты" паводле С. Мрожака ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Фота з архіва аўтара

## Радуемся разам

Праект Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі "Выстаўка адной карціны" набывае папулярнасць. З пачатку гэтага месяца ў прыхільнікаў творчасці выдатнага рускага жывапісца-марыніста Івана Айвазоўскага (1817 — 1900) з'явілася магчымасць падзівіцца на яго знакамітае палатно "Ноч на востраве Радос", якое захоўваецца ў фондах музея. Карціна створаная ў 1850 г. — амаль праз пяць гадоў пасля марскога падарожжа мастака да берагоў Малой Азіі ды астравоў Грэчаскага архіпелага. Прыціхлае мора, начное неба ды месяцавае святло — гэтыя "героі" маляўнічай і зіхоткай кампазіцыі выклікаюць захапленне ў кожнага, хто запавольвае крок і ўглядаецца ў чарадзейны рукатворны краявід. "Ноч на востраве Радос" І. Айвазоўскага экспануецца ў НММ да 6 лютага.



Культавыя асобы ў сферы сучаснага беларускага плаката Уладзімір Цеслер і яго дачасна спачылы калега Сяргей Войчанка на пачатку сваёй прафесійнай кар'еры працавалі паасобку ці ў сааўтарстве з іншымі мастакамі. Іх творчы тандэм склаўся пры канцы 1970-х і набыў сусветную славу. За сваю 25-гадовую супольную працу гэтыя плакатысты сталі лаўрэатамі больш як чатырох дзесяткаў міжнародных конкурсаў. Трыццаць сем работ тытулаванага творчага дуэта ў 2006 годзе набыў, дзякуючы падтрымцы кампаніі "British American Tobacco", Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, папоўніўшы сваю калекцыю сучаснага беларускага плаката. І вось нядаўна трыццаць работ з таго цыкла У. Цеслера і С. Войчанкі ("The best of V. Tsesler & S. Voichenko") прыбылі ў Магілёў, у Музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі. Тут іх разнастайныя, густоўныя і дасціпныя, лірычныя і гратэскавыя, сатырычныя і філасофскія, "культурныя" (афішныя) плакаты будуць экспанавацца да 28 сакавіка. А вось у сталічнай галерэі сучаснага мастацтва "Ў" да 6 лютага праходзіць выстаўка Уладзіміра Цеслера "Вектарная прастора". Дэманструецца серыя з 12 абстрактных оп-арт-аб'ектаў — манументальных, памерам 215х210 см, чорна-белых пастэраў. Мастацтвазнаўца Таццяна Бембель, куратар экспазіцыі, назвала гэтую серыю У. Цеслера "чорна-белай сюітай", натхнёнай рытмамі тэхнагеннай цывілізацыі.



Кераміст Анатоль Концуб, атрымаўшы сваю самабытную прафесію ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, больш як 30 гадоў выкладаў у Бабруйскім прафесійна-тэхнічным мастацкім вучылішчы, дзе наладзіў падрыхтоўку спецыялістаў па мастацкай кераміцы.



Але апроч гэтай сваёй улюбёнай справы, майстар паспяхова займаецца жывапісам, ствараючы на палотнах свет непаўторнай фантазіі ды казачных вобразаў. Рознабаковы талент бабруйчаніна Анатоля Концуба прываблівае шматлікіх аматараў мастацтва на яго персанальную выстаўку "Калядны падарунак", зладжаную ў Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленікава.

Лана ІВАНОВА

На здымках: карціна Івана Айвазоўскага "Ноч на востраве Радос"; плакат Уладзіміра Цеслера і Сяргея Войчанкі "Сальнасці"; палатно Анатоля Концуба "Плаванне ў жоўтай рацэ"(2007).

Фота Віктара Кавалёва

# Белы ліст яе жыцця



На фотаздымку — прыгожая жанчына сярэдняга ўзросту актрыса — Галіна Букаціна. Яе гераіня Турусіна ўжо ў тым узросце, калі трэба забыцца пра ўласныя захапленні, а думаць пра жаніха для пляменніцы. Галіна Букаціна — у нядаўняй прэм'еры коласаўцаў "Мудрацы…"

Я памятаю гэтую актрысу маладзенькай прыгожай дзяўчынай, якая ў 1981 годзе трапіла ў наш тэатр па размеркаванні, пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Першыя ролі на коласаўскай сцэне цалкам адпавядалі знешнім дадзеным таленавітай артысткі: Аня ў "Вішнёвым садзе", Лідка ў "Радавых", Васіліса ў казцы "Дарога з чорнага царства", Русалка ў спектаклі "І быў дзень…"

Жыць першы год Галіне давялося ў тэатры. Вечарамі, калі ўсе разыходзіліся па дамах, яна слухала цішыню куліс. Адчувала, што ўся гісторыя славутага творчага калектыву жыве ў гэтых сцэнах. І палюбіла гэты тэатр назаўсёды.

Трэба зазначыць, што выпускніца БДТМІ (курс народнага артыста Беларусі Валерыя Раеўскага) яшчэ студэнткай зведала славу сталічнай артысткі. 3 купалаўцамі была і на першых сваіх гастролях у Гродне. У "Пагарэльцах" іграла сакратарку, а ў "Мікітавым лапці" — маладую гераіню Зоську.

А пачыналася ўсё з белага ліста. Першыя "тэатральныя крокі" маленькая Галінка рабіла за шырмай, на вясковай печы. Да бабулі прыходзілі суседкі, і дзяўчынка ладзіла для іх свой канцэрт. Маці Станіслава Іосіфаўна, аматарка тэатра, нягледзячы на цяжкую фізічную працу на заводзе, часта ездзіла з Маладзечна ў Мінск на спектаклі.

Добра памятаю першую сустрэчу са Станіславай Іосіфаўнай. Яна прыехала ў Віцебск на прэм'еру "Радавых". І адразу ж загаварыла са мной, як з добрай знаёмай: "Я ніколі не думала, што мая Галя паедзе так далёка ад дому. (А жыве маці ў Маладзечне і цяпер) Я ж адна, і яна ў мяне адна, думала, будзем усё жыццё побач. А, можа, вернецца яшчэ?.."

Галіна маці чакала ад мяне згоды, паразумення, а я думала толькі пра тое, як патрэбная нашаму тэатру маладая гераіня. Ролі самі знаходзілі таленавітую артыстку. Яна была і экстравагантнай Баржомі ў "Вежы", і шыкоўнай Вівіян у "Будзьце здаровы!", і вытанчанай Служанкай у "Марлен… Марлен…", і незямной Галой у "Таму што люблю…" За ролю Русалкі атрымала прыз Беларускага саюза тэатральных дзеячаў, а за ролі Служанкі ў "Марлен… Марлен…" і Галы ў "Таму што люблю…" — Гран-пры першага нацыянальнага фестывалю.

Сексуальная амазонка каралева Бона ў спектаклі "Чорная нявеста" нараджалася ў Галіны Букацінай нязроста. Менавіта падчас працы над гэтым вобразам яе так напалохаў у ліфце зламыснік, што давялося крычаць на ўвесь дом. Толькі акцёрскія здольнасці і ўратавалі жанчыну ад бяды. Містыка?.. А характарная роля кумы Марты ў камедыі "За двума зайцамі" прымусіла вышукваць зусім нечаканыя адценні ў творчай палітры. Затое з якой асалодай выходзіць актрыса на сцэну ў гэтым спектаклі!

Драматургія Аляксандра Астроўскага — мара кожнага таленавітага артыста. У "Познім каханні" Галіна Букаціна сыграла маладую ўдаву Лябёдкіну, а ў нядаўняй прэм'еры, спектаклі "Мудрацы…" паводле п'есы "На кожнага мудраца хапае прастаты" — ролю багатай удавы Турусінай. Гэтыя вобразы вельмі розныя, па-свойму цікавыя, адметныя. Ды для свайго бенефіснага спектакля актрыса выбрала менавіта "Позняе каханне". Гэта памяць пра цудоўнага партнёра, народнага артыста СССР Фёдара Шмакава, які прапанаваў п'есу А.Астроўскага ў рэпертуар тэатра да свайго 90-годдзя. Першая іх сустрэча ў спектаклі "І паміраючы дрэвы стаяць" А.Касоны была незабыўная. Фёдар Іванавіч выступаў у ролі Бальбоа, а Галіна Букаціна іграла Марту-Ісабель, бедную дзяўчыну, якая, дзякуючы запрашэнню ў дом Бальбоа, знайшла сваё сапраўднае каханне. Потым яна была Музай у спектаклі "Ружа ў чыстым полі", дзе Фёдар Шмакаў выступаў у ролі мастака Пэна.

У спектаклі "П'емонцкі звер" мяккай па натуры Галіне Букацінай давялося ўвасобіць вобраз разбуральніцы жыцця манастыра Ізабелы П'емонцкай. А ў драматычнай камедыі "І смех, і слёзы, і Любоў" — вобраз Любы, жанчыны, змучанай нераздзеленым каханнем. У чаканні шчаслівай сустрэчы з былым каханым пражывае яна доўгі дзень, які паступова пераходзіць у ноч. І гэта не пазбаўляе ад бязглуздага існавання без кахання. У спектаклі "Дадому" гераіня Галіны Букацінай фраў Лора даўно страціла сувязь з радзімай, затое можа дазволіць сабе "купіць" каханне небагатага эмігранта Івана. Але чым можа скончыцца такая здзелка?.. Спектакль, пастаўлены Віталем Баркоўскім, паказаны на міжнародных тэатральных фестывалях, атрымаў высокія ацэнкі крытыкі. Прыемна… Але як цяжка пражыць вось такое жыццё на сцэнічнай пляцоўцы!

Дзякуй Богу, у сям'і Галіны Букацінай усё па-іншаму. Муж — артыст Валянцін Цвяткоў — добра разумее яе. Сын Глеб фактычна выгадаваўся на тэатральнай сцэне. Сыграў Кацігарошка ў аднайменнай казцы і Песняра ў дзяцінстве (спектакль "Зямля"). Цяпер вучыцца ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце.

Белы ліст яе жыцця паступова запаўняецца датамі, падзеямі, фактамі. Вось адбылася і першы юбілейны спектакль, на які прыйшлі самыя шчырыя прыхільнікі творчасці Галіны Букацінай…

Святлана ДАШКЕВІЧ,
кіраўнік літаратурна-драматычнай часткі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа
г. Віцебск

# Гільдыя падаравала...

"Мы закладваем асновы нашай карціннай галерэі", — так пракаменціраваў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі адметную падзею, што адбылася тут на мінулым тыдні.

Калекцыю, складзеную з 70 арыгінальных твораў сучасных беларускіх жывапісцаў, графікаў, фотамастакоў перадала ў дар нашай галоўнай кніжнай скарбніцы Міжнародная гільдыя жывапісцаў. Гэтая творчая суполка, якая паяднала некалькі дзесяткаў айчынных мастакоў ды іх калег з іншых краін і якую ўзначальвае Фёдар Ястраб — знаны жывапісец і, дарэчы, загадчык галерэйна-выставачнага аддзела НБ Беларусі, актыўна ўдзельнічае ў жыцці бібліятэкі. Штомесяц, а бывае — ці не кожны тыдзень, праходзяць тут арганізаваныя гільдыяй вернісажы; у прасторы бібліятэчных галерэй "Лабірынт", "Атрыум", "Ракурс", "Мабільная" адбываюцца буйныя творчыя падзеі, сярод якіх вылучыліся міжнародныя выстаўкі графікі "Арт-лінія", біенале сучаснага жывапісу "Colorfest", пейзажны праект, прысвечаны Віталю Цвірку, фестываль лічбавага мастацтва "Terra Nova". Усе названыя ды іншыя праекты спрыяюць інтэрнацыянальным стасункам нашых творцаў, працэсам інтэграцыі беларускага мастацтва ў культурны кантэкст Еўропы і ўрэшце найлепшым чынам уплываюць на міжнародны імідж Беларусі.



Адзначаючы сваё 10-годдзе, Міжнародная гільдыя жывапісцаў выступіла з ініцыятывай стварэння адмысловай калекцыі для перадачы яе ў дар НББ — з мэтай дапоўніць аздабленне чытацкай прасторы, дзе ўжо знайшлі сваё месца маляўнічыя пано, рэльефы, габелены. Выстаўку падараванай калекцыі, якая працягнецца да 26 лютага, суправаджае дакументальна-ілюстрацыйная экспазіцыя, прысвечаная разнапланавай дзейнасці гільдыі.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Фёдар Ястраб адкрывае чарговае мастацкае свята.

Фота Віктара Кавалёва



# Што можа анімацыя

Як вядома, рэжысёры часта ўводзяць у навукова-папулярныя стужкі анімацыю. Я б нават сказала, без мультыплікацыі рэдка можа атрымацца годнае, цікавае навукова-папулярнае кіно. Гэта ўжо заўважна па фільмах, якія выходзілі на экран у перыяд станаўлення кінамастацтва.



Мультыплікацыя ў спалучэнні з ігравымі момантамі прысутнічае і ў навукова-папулярных фільмах, што былі зняты ў Беларусі ў 1928 годзе.

Стужка "Жывыя дамы" распавядала, як правільна пераходзіць вуліцу. "Бунт зубоў" вучыў правілам асабістай гігіены. Такія прыклады можна пералічваць і пералічваць. Я ж хачу звярнуць увагу на сучасную навукова-папулярную стужку "Уладар жукоў. Уладзіслаў Старэвіч" рэжысёра Лінаса Аўгуціса (Літва, Польшча, Японія, 2009 г.). Яна вылучаецца з шэрага іншых. Па-першае, тут з дапамогай анімацыі, з дапамогай ажылай лялькі апавядаецца пра рэжысёра, які адным з першых у свеце пачаў рабіць анімацыйнае лялечнае кіно. Па-другое, стужка навукова-папулярная з выкарыстаннем анімацыі, а рэжысёр, пра якога ў ёй ідзе гаворка, сам рабіў эксперыменты, спалучаў анімацыю з іншымі відамі кіно.

Сярод яго работ — "Жыццё стракоз" (1909), "Жукі-скарабеі" (1909), "Вельмі прыгожая Люканіда, альбо Вайна вусачоў з рагачамі" (1912), "Страказа і мураш" (1913), "Каляды ў жыхароў лесу" (1913), "Вясёлыя сцэнкі з жыцця жывёл" (1913), "Певень і Пегас" (1914), "Сарочынскі кірмаш" (1918), "Зорка мора" (1918), "Як жабы выпрасілі сабе караля" (1923), "Песня салаўя" (1923), "Каханне ў белым і чорным" (1923), "Пацук вясковы і пацук гарадскі" (1927), "Шчанюк-талісман" (1934) і многія іншыя. Акрамя гэтага, яго творчае жыццё адметнае такімі падзеямі, як стварэнне першага ў свеце лялечнага анімацыйнага фільма "Lucanus Cervus" (1910), выхад першага ў сусветным кіно поўнаметражнага лялечнага анімацыйнага фільма "Рэйнеке-Ліс" (1930), выпуск анімацыйна-ігравой прыпавесці "Лілія Бельгіі" (1946). А "Ноч перад калядамі" (1913) паказала, як можна сумяшчаць графічную мультыплікацыю са здымкамі акцёраў. Між іншым, першыя гледачы стужак У.Старэвіча думалі, што ён трэніруе жукоў для здымак. Да рэжысёра нават быў накіраваны ліст з прапановай: "…Ці не хацелі б вы выступіць са сваімі дрэсіраванымі жукамі?". Старэвіч першы зразумеў, што пакадравая тэхніка лялечнай анімацыі стварае вялікае праўдападабенства, неверагодную пластычнасць персанажаў.

Рэжысёр Л.Аўгуціс у сваім фільме паспрабаваў паказаць гісторыю жыцця і працы аднаго з заснавальнікаў лялечнай анімацыі, рэжысёра-эксперыментатара У.Старэвіча. Я думаю, стваральнікі стужкі "Уладар жукоў…" імкнуліся да таго, каб яе стылістыка адпавядала стылістыцы работ У.Старэвіча. Зняць фільм пра такую значную асобу даволі складана. Дадатны вынік, хутчэй за ўсё, будзе толькі тады, калі здымачная група, сцэнарыст, рэжысёр захопленыя, ураженыя тэмай, асобай, пра якую ўзяліся рабіць фільм, тым больш, у навукова-папулярным жанры. У стужцы "Уладар жукоў…" своеасаблівая лялька "чалавек-жук" імкнецца знайсці Старэвіча і зразумець, што ён за чалавек, дзеля чаго займаўся незвычайнай справай, як мог вынайсці штосьці новае… Аўтарам стужкі ўдалося стварыць аб'ёмнасць, уражанне прасторы. Але, на жаль, ёсць і недахоп. Самі стваральнікі фільма распавядалі, што назбіралі шмат цікавай інфармацыі, хацелася ўмясціць у невялікі фільм усё-ўсё. Праз гэта, на маю думку, ён атрымаўся сям-там перанасычаны інфармацыяй, а ў некаторых момантах інфармацыі якраз і не хапіла.

Напэўна, самай удзячнай аўдыторыяй гэтага фільма будуць дзеці, дый усе людзі, якія раней не чулі пра адну з самых значных асоб у кінематографе, пра Уладзіслава Старэвіча. А ў беларусаў гэты фільм можа выклікаць асаблівую цікавасць таму, што бацькі Старэвіча нарадзіліся ў нашай краіне. У кожным разе, прагляд стужак і самога Старэвіча, і фільма "Уладар Жукоў. Уладзіслаў Старэвіч" рэжысёра Л.Аўгуціча парадуе ўсіх гледачоў.

Аляксандра ІМБРА-ПРЫМАВА

№ 4 29 студзеня 2010 г.




**Гэты артыкул не прэтэндуе на аб'ектыўны навуковы аналіз паэтыкі Разанава — пазбавімся ад пазітывізму, "вышчыкнутых" цытат і спасылак. Хочацца пагаварыць пра тое, што самому цікава, — я паспрабую ўзняць некаторыя пытанні-праблемы метафізікі нашай літаратуры; вузей — паэзіі; яшчэ вузей — паэзіі Алеся Разанава. Праблемы гэтыя цяжка дакладна акрэсліць; пытанні, як кажуць, анталагічныя, адказ на іх будзе адпаведны — няпэўны, фрагментарны і невычарпальны...**

# Воін хавае меч



Падзагаловак нядаўняй кнігі А. Івашчанкі — "між медытацыяй і рацыяй" даволі трапна акрэслівае сутнасць разанаўскага падыходу да рэчаіснасці. Я, праўда, сказаў бы трохі па-іншаму — "між ірацыянальным і разумовым". Прыроду творчасці Разанаў упарта зводзіць убок ірацыянальнага, аднак называюць жа яго самым рацыяналістычным паэтам у беларускай літаратуры — і падставы для гэтага ёсць, як ні круці.

Дарэчы, нехта параўноўваў Разанава з Хлебнікавым (апошняга наш аўтар перакладаў і вельмі ўдала). Гэта абсалютна розныя паэтычныя з'явы. Хлебнікаў — паэт мовы як хаосу, віхуры, вулкана. Разанаў жа сваімі рукамі задушыў хаос у "Шляху-360", зрабіўся аскетам-стоікам (перадусім кажу тут пра паэтычны стыль) і толькі пасля таго звярнуўся да мовы як да чарговага аб'екта ўвагі. Разанаў-аўтар вершаказаў — гэта Хлебнікаў за прафесарскай кафедрай…

Моўнай структурай Разанаў захоплены, ён амаль абагаўляе яе (гл. вершаказы, "новыя" паэмы, асабліва "Гліну"). Але і ўласна мова ставіць для паэта пасткі: перадусім яго ўражвае працэсуальнасць, дынамічнасць мовы, уласцівая ёй прынцыповая незавяршальнасць і шматаблічнасць, ды ў той жа час, як мы ведаем, слова, мова ствараюць (у тым ліку і для паэзіі) сваю сістэму намінацый, прадуманую да канца: мова самарэгулюецца і гуляе па вызначаных правілах, моваю творыцца і гатовае слова штампаў, лозунгаў і, наогул, усіх эйдасаў-сэнсаў нашага свету. Тут закавыка. Як паяднаць гатовае з негатовым, інтуітыўнае ды ірацыянальнае з наяўнай структурнай арганізацыяй і жорсткай іерархічнасцю нават такой аструктурнай з'явы — мовы? Вось на гэтае пытанне, думаецца мне, Разанаў адказваў на працягу 1980 — 1990-х гадоў. Чаму ў мінулым часе — адказваў? Я лічу, за апошнія гады Разанаў кардынальна змяніўся, і той яго вобраз эксперыментатара-рэвалюцыянера, што пануе ў падручніках і расхожых меркаваннях, мякка кажучы, не адпавядае сённяшняй сапраўднасці. Ён даўно перастаў шукаць тое архімедаўскае апірышча, на якім можна свет перавярнуць. Далібог, сёння Разанаву цалкам дастаткова непасрэдна гэтага свету, назіранняў за агульнавядомымі "гановерскімі птушкамі". Калі браць усходнія паралелі (некалі важныя для паэта), воін хавае свой меч і ўглядаецца ў квецень сакуры. Сённяшняя стыхія Разанава — зямля. І можа, таму ён менавіта цяпер, як мне падаецца, найшчыльней суаднесены з беларускасцю, з нацыянальнай традыцыяй, па-свойму, вядома, інтаніруючы яе.

Але вернемся да пачатку нашай размовы.

Сам паэт называе творчасць пазнаннем невымоўнага, размоваю з ірацыянальным паралельным светам. Разам з тым, нельга не заўважыць жорсткай іерархічнасці і выверанасці ўнутранай "светабудовы" кожнага з твораў Алеся Разанава; кантроль, пільная засяроджанасць аўтара, бясспрэчнасць кожнага слова — усё гэта канцэнтруецца, шчыльніцца ў адзіны герметычны твор, адкрыты для інтэрпрэтацый.

У найбольшай ступені герметычнасць гэтая выявілася ў зборніку "Шлях-360", дзе паэт, імкнучыся выйсці "за рубеж" такога жанру, як верш, паспрабаваў скарыстацца ўсімі магчымымі спосабамі дыфузіі плана зместу з планам выяўлення. Увогуле, разанаўскія ўцёкі ад "спеўнай" паэзіі 1960 — 1970-х гадоў паходзілі з непрымання тагачаснага ладу мыслення, з непрымання лірыкі "лёгкага хлеба". Самая складанасць, што расла ад зборніка да зборніка, была праявай нонканфармізму. Вам, маўляў, усё ўжо ясна і зразумела? А я толькі шукаю, толькі "намацваю дрогкую лінію сэнсу", і ведаць не ведаю, дзе быў пункт А і колькі яшчэ да пункта Б…

Гэта быў выклік.

Пасля "Шляху-360" пачаўся зусім іншы Разанаў. Прыручыўшы, як Геракл Цэрбера, першабытны хаос ірацыянальнага (інтуітыўнага), паэт перайшоў да засваення іншай сферы — ratio. Паэтычная мова Разанава стала арыентаваца на чыстае выяўленне: не думкі перадаваць, а стаць самапэўным, самадастатковым утварэннем; не напаўняць верш думкамі, а каб сам верш сабою спараджаў "навізну" і эстэтычны эфект.

Ён даўно перастаў шукаць тое архімедаўскае апірышча, на якім можна свет перавярнуць. Далібог, сёння Разанаву цалкам дастаткова непасрэдна гэтага свету, назіранняў за агульнавядомымі "гановерскімі птушкамі". Калі браць усходнія паралелі (некалі важныя для паэта), воін хавае свой меч і ўглядаецца ў квецень сакуры. Сённяшняя стыхія Разанава — зямля. І можа, таму ён менавіта цяпер, як мне падаецца, найшчыльней суаднесены з беларускасцю, з нацыянальнай традыцыяй, па-свойму, вядома, інтаніруючы яе.

Апора традыцыйнай лірыкі — мысленне суплётамі вобразаў. У "Шляху-360" (прычына – і ў "хованках" ад цэнзуры) Разанаў максімальна павысіў узровень сугестыўнасці (гэта відаць і ў параўнанні з папярэднім зборнікам): вобразы сплеценыя, як ламачча ў віры, — гэта валадарства падсвядомага, інтуітыўнага, эмацыянальнага.

У паэзіі Разанава лірычнасць ад пачатку выціскалася. Наўзамен яе прапаноўваліся розныя тыпы канструявання твора, своеасаблівае злучэнне вобразаў і сімвалаў, пазбаўленых лірызму і пададзеных у сваёй "голай" сутнасці — як "рэчы ў сабе", як элементы (усе) агульнай структуры. Лірычнасць, эмоцыю Разанаў планамерна знішчаў як момант ірацыянальны. Не, не знішчаў — дэфармаваў; спачатку злучыўшы з эпікай (у "Каардынатах быцця") а потым — з мадэрнасцю ("Шлях-360").

І — зрыў. Так, "Шлях-360" быў этапным, але гэта быў канец этапу. Максімальная "цьмянасць" змянілася на максімальную яснасць. Версэты, "новыя" паэмы, вершаказы практычна нічога не маюць агульнага з "раннім" Разанавым. Тыя вобразы, якія раней зліваліся ва ўражлівым танцы, змяіліся па старонках зборнікаў, пульсуючы дзесяткамі катарсічных кропак, — перасталі існаваць. Замест іх узніклі аднавобразныя (аднамалюнкавыя) творы, дзе мінулыя мірыяды кропак змяніліся разломамі (фігуральна кажучы, момантамі біфуркацыі), якія вынікалі з усяго зместу твора і па сутнасці апраўдвалі яго з'яўленне і існаванне.

Разлом, расколіна, я маю на ўвазе дыхатамію, улюбёныя разанаўскія супрацьпастаўленні, што якраз паходзілі з "метаду воіна". Разразаць рэчаіснасць на дзве часткі — гэта, урэшце, тое самае, што і разрубаць гордзіеў вузел. Гэта прыём дыялектыкі, калі тэзіс супрацьстаіць антытэзісу, але нічога агульнага з ім, бадай, не мае — адно адмаўляе яго. А трэба ж яшчэ сінтэз зрабіць з гэтых, так бы мовіць, Каіна і Авеля!..

Мне падаецца, што адпачатку антынамічнасць у Разанава ўзнікла на тле ўяўлення пра "двайное дно" рэальнасці. Перакананне ў тым, што эмпірыка — гэта яшчэ не ўсё. Ёсць і свет іншы, прычым яго наяўнасць можна адчуць тут і цяпер. Зацікаўленасць іншым бокам медаля часам пераходзіла ў цалкам акультнае рэчышча, "чорны ход" духоўнасці… Ірацыянальнае "бязмежжа" ўсё больш прыцягвала паэта, але цяпер ужо не рабіла віхуры ў творах, а паўстала аб'ектам самааналізу. "Бязмежжа" выйшла з формы паэзіі Разанава і ўвайшло ў самога паэта. Ён стаў апісваць ірацыянальнае, стаўшыся рацыянальным. Так ці інакш, паэтыка Разанава прасякаецца новай (асноўнай) ідэяй — дыскрэдытацыі рацыянальнага пазнання. Формула: А ≠ А. "Так, але не так". Крок наперад можа быць і крокам да ісціны, і крокам ад яе. Тое, што разумеецца намі як звыклае і паўсядзённае, на самай справе не тоеснае нашаму ўспрыманню, яно мае ў сабе такія глыбіні, пра якія мы не здагадваемся. Станоўішча, у якім мы знаходзімся, — не пастаяннае, яно можа змяняцца, прычым абсалютна нечакана, у розных накірунках, у рознай ступені і незалежна ад нас.

Як пісаў Бродскі (цытую з кнігі Ю. Станкевіча, якога таксама, дарэчы, вярэдзіць праблема ірацыянальнага — адно літпакаленне?),

Того гляди, что из озерных дыр,
Да и вообще через любую лужу,
Сюда полезет посторонний мир.
Иль этот ускользнет наружу.

Разанаў і сёння — новы і нечаканы. Так-так, ён можа і здзівіць. І лёгка. Напрыклад, мемуары напісаць. Хаця не, наўрад ці. Бо, нягледзячы на тое, што нехта з ягоных крытыкаў і сцвярджаў, што Разанаў знаходзіцца за межамі паэзіі і за межамі літаратуры, мне падаецца адваротнае. Разанаў — гэта абсалютны паэт, ён рэдка выходзіць з "унутрылітаратурнай наструненасці".

Аддалены водгук "двоесвецця" нямецкіх рамантыкаў, але значна паглыблены, перажыты ў асабістым досведзе. Вопыт адчування іншасвету ўвасобіўся ў версэтах, дакладней вопыт спробаў перасягнуць пэўныя межы — межы "аднавектарнасці" часу, прасторы; спробаў пераадолець аднамернасць чалавека. Хроніка сізіфавай працы — вось што сёння мы маем у выніку.

І — тэрміналогію.

Бо на працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў Разанаў склаў асабістую тэрмінасістэму мыслення. У спляценні квазіфіласофскіх тэрмінаў "пярэдадзень", "наступнасць", "рэчаіснасць", "набытак і страта" і інш. ён у шэрагу артыкулаў спрабаваў акрэсліць сутнасць сваёй творчай праграмы. Але — ці то з-за зглыбленасці гэтых праграмных артыкулаў у малатыражных выданнях, ці то па нейкіх іншых прычынах – сэнс іх не быў успрыняты, яны не былі прачытаныя. Магчыма, яшчэ і таму што аўтар не здолеў злучыць "азначанае" з "азначальным", яго тэрміны замкнуліся на саміх сабе.

У Разанава няма і не было "адлюстравання жыцця", насуперак агульнавядомым запаветам. Творчасць яго — маналагічная, г. зн. самасвядомасць паэта і рэчаіснасць не ўваходзяць у дыялог, не адкрываюцца адно аднаму, хоць і вельмі да гэтага імкнуцца. Ёсць рух да збліжэння, але чалавек і рэчаіснасць рэзка размежаваныя, гэта якраз тое, пра што вышэй гаварылася. Падваенне свету больш цікавіць, чым уласна свет.

Да непасрэднай рэчаіснасці Разанаў пачаў падыходзіць зусім нядаўна, у нямецка-швейцарскіх пунктірах, якія шмат хто ўспрыняў, як крок назад, як творчае "зніжэнне", аслабленне Разанава. Між тым, гэтая прастасць мне вельмі імпануе і падаецца нават заканамернай. Цяпер сухія сімвалы шамана-Разанава ажылі, сталі суладнымі з рэчаіснасцю, нарэшце супалі з ёй.

Супрацьпастаўленне пераходзіць у супастаўленне, а гэта значыць, што і дыялектыка паступова замяняецца дыялогам. Я маю на ўвазе, што размежаванне рэчаіснасці замяняецца на су-моўе з ёю, цэласнай і непадзельнай. Падобнае ёсць яшчэ ў народнай паэзіі, у вядомай з'яве псіхалагічнага паралелізму ў народнай песні (Стаяла бяроза / Жыла дзяўчына), а таксама і ў старой японскай паэзіі. Архаічныя формы мыслення і ў Японіі, і ў Беларусі, наогул, аднолькавыя.

Паразы няма, ёсць чарговая перамога паэта. Перамога над самім сабой.

Можа, я і падобны тут на хлопчыка, які гуляе ў канструктар, але, на мой погляд (няхай гэта і наіўна-невукова), разанаўская творчасць і нават тое, што называецца творчы шлях, ад пачатку менавіта канструявалася, якраз-такі ведаючы, якраз-такі да таго ўжо знаёмае з тым новым, якое ўзнікала з наступным паэтавым крокам. Я разумею, што пярэчу тут выказванням самога Разанава, але… лічу аўтарскае слова пра ўласную творчасць ненадзейным аргументам.

Нават можна сказаць, што карціна свету ў Разанава — нерухомая, але ў той жа час заснаваная на "ідэі руху". "Ідэі" ў тым сэнсе, што ў паэзіі нашага аўтара кожны вобраз — гэта хутчэй "думка пра вобраз". І пачынаецца гэта яшчэ ў зборніку "Адраджэнне". Усё жыццё Разанаў ішоў па шляху падпарадкавання, "заваёўніцтва". Я ўжо гаварыў пра маналог. Падпарадкоўваліся, ахопліваліся думкаю новыя і новыя пласты рэальнасці, асэнсоўваліся рэчы, з'явы, бакі, маляваліся дзівосныя карціны... Так было. Але сёння, на этапе пункціраў, Разанаў урэшце сустрэўся з самім сабой, сваімі клопатамі — сустрэўся са сваёю душой. Пункціры — гэта класічны дзённік, адкрыты і суб'ектыўны. Урэшце, Разанаву захацелася адкрыць у вершы частку сябе — чытачу, а не частку рэчаіснасці — для сябе.

Такім чынам, Разанаў і сёння — новы і нечаканы. Так-так, ён можа і здзівіць. І лёгка. Напрыклад, мемуары напісаць. Хаця не, наўрад ці. Бо, нягледзячы на тое, што нехта з ягоных крытыкаў і сцвярджаў, што Разанаў знаходзіцца за межамі паэзіі і за межамі літаратуры, мне падаецца адваротнае. Разанаў — гэта абсалютны паэт, ён рэдка выходзіць з "унутрылітаратурнай наструненасці". Гэта адчуваеш нават у прыватнай размове. Балазе да кожнага свайго тэксту ён ставіцца як да паэтычнага "делания". А хіба ж магчыма напісаць верш на 300 старонак? Толькі калі не задумвацца пра яго якасць (як гэта рабіў Андрэй Белы). Алесь Сцяпанавіч жа чалавек адказны, таму нават яго прадмовы да зборнікаў рэдка перавышаюць памер адной старонкі. Бязлітасна мала піша ён, скажа чытач, але ці будзе гэта праўдай? І так, і не. "Так", бо новай ягонай падборкі часам трэба чакаць не адзін год. "Не", таму што на паліцы стаіць шасцітомны збор твораў, які, зрэшты, і стаў "афіцыйнай нагодай" для напісання гэтага артыкула. Добра ўжо тое, што ёсць магчымасць працягу размовы.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

Анатоль ЗЭКАЎ

## У пошуках прынца

Навошта марыць? Метро, трамваем
Вірую марна ў чужы раён.
Натоўп і спёку — я ўсё стрываю,
Каб на прыпынку сустрэўся Ён.

Ды ўсё дарэмна!
..............................................................
Пара вяртацца
(дванаццаць трыццаць) —
На прынцаў поначы —
неўраджай!

Таццяна Сівец

Метро й трамваем віравала
І абшукала ўвесь раён.
Але б куды ні зазірала,
Нідзе мне не сустрэўся Ён.

Сябе і супакоіла хіба я,
Што ў Мінску не адзін раён.
Калі мо ў іншым пашукаю,
То там сустрэнецца мне Ён.

Кіруюся ў раён Цэнтральны,
Адтуль – у Ленінскі раён,
Ды не шанцуе мне фатальна,
Бо не трапляецца ўсё Ён.

І дзень прайшоў,
і вечар быццам
Зляцеў у ноч за небакрай.
А поначы (дванаццаць трыццаць) —
Тым больш на прынцаў —
неўраджай.

Ды ўсё ж вядуць
аперад вочы.
Галоўнае тут — не стаяць.
А можа, днём шукаць,
не ўночы?
Дык ноччу ж прынцаў лепей браць!

Таццяна СІВЕЦ

## Дачакаўся!

Паволі сшытак разгарну —
І зразумею нечакана,
Што я чакаў цябе адну,
Што я табою быў чаканы.

Мікола Шабовіч

Паволі сшытак разгарнуў —
Сяджу і лыпаю вачыма.
Ды за такое нават "нуль"
Паставіць проста немагчыма!
Дыктовачка — працей няма,
А тут памылка ў кожным слове!
Усё закрэсліць — і "аман",
І "два" па беларускай мове!
Аднак на вокладку зірнуў,
І ў момант заняло дыханне.
Кахаў дзяўчыну не адну —
Чыя ж дачка Шабовіч Аня?

Аляксандр БЫКАЎ

## Лыжня Анатоля Зэкава

Па цаліку паперы белай,
Як бы па снезе чыстым, першым,
Кладзецца мой радок нясмелы,
Каб абазначыць
шлях да вершаў.
Адзін радок,
другі,
і трэці —
І іх становіцца ўсё болей.
Нібы прайшлі на лыжах дзеці,
Ляжаць радкі на белым полі.

Анатоль Зэкаў

Радкі — нібы на лыжах дзеці.
Адзін радок, другі і трэці,
Чацвёрты, пяты,
шосты, сёмы...
Іх лічыць аўтар наш вядомы.
А восьь і тысячны. Дазволь
Спыніцца дзеткам, Анатоль.
Пакуль ты шлях масціў
да вершаў,
Растаў і снег на полі першы.

Што ж, дзетак Зэкаў шкадаваў,
Страфу ён і без снегу склаў.
Свае пазначыў так радкі:
"...Бы па раллі прайшлі дзікі".

Шаржы Алега Карповіча

Янусь МАЛЕЦ

# А гэта бачылі?

Які салдат не марыць стаць генералам?

Я ўпэўнены, што гэтаму афарызму можна запярэчыць: ёсць такія салдаты!

А які літаратар не марыць стаць класікам? Вось дзе абсалют! Няма такіх літаратараў.

І яшчэ больш грунтоўны абсалют: які графаман не марыць надрукавацца?..

Марыў убачыць свой твор хаця б на апошняй старонцы, хаця б у самым нізе, хаця б самымі маленькімі літарамі і Ступанчук Абросім Ціхавіч. Што толькі не пісаў гэты аўтар: і раманы (ні аднаго, праўда, не закончыў), і аповесці (таксама толькі пачынаў), і апавяданні (трэба прызнаць, тут ён дацягваў да канца), і афарызмы, і вершы.

Свае творы Ступанчук пасылаў у розныя рэдакцыі — ад шматтыражак да вельмі салідных газет і часопісаў, прычым пасылаў больш, чым пісаў. І нідзе Абросіма Ціхавіча не друкавалі. Гэта яго не бянтэжыла, гэта яго злавала.

У бязгрэшнасці сваіх твораў ён быў упэўнены. Грэшнымі былі людзі, якія іх не друкавалі.

І бегае Ступанчук, графаман-шантажыст, непрызнаны "класік" па рэдакцыях, і размахвае паперкамі: "Ды я ж… Ды я ж вас!"

І, самае смешнае, што нядаўна яго пародыю на вельмі вядомага літаратара надрукавалі і не самымі дробнымі літарамі і нават не ў шматтыражцы.

Ступанчук павесіў свой твор на кухні над хлебніцай, падарыў па экземпляры радні, калегам па працы, проста незнаёмым людзям.

Цяпер ён можа дастаць з кішэні газету і да слоў "Ды я вас!.." дадае: "А гэта бачылі?!".

Уладзімір ЦАНУНІН

* * *

Каўказец піша ліст дахаты
З вучобы ў верасні якраз:
"Матуля, дзед, бабуля, тата!
Мы заўтра едзем у калгас.

Усе ў аўтобусах паедуць.
Іх будзе трэцці пяць гадзін.
Спяшаюся адно паведаць:
Я еду на таксі адзін".

Праз тыдзень ліст прыйшоў зваротны.
Вядома доўга, бо Каўказ!
У ім студэнту бацька родны
Дае абураны адказ:
"Сыночак! Ты ж за ўсіх не горшы!
Мы на аўтобус пакрысе
Табе тут назбіралі грошай.
Купі і ездзі, як усе!"

* * *

Калі бывае хочаш пазарэз
Ты выпіць кавы, а ў цябе пры гэтым
Пытаюцца: "Вам з каньяком, ці без?"
Гатовы я паклясціся прад светам:

"Мне без" — на гэта будзе мой адказ.
"А без чаго?" — пытаюцца цікава.
І ты, нібы пачуўшы ў першы раз,
Адказваш: "Налівайце ўжо без кавы!"

Сяргей ПАНІЗНІК

## Танцоры пражскіх пляцаў

Таццяна: — Ах!..
Пушкін,
Аляксандр Сяргеевіч

"Я не была на Мальце і Балі —
Даволі жыць па правілах прымусу!
Кароткі век у Вашае спакусы,
Збавенне — у віне?
А ўсё ж — баліць...[1]
Бізун хай праміне...
Я ў асалодзе
Таму, хто згубіць і таму,
хто знойдзе
Ці на рамонку поўні, ці ў акне,
Ці зацалуе на ліцвінскім плоце...
Не! Я буду
КАлыХАНКАЙ
на чаўне.
Харона у схрон.
Плыву Дзвіной пад Нарач
З Шабовічам-Пігмаліёнам. Так!
Прашэпча юр мне:
"Holčička![2] Дабранач!"
Ах!
Пазайздросціць з "Нёмана" Бадак.

[1] Радкі Таццяны Сівец з кнігі "Таму, хто знойдзе…"

[2] Дзяўчынка (чэшск.).

Мікола ХАМЯНКОЎ

## Хто першы?

Пісьменнік здрамнуў
у цяньку на дварэ,
Даўно ён не марыць пра лаўры,
А толькі гадае,
хто першым памрэ —
Ягоны бестселер ці аўтар?

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

## Актуальная казачка

Жыў-быў чыноўнік непрыкметны,
Натуры гнуткай кабінетнай.

Дзе дагаджаў,
дзе браў нахрапам,
Руку даваў, як Тузік лапу.

А ў крэсла сеў
вяльможнай кучай —
І стаў рукунепадаючым.

Ужо праз нейкі час кароткі
Адчулі моц яго́най глоткі.

Налева рыкаў ён, направа,
А чуць вышэй —
глядзеў ласкава.

Каб там не крыкнулі грамчэй,
Лагода пырскала з вачэй.

Чытач, падумай, калі ласка,
А можа, гэта і не казка?..

Ігар КАНАНОВІЧ

## (афарыстыка)

Хвароба — рэпетыцыя старасці.

Апошнія алхімікі знайшлі прытулак у паэзіі.

Вялікія непрыемнасці пачынаюцца з "маленькіх капрызаў".

Часам грошы не ідуць таму, што не ўяўляеш шляхоў іх падыходу да цябе.

Міхась СЛІВА

# Жыццё знутры

Яшчэ толькі пачаўся рабочы дзень, а літаратар Язэп Сундукоў ужо завітаў у рэдакцыю газеты.

— Вось паслухай, што я напісаў! Я ж вывучаю жыццё знутры! — звярнуўся ён да рэдактара аддзела пісьмаў і масавай работы Аркадзя Сяргеевіча.

— Хоць і часу няма, але так і быць, уважу, паслухаю, — ветліва згадзіўся той.

І Язэп стаў чытаць свой вершаваны фельетон. У ім ён граміў п'яніц-алкаголікаў, якія днямі таўкуцца ў мясцовым кафэ "Мінутка", прапіваюць апошнія грошы, адарваўшы іх ад сям'і. А потым, набраўшыся, як тая свіння гразі, сноўдаюцца па горадзе, зноў шукаючы выпіўкі. Раніцай жа бегаюць з працягнутай рукой, каб хто даў грошай на апахмелку. І так — з дня ў дзень, бясконцы працэс...

У канцы свайго фельетона Язэп сароміў п'яніц-алкаголікаў, заклікаў пашкадаваць родных і блізкіх і забыць дарогу ў тую праклятую "Мінутку".

Твор узрушыў Аркадзя Сяргеевіча, узяў, як кажуць, за жывое. Таму ён запрасіў Язэпа Сундукова да галоўнага рэдактара. Той таксама ненавідзеў п'янства і ўсе яго наступствы, таму, выслухаўшы літаратара, згадзіўся ўзяць фельетон для апублікавання ў газеце. А потым, расчулены, паклікаў адказнага сакратара:

— Саша, выпішы, калі ласка, авансам ганарар, хай шаноўны Язэп атрымае ўзнагароджанне за свой злабадзённы твор!

— Зараз зраблю! — узяў пад казырок адказны сакратар і павёў літаратара ў бухгалтэрыю.

А праз некаторы час Язэп Сундукоў сядзеў у кафэ "Мінутка", кляваў носам ужо за другой па ліку бутэлькай віна і вывучаў жыццё знутры...

# Каб адрадзіць прэстыж кнігі

Цывілізаванасць грамадства вымяраецца адносінамі да кнігі. Бясспрэчна, фарміраванне духоўнасці маладога пакалення немагчыма без любові да чытання. У краінах Захаду, як і ў краінах СНД, прымаюцца сістэмныя дзяржаўныя меры, каб выправіць сітуацыю, калі падлеткі ганарацца тым, што не чытаюць кніг. Прыкладам, у Вялікабрытаніі і Расіі дзейнічаюць праграмы падтрымкі чытання. У выніку гэтыя краіны за некалькі гадоў перамясціліся ў дзясятку першых, хоць зусім нядаўна былі бліжэй да канца спіса.

Пра тое, як сёння пачувае сябе кніжны свет Беларусі, мы даведаліся ў дырэктара ААТ “Белкніга” Юрыя ХМЫРОВА.



— Юрый Валянцінавіч, досыць часта ў колах інтэлігенцыі можна пачуць нараканні на адсутнасць неабходных намаганняў з боку дзяржавы па прапагандзе чытання…

— Адразу хацелася б парадзіць тых, хто лічыць, што чытанне і кніжная справа не ўваходзяць у кола дзяржаўных інтарэсаў. Гэта памылковае меркаванне. Летась на пасяджэнні Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД менавіта кіраўнікі дзяржаў, у тым ліку і Аляксандр Лукашэнка, падпісалі Дэкларацыю аб падтрымцы кнігі. Мэта гэтага дакумента самая высакародная: падтрымка кнігі, забеспячэнне ўсебаковага супрацоўніцтва ў галіне кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання і паліграфіі. Спадзяёмся, што ўрад Рэспублікі Беларусь прыме шэраг мер па выкананні Дэкларацыі і актывізуе працу па стварэнні праграм падтрымкі друкаваных выданняў.

— А як вы асабіста можаце ахарактарызаваць магчымасць далучыцца да друкаванага слова тых, дзеля каго, уласна, і працуе кніжны бізнес краіны — чытачоў?

— Пытанні кніжнага бізнесу настолькі разнапланавыя і шматлікія, што іх немагчыма пералічыць адразу. Таму хацелася б больш падрабязна спыніцца хаця б на дасягненнях і праблемах сістэмы кнігараспаўсюджвання. Цяпер да паслуг насельніцтва нашай сталіцы прадстаўлена вялікая колькасць кнігарань і кіёскаў. Самая буйная кнігагандлёвая арганізацыя — гэта сетка філіялаў ААТ “Белкніга”. Толькі ў Мінску і Мінскай вобласці знаходзіцца 26 кнігарань і 9 кніжных кіёскаў. Улічваючы, што насельніцтва сталіцы складае прыблізна 2 млн. чалавек, то ў сярэднім адна кнігагандлёвая кропка абслугоўвае каля 60 тысяч жыхароў сталіцы. Па забяспечанасці насельніцтва кнігагандлёвымі прадпрыемствамі Мінск не адстае ад сярэдняга паказчыка гарадоў Расіі. Але пачываць на лаўрах не варта. У Санкт-Пецярбургу, прыкладам, адна кнігарня прыходзіцца на 20 тысяч чалавек. Не кажучы ўжо пра заходнееўрапейскія краіны, дзе адна кнігарня — прыкладна на 10 000 чалавек.

— Практычна на ўсіх прафесійных кніжных выстаўках, семінарах і форумах выдаўцы і распаўсюджвальнікі друку ў адзін голас гавораць пра тое, што сёння як за чытача трэба змагацца, так і за кліента ў любым бізнесе. Якія дадатковыя паслугі прапануюцца ўвазе наведвальнікаў кнігарань?

— Купляць кнігі сталі менш, гэта факт і сусветная тэндэнцыя. Ведаючы яе, кнігарні Мінска прыкладаюць нямала намаганняў для пашырэння асартыменту, паляпшэння сэрвісу. Філіялы ААТ “Белкніга” заўсёды ідуць насустрач інтарэсам пакупніка. Мы гатовыя прапанаваць шырокі спектр паслуг: вялікі выбар рэдкіх букіністычных выданняў, продаж кніг па пошце, разлік па пластыкавых картках, безнаяўны разлік, тавары ў крэдыт, сістэму скідак, пошук кніг па заказах. Кнігарня сёння ўжо не ўспрымаецца толькі як месца, дзе проста купляюцца кнігі. Пакупнікі жадаюць, каб меўся яшчэ выбар канцылярскіх тавараў, цацак, дыскаў. І эстэтыка становіцца ўсё больш значным фактарам пры выбары кнігарні, якую яны будуць наведваць пастаянна. “Белкніга” таксама практыкуе правядзенне месячнікаў кніг (да Каляд, пачатку новага навучальнага года, Дня Перамогі ды інш.). У гэты час разгортваюцца пашыраныя выставы-продажы альбомаў беларускіх выдавецтваў, метадычнай літаратуры, контурных карт, папярова-белавой прадукцыі беларускіх вытворцаў, паштовак, календароў. Рассылаюцца прайс-лісты патэнцыйным пакупнікам на прадпрыемствы і арганізацыі. У летні час філіялы арганізуюць гандаль на прылеглай тэрыторыі, у парках адпачынку, на святочных кірмашах. Прыярытэт пры адборы тавараў абавязкова аддаецца прадукцыі беларускіх выдавецтваў і паліграфпрадпрыемстваў. Папулярнымі ў пакупнікоў становяцца акцыі, якія праводзяць кнігарні сумесна з беларускімі выдавецтвамі. Падчас такіх сустрэч прапануюцца скідкі, падарункі. Так, у “Доме кнігі “Светач” праводзіліся акцыі з удзелам выдавецтваў “Мастацкая літаратура”, “Харвест”, “Артия”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Пра такія акцыі паведамляецца на сайце ААТ “Белкніга”, у аб’явах, якія размяшчаюцца ў гандлёвых залах. У рэкламе кніг беларускіх выдавецтваў дзейсны сродак — афармленне ў гандлёвых залах выдавецкіх, тэматычных, юбілейных выставак-продажаў.

— Але, падаецца, асартымент кнігарні падбіраецца выключна на падставе попыту і пажаданняў пакупнікоў. Якія асноўныя тэндэнцыі змянення попыту на кніжную прадукцыю пазначыліся апошнім часам?

— Нягледзячы на крызісныя з’явы ў эканоміцы на тым жа ўзроўні застаецца попыт на мастацкую літаратуру, асабліва класіку. Сталі больш купляць кніг па філасофіі і псіхалогіі. Адносна стабільны попыт на дзіцячую і вучэбную літаратуру. І хоць гаварыць пра істотнае змяненне структуры попыту на кніжным рынку краіны не даводзіцца, тым не менш, можна спрагназаваць павышэнне продажу спецыяльнай літаратуры. На гэта ёсць некалькі прычын. У Мінску шмат навучальных устаноў, высокі навуковы патэнцыял, не змяншаецца неабходнасць у высокакваліфікаваных спецыялістах у розных галінах.

Відавочна: у перыяд эканамічнага крызісу большасць людзей імкнецца павысіць свой прафесійны ўзровень. Аднак атрыманне другой вышэйшай адукацыі альбо павышэнне кваліфікацыі на курсах патрабуюць значных фінансавых выдаткаў, таму набыццё спецыялізаванай літаратуры разглядаецца многімі як перападрыхтоўка эканом-класа.

— Не так даўно пасля рамонту адкрыўся “Дом кнігі “Веды”. У 2008 годзе таксама быў праведзены рамонт кнігарні “Спадчына-М” у Маладзечне. Наколькі апраўдана ў цяперашніх умовах укладанне грашовых сродкаў у правядзенне такіх работ?

— На працягу апошніх гадоў фінансавае становішча ААТ “Белкніга” заставалася досыць стабільным, пра што сведчаць эканамічныя паказчыкі. Павялічылася рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі. Чысты прыбытак летась склаў 127 мільёнаў рублёў. Агульны таваразварот прадпрыемства і яго філіялаў узрос да 107 працэнтаў у адносінах да такога ж перыяду мінулага года. І гэта нягледзячы на крызісныя з’явы ў эканоміцы. Таму мы маем магчымасць знайсці сродкі на рамонтныя работы. Пасля іх досыць лагічным і прадказальным становіцца значнае павелічэнне пакупніцкіх патокаў, павелічэнне ў разы таваразвароту кнігарань. А ў выніку наша прадпрыемства мае ўсе магчымасці развіваць сучасныя формы кнігагандлю. Па прыклад далёка хадзіць не трэба. Сапраўды, адкрыты нядаўна пасля рамонту “Дом кнігі “Веды” сустракае наведвальнікаў утульнымі светлымі заламі, новымі зручнымі стэлажамі, шырокім выбарам літаратуры па многіх тэматыках. Але ў першую чаргу, як і раней, пакупнікі тут знойдуць кнігі па эканоміцы, юрыспрудэнцыі і іншых гуманітарных і сацыяльных навуках. Захаванне дасягнутых тэмпаў развіцця і забеспячэнне стабільнага фінансава-эканамічнага становішча — і ёсць асноўныя напрамкі дзейнасці кнігагандлёвых арганізацый.

— Ці маюцца сярод гэтых кірункаў і праекты па пашырэнні вашай кнігагандлёвай сеткі?

— Бясспрэчна. Прыкладам, у Маскоўскім раёне Мінска на сённяшні дзень няма ніводнай кнігарні ААТ “Белкніга”. Гэтае пытанне патрабуе дэтальнай прапрацоўкі. Акрамя таго, на сённяшні дзень паспяхова завершаны перамовы з кіраўніцтвам Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў па пытанні аднаўлення кніжнага кіёска ў сценах універсітэта. Намаганні ўсіх служб ААТ “Белкніга” скіраваныя на стварэнне сучаснай кнігагандлёвай сецявой інфраструктуры, якая хутка развіваецца. Жыццё пераканаўча сведчыць, што толькі аб’яднанні кнігарань могуць паспяхова выжываць у сучасным канкурэнтным асяроддзі, утрымліваць гандлёвыя плошчы ў найбольш выгадных месцах, змагацца з іншымі канкурэнтамі за сродкі і час спажыўца. Аднак не варта забывацца і на тое, што стымуляванне кнігагандлю таксама садзейнічае адраджэнню страчанага прэстыжу кнігі. А гэта ўжо пытанне нацыянальнай ідэі і духоўнага адзінства нацыі.

— Наколькі цяпер дзейсная сістэма скідак у кнігагандлі?

— У гандлі звычайна зарабляюць альбо за кошт тавараабароту, альбо за кошт высокай розніцы паміж цаной і сабекоштам. Аднак перад кнігагандлем такі выбар не стаіць, бо попыт на кнігі малаэластычны: зніжэнне цэнаў на 10 — 20 працэнтаў не прыводзіць да росту продажаў. Тым не менш, цэнавая палітыка вельмі важная. І тут маюцца розныя падыходы: уцэнка кніг мінулых гадоў выдання, правядзенне распродажаў, пашырэнне асартыменту тавараў, якія прадаюцца са скідкай. Ды і самі скідкі варта рабіць больш істотнымі, чым 5 — 10 працэнтаў. У рознічнай кнігагандлёвай сетцы Беларусі гэтыя маркетынгавыя прыёмы сталі прымяняцца ўсё часцей. Аднак для правядзення такіх акцый кнігагандлёваму прадпрыемству таксама трэба шукаць сродкі ў выпадку, калі мерапрыемства не ініцыіравана пастаўшчыком ці выдаўцом.

— Калі гаварыць пра эканамічныя складнікі кніжнай справы, хацелася б даведацца, якая на сённяшні дзень роля гандлёвых надбавак і падаткаў у сістэме кнігараспаўсюджвання?

— Стратэгія любога бізнесу вызначае доўгатэрміновыя мэты і сродкі іх дасягнення. На рынку ў цэлым асобныя ігракі будуюць свае ўласныя стратэгіі, уключаючы сюды і мэты, якія вызначаюць іх арганізацыі. Менавіта таму ў стратэгіі кніжнага рынку неабходна прадугледзець магчымасць рэгулявання гандлёвай надбаўкі на кніжную прадукцыю ў залежнасці ад зместу і сацыяльнай значнасці выданняў. Гандлёвыя надбаўкі павінны забяспечваць не толькі рэнтабельнасць гандлю, але і актывізаваць чытацкі інтарэс. А пра якую стымуляцыю попыту можа ісці гаворка, калі інфляцыя і цэны на энерганосьбіты растуць, што цягне за сабою падаражанне паперы і паліграфічных паслуг. Усё гэта павялічвае кошт кнігі. Узнікла вострая неабходнасць зніжэння падатковага прэсінгу, асабліва стаўкі ПДВ на кніжную прадукцыю. Пакупніцкая здольнасць насельніцтва апошнім часам невысокая, а што гаварыць пра кнігі, якія многія не лічаць прадметам першай неабходнасці? Гаворачы пра змяншэнне падатковых выплат, нельга не закрануць і пытанне арэнднай платы, якая таксама нямала ўплывае на выніковую цану кнігі.

— Рознічны гандаль звычай прытрымліваецца адной з дзвюх антыкрызісных з’яў: альбо скарачаюць выдаткі на персанал, альбо арэндныя плацяжы. Чаму менавіта пытанне арэнды на сённяшні дзень разглядаецца як прыярытэтнае?

— У сітуацыі, якая склалася ў кнігагандлёвай галіне Беларусі, зніжэнне арэндных плацяжоў было б найбольш дзейснай мерай, таму што выплаты па арэндзе ў разы перавышаюць фонд заработнай платы. Таму льготная арэндная стаўка адразу ж адлюстроўваецца на паказчыках кнігарні. Да нядаўняга часу ў мэтах зніжэння кошту кнігі гандлёвым арганізацыям з боку дзяржавы прадастаўляліся льготы ў частцы бязвыплатнага карыстання памяшканнямі, якія займаюцца пад кнігарні. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 23 кастрычніка 2009 года “Аб некаторых пытаннях арэнды і бязвыплатнага карыстання маёмасцю” кнігагандлёвыя прадпрыемствы пазбавіліся прадастаўленых ім льгот і не ўвайшлі ні ў адзін пералік прадпрыемстваў, якім устанаўліваюцца паніжальныя каэфіцыенты. У выніку плата за занятыя пад кнігарні плошчы ўзрастае да 10 разоў. “Дом кнігі “Веды”, пра які мы гаварылі, аплачвае арэнду штомесячна ў суме 1,3 млн. руб. Пасля ўступлення ў сілу Указа плата складзе 24 млн. руб. Такія выдаткі не вытрымае ні адна кнігарня. У выніку многія з іх будуць зачыненыя як стратныя.

— І такім чынам, відавочна, узмоцніцца экспансія кніг замежных выдаўцоў…

— На сённяшні дзень ААТ “Белкніга” рэалізуе кнігі беларускіх выдавецтваў, праводзіць прэзентацыі новых кніг, сустрэчы з айчыннымі і расійскімі аўтарамі. У філіялах нашай сеткі ўсімі магчымымі сродкамі прапагандуецца беларуская кніга, да яе маюць цікавасць нашыя землякі ў замежжы і госці краіны. Акрамя таго, мы забяспечваем камплектаванне публічных бібліятэк і ўстаноў адукацыі. Калі мы страцім дзяржаўныя пазіцыі на кніжным рынку Беларусі, то не зможам падтрымліваць і літаратурную творчасць маладых аўтараў. “Пацерпіць” кніга, якая выпускаецца на беларускай мове. Гэта прывядзе да рэзкага зніжэння продажаў сацыяльна значнай літаратуры, якая датуецца з бюджэту. Кнігарні, каб выжыць у такой сітуацыі, вымушаны будуць павялічваць цэны да ўзроўню сваёй рэнтабельнасці. Тады беларуская кніга насамрэч стане недасягальнай для насельніцтва. А гэта, у сваю чаргу, адаб’ецца на ўзроўні развіцця айчыннай літаратуры, на адносінах да чытання як дзяцей, так і дарослых.

— Дык што ж у планах ААТ “Белкніга”?

— Цяпер наша прадпрыемства знаходзіцца на пачатку новага этапу перспектыў і магчымасцей. Кнігараспаўсюджванне — гэта сфера, дзе не толькі выконваюцца эканамічныя планы, але і фарміруецца самасвядомасць нацыі. Павышэнне ўзроўню культуры і абслугоўвання пакупнікоў, развіццё новых форм узаемадзеяння з партнёрамі, удасканальванне метадаў продажаў — вось далёка не поўны пералік тых задач, якія мы ставім перад сабой. І галоўная наша мэта — прыкласці ўсе намаганні, каб адстаяць права на існаванне кнігагандлёвай сеткі, якая падтрымлівае культурна-гістарычныя традыцыі беларусаў, паколькі такім чынам мы закладваем трывалыя асновы дзяржаўнасці ў будучым.

Гутарыла
Ярына РЫТАМІНСКАЯ

Фота Кастуся Дробава

# Уладзімір Марук

У траскучыя студзеньскія маразы, рэдкія ў апошнія гады для Беларусі, пахаладала і ў нашай нацыянальнай літаратуры. 23 студзеня не стала таленавітага паэта Уладзіміра Марука.



Нарадзіўся Уладзімір Антонавіч у 1954 годзе ў вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Вучыўся ў Гуцянскай пачатковай і Нацкай сярэдняй школах. На жаль, яшчэ ў гады дзяцінства пачаліся ў яго праблемы са здароўем. Урэшце, ён скончыў Моўчадскую санаторную школу-інтэрнат Баранавіцкага раёна. Пасля вучыўся ў Магілёўскім бібліятэчным тэхнікуме. У 1975 годзе атрымаў дыплом філфака БДУ, у сценах якога зарэкамендаваў сябе як адзін з яркіх паэтычных "узлётаўцаў". Працаваў культасветработнікам у Ганцавічах, настаўнічаў, быў карэспандэнтам газеты "Звязда". Творчую працу сумяшчаў з рэдактарствам, працаваў у выдавецтве "Юнацтва", галоўным рэдактарам выдавецтва "Белфакс", намеснікам галоўнага рэдактара тыднёвіка "Літаратура і мастацтва", галоўным рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура", апошнія гады — намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Полымя".

Узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Творчы плён паэта Уладзіміра Марука складаецца з трох паэтычных зборнікаў і дзвюх вершаваных кніжак для дзяцей. Пачынаючы з дэбютнай кніжкі вершаў "Зоркі ў кронах", ён засведчыў пра сябе як пра неардынарнага і таленавітага творцу. І ўжо наступны зборнік "Ліст рабіне" выявіў чытацкай публіцы сталага і майстравітага паэта. Але найбольш уражлівай сталася апошняя прыжыццёвая кніжка яго паэтычнай лірыкі "Інкрустацыя голасам", вершамі якой захапляліся самыя прыдзірлівыя, праніклівыя і прынцыповыя майстры краснага пісьменства. І ўсё ж яго паэзія, як, дарэчы, і сама непублічная постаць аўтара, так і не была своечасова і ўдумна прачытаная, патлумачаная і вызначаная нашай крытыкай. Шмат якія публікацыі Уладзіміра Марука апошніх гадоў даюць падставу для высокага завяршэння яго творчага плёну. Хочацца верыць, кніжку паэзіі, выпакутаваную ім цягам апошняга балючага часу, мы неўзабаве ўбачым. Прачытаем і, нарэшце, аб'ектыўна ацэнім увесь яго мастацкі даробак. А тое, што яго слова не было марным і ўпала не на камень, а на ўрадлівую нацыянальную ніву нашай духоўнасці, сумнявацца не выпадае. Таму і век яго будзе доўжыцца для новых і новых пакаленняў беларусаў.

Уладзімір Антонавіч вельмі любіў сваю бацькаўшчыну — і малую, і Вялікую. Абхадзіў і аб'ездзіў родны край уздоўж і ўпоперак. Аддаў яму цяпло свайго сэрца і ясны жаль сваёй чалавечай душы. Пісаў:

Я з тых, хто не вякуе,
Хто сее і хто жне.
Прашу, пакуль жыву я,
Не дбайце пра мяне.

Прабач нам, Уладзімір Антонавіч, за свой такі кароткі жыццёвы выпрак. Будзем памятаць твае запаветныя словы, у якіх ты выявіўся ўвесь, перафразуючы класіка, якім быў, ёсць і будзеш:

У адвечныя строі
і сёння душу прыбіраю,
Час па кроплі балючай –
як кроў з вастрыя…
Як паклікалі жыць –
дасюль за жыццё не пытаюсь,
Бо гатовы адказ
не ўмяшчае прырода мая.

Пухам табе зямля і вечная памяць.

Саюз пісьменнікаў Беларусі,
калектыў РВУ
"Літаратура і Мастацтва",
калегі, сябры

# Светлая памяць

Зусім нядаўна у дзённікавым запісе я ўзгадаў, як ля труны Алеся Пісьмянкова ўсю ноч разам са мной сядзелі Валодзя Марук, Валодзя Ягоўдзік і Віктар Патапенка. Узгадалася гэта чамусьці ў дзень нараджэння Марука, з якім я яго звыкла павіншаваў 6 студзеня. І не магла мне прыйсці ў галаву жахлівая думка, што праз колькі дзён буду сядзець ля труны самога Антонавіча, як часта называў яго ў сяброўскіх гутарках.

Марука ў маё жыццё прывёў Алесь Пісьмянкоў як аднаго з самых блізкіх яму людзей. З таго часу і ён стаў для мяне родным і дарагім. А пасля смерці Алеся — тым больш. Часта негаваркі (памятаю пісьмянкоўскае "пасядзім-памаўчым з сябруком Маруком"), ён меў невычэрпную ўнутраную сілу суперажываць боль і радасць блізкіх людзей, верыць у харастао і прыгажосць, у сілу роднага слова. Яго любоў да Беларусі, да роднай літаратуры была глыбокай і трывалай. За гэтую любоў ён не патрабаваў ні падзякі, ні высокіх узнагарод, яна была абсалютна бескарыслівай і па-сапраўднаму святой і чыстай.

Выдатны тонкі паэт, ён быў цудоўным рэдактарам. Пры гэтым стараўся не пакрыўдзіць сваімі заўвагамі, а вельмі далікатна, мякка ўказаць на недахопы, дапамагчы выправіць іх.

Я заўсёды верыў яго ацэнкам і ніколі не крыўдзіўся на сяброўскія заўвагі, якіх, праўда, было не так багата.

Няпросты і досыць пакручасты лёс выпаў на долю Марука. З самага дзяцінства і да апошніх дзён. Але ён мужна нёс усё, што выпала на яго долю, і ні разу не чуў я ад яго скаргаў. Як і просьбаў аб дапамозе. Яго маглі пакрыўдзіць, і часам крыўдзілі, але ён не адказваў помстай, злосцю, хоць прынцыпова не любіў прыстасаванцаў, пляткароў, надобразычліўцаў. І думак на гэты конт сваіх не хаваў.

Я любіў з ім ездзіць на прыроду. Гаспадарлівы, акуратны, ён мог на любой лясной палянцы стварыць утульны гасцінны куток, дзе добра маўчалася і светла думалася.

Я вельмі хацеў напісаць пра яго. Каб і ён прачытаў, каб адчуў цеплыню і спагаду, на якія мы не такія шчодрыя, як належала б. А вось цяпер сэрца сціскае ад роспачы, і цяжка адшукаць такія словы, каб яны маглі раскрыць усю глыбіню і шчодрасць Уладзіміра Антонавіча Марука. Але я спадзяюся, што гэтыя словы будуць яшчэ прыходзіць не раз, цяпер ужо як даніна памяці пра сябра, творцу, выдатнага грамадзяніна, сапраўднага беларуса.

Светлая памяць!

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



На здымку: сустрэча палымянцаў з Героем Савецкага Саюза І. І. Куставым (Уладзімір Марук — першы злева).

Фота Кастуся Дробава

# Яго полымя

Сумна і горка…

Не стала Уладзіміра Антонавіча Марука. Раптоўная жорсткая смерць нанесла непапраўную страту. Пайшоў з жыцця сапраўдны Паэт і сапраўдны філолаг, чалавек, які аддаў роднай літаратуры тры дзесяткі гадоў таленавітай напружанай працы.

Працуючы намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", Уладзімір Антонавіч рабіў усё належнае, каб духоўнае святло нашага старэйшага літаратурна-мастацкага выдання зззяла таленавіта-праменна, каб змешчаныя пад палымянскай вокладкай творы вызначаліся таленавітасцю і моўнай дасканаласцю. Удзяляў багата ўвагі як слынным і прызнаным аўтарам, так і маладым пачаткоўцам, каго яшчэ толькі чакае нялёгкая літаратурная дарога. Сам жа, як паэт, Уладзімір Марук дэбютаваў у далёкія семідзесятыя гады мінулага стагоддзя. Выпускнік Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума, заўважаны і падтрыманы слынным Аляксеем Пысіным, змясціў першыя вершаваныя падборкі ў перыядычным рэспубліканскім друку, якія звярнулі на сябе належную ўвагу і чытачоў, і даследчыкаў роднай літаратуры. Неўзабаве стаў студэнтам філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта — уліўся ў звонкагалосы хор пачаткоўцаў-узлётаўцаў, членаў самага адметнага літаратурнага аб'яднання, якім кіраваў незабыўны Алег Антонавіч Лойка і якое выспеліла для роднай літаратуры цэлую плеяду значных літаратурных імёнаў. Не толькі выступаў на паседжаннях з уласнымі вершамі, — быў узлётаўскім старастам, адным з кіраўнікоў гэтага аб'яднання.

Ужо тады праявіліся значныя рэдактарскія здольнасці Уладзіміра Марука. І ў газеце "Звязда", і ў выдавецтвах "Юнацтва" і "Мастацкая літаратура", і ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", і ў часопісе "Полымя" — усюды, дзе 6 ні працаваў — яны, развітыя да дасканаласці, працавалі на аўтарытэт усёй літаратуры, спрыялі яе духоўнаму насычэнню.

Нас звязвала даўняе студэнцкае сяброўства. Тое ўзлётаўскае пачуццё адказнасці перад словам, тая неспатольная прага творчасці, прывітая сапраўднымі майстрамі роднага слова, тое агульнае жаданне — рабіць усё на належным узроўні. Таму ведаю, як нялёгка будзе заўтра без яго, якая ноша падзеліцца на ўсіх і ляжа на нашы плечы. Ён умеў яе несці ў адзіночку, мужна і годна, не зважаючы часам на страчанае з маленства здароўе. Сілы давалі роднае слова і прага творчасці.

У Доме літаратара на сумнае развітанне з Уладзімірам Антонавічам Маруком прыйшлі пісьменнікі і чытачы, прагучалі ўсхваляваныя словы, поўныя болю і смутку. Яго сівенькая матуля Надзея Уладзіміраўна сагрэла пякучымі слязамі дамавіну сына і прахалодны грудок на Калядзішчанскіх могілках… Ад нас адыходзіць Паэт, каб застацца і жыць у слове, якое так любіў і шанаваў, якому аддаў столькі творчай энергіі, што дастаткова, каб успыхнула на небасхіле Бацькаўшчыны прывабная зорка Уладзіміра Марука.

Бывай, дарагі дружа. Мы зробім усё, каб тваё полымя не прыцьмела.

Мікола МЯТЛІЦКІ



На здымку: з сынам Якуба Коласа Міхасём Канстанцінавічам Міцкевічам (Уладзімір Марук — першы злева).

Фота Кастуся Дробава

# Дзякуй за творчасць!

Я быў сведкам таго, як летам 1981 года ў рэдакцыі паэзіі выдавецтва "Мастацкая літаратура" Міхась Стральцоў і Рыгор Барадулін гарталі карэктуру будучай кнігі Уладзіміра Марука "Зоркі ў кронах".

Нейкі верш (на жаль, не магу сказаць які) прымусіў іх ці не адначасова ўсклікнуць:

— Дык гэта ж паэт!

Майстры не памыліліся: сапраўды, Уладзімір Марук — паэт.

А перш за ўсё чалавек, з якім прыемна было сустракацца, размаўляць, нават маўчаць.

Памятаю яго балючае маўчанне, а пасля не менш балючае апавяданне пра смерць Алеся Пісьмянкова.

Уладзімір Марук умеў сябраваць і любіў сваіх сяброў, асабліва Алеся, страта якога — мне здаецца — для яго так і засталася адкрытай ранай…

Дзякуй, Валодзя, за тваю памяркоўнасць!

Дзякуй за творчасць!

Той верш, які спадабаўся Стральцову і Барадуліну, пэўна ж, быў такога ўзроўню, як і гэты твой верш (я перапісаў яго аднойчы ў свой чытацкі блакнот):

Калі каноны пойдуць
на спачын
І застанецца толькі
лёс адзін
Прад спавядальным
светам вечаровым,
Угледжу, як ляцяць між аблачын
Адрынутыя некалі высновы.

Прыціхлым сонцам
голас наталю,
Адгалашу крывёй сваё "люблю",
І перайду апошнюю дарогу,
І самую гаротную зямлю
Вазьму навек сабе за абярогу.

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь смуткуе з прычыны заўчаснай смерці намесніка галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", паэта Уладзіміра МАРУКА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці намесніка галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", паэта Уладзіміра МАРУКА і выказваюць шчырае спачуванне родным і блізкім памерлага.

Калектыў рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" смуткуе з прычыны раптоўнай смерці намесніка галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", паэта Уладзіміра МАРУКА і выказвае свае шчырыя спачуванні родным і блізкім, сябрам заўчасна памерлага калегі.

Радыёстанцыя "Беларусь" Белдзяржтэлерадыёкампаніі глыбока смуткуе з прычыны нечаканай смерці намесніка галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", паэта Уладзіміра МАРУКА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

Саюз пісьменнікаў Беларусі, Мінскае гарадское аддзяленне СПБ і РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказваюць глыбокія спачуванні пісьменніку Васілю Шырко з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

Аксана СПРЫНЧАН

Спраўдзіў мару,
спраўдзіў Марук —
творцы светлыя ёсць
і высокія —
зоркі бачаць у кронах,
і пішуць рабіне лісты,
і нахабствам сваім
людзей не палохаюць...
Земляка берасцейскага
вечнасць на рукі бярэ.
У скаванай марозам зямлі
толькі цела яго заміраe.
Замярзае на снезе сляза,
што не хутка растане...
Пуста, гола, ды ёсць
"Інкрустацыя голасам" —
інкарнацыя ў кнізе...
І трымае рука
вершы з верай у Марука.

Вандраваць па Беларусі — гэта значыць увесь час адкрываць для сябе новае, нязведанае. Аб'ездзіўшы палову Беларусі, я толькі цяпер пачынаю спазнаваць сваю родную Вілейшчыну. Бо здавалася, што куток, які для цябе самы блізкі, заўжды паспееш агледзець. Але гэта не так. Адыходзяць людзі, знікаюць вёскі, разбураюцца помнікі. І калі не занатаваць памяць пра іх, то пасля ўжо ніхто і не ўспомніць, што быў некалі маёнтак Дзевятні, у якім Ігнацы Ходзька неаднойчы прымаў Адама Міцкевіча…



# Адсюль пісалі «Ліст да Феліні»

## Ілья — Вілейка — Заброддзе

Ілья — гэта тыповае беларускае мястэчка. А яшчэ яно нагадвае Ракаў. Прынамсі тым, што Ілья таксама знаходзілася побач з польска-савецкай мяжой. Калі праязджаю праз мястэчка, то ўзгадваю словы з песні Касі Камоцкай "Кантрабандыст".

А ў кантрабандыста —
блакітныя вочы.
Ён працуе штоночы,
робіць цёмную справу.
Парушаючы правы
і закон крымінальны
Праз граніцу цягае
кантрабандны тавар.

Зразумела, што тут заўжды былі кантрабандысты. Але так працягвалася да 1939 года, калі мястэчка разам з усім Вілейскім паветам далучылі да БССР. А ў 1954 годзе быў утвораны нават асобны Ільянскі раён. Але пасля яго рэарганізавалі ў сельсавет. З такім статусам населены пункт вярнуўся ў склад Вілейскага раёна.

У Ілы некалькі гадоў таму здымалі фільм "Ліст да Феліні" па сцэнарыі Георгія Марчука. Хаця пляцоўку для фільма і выбралі зусім выпадкова. Калі рэжысёр Дзмітрый Зайцаў ехаў праз Ілью, каб яшчэ раз паглядзець на выбраную здымачную пляцоўку ў Паставах, то так натхніўся своеасаблівым духам мястэчка, што вырашыў працаваць у Ілі. І ні разу не пашкадаваў. Прэм'ера кінакарціны адбылася ў верасні 2006 года ў Мінску. У фільме распавядаецца пра кінамеханіка Тараса, які пасля шматлікіх высілкаў здолеў перадаць сваім аднавяскоўцам любоў да кінамастацтва.

Лёс мястэчка звязаны з імёнамі многіх пісьменнікаў. Іван Лаштука, Алесь Салавей, Уладзімір Папковіч, Янка Брыль, Мікола Кутас… Падрабязней пра літаратурныя сувязі не толькі мястэчка, але і ўсяго Вілейскага раёна, можна даведацца ў літаратурным музеі ў мясцовай школе. Апякуецца ім Роза Шэрая. Пазайздросціць яе руплівасці могуць музейшчыкі з раённых і нават абласных цэнтраў. Яшчэ ў школе ёсць краязнаўчы музей. Яго стварыў Уладзімір Кажамяка. Не ў кожным горадзе і сёння маецца музей. А тут — аж два. Вялікая заслуга ў тым, безумоўна, і дырэктара школы Ігара Юшко.

Што да матэрыяльнай спадчыны, то ў Ілы знаходзіцца касцёл найсвяцейшага сэрца Езуса (1908), царква св. прарока Ільі (1920-я), старая мястэчковая забудова.

## Вілляна — помнік рацэ

На шляху з Ілы да Вілейкі вы зможаце захапіцца самым вялікім у краіне штучным вадаёмам — Вілейскім вадасховішчам. Зразумела, зімой не ўбачыце як хвалі, нехай сабе і не марскія, налятаюць на бераг. Не ўбачыце і як удалечыні роўнядзь вады зліваецца з небам, утвараючы суцэльную лінію гарызонту. Затое толькі зімой вы можаце ўбачыць вялізнае белае покрыва, што распасцерлася на вялізную плошчу. На якім дзе-нідзе заўважныя чорныя кропкі — гэта рыбакі.

Вілейка не багатая на архітэктурныя помнікі. Тут няма замка ці хаця б руінаў. Захаваліся асобныя аб'екты забудовы XIX і пачатку XX стагоддзяў. Самы стары будынак — гэта праваслаўная царква святой прападобнай Марыі Егіпецкай. Асвечана яна была ў 1865 годзе ў гонар рускіх салдат, што загінулі ў час паўстання. Пасля падаўлення паўстання 1863 года царская палітыка была скіравана на выкараненне каталіцтва ў краі, што і выклікала масавую пабудову праваслаўных храмаў. Яшчэ адзін храм у гонар св. Ціхана быў пабудаваны ў наш час.

Тым не менш, калі размова заходзіць пра Вілейку, усе ведаюць пра Крыжаўзвіжанскі касцёл – узор неаготыкі. Калі знаходзіцца ўнутры, то сёння ўжо цяжка і ўявіць, што некалі тут размяшчаўся склад. Праз тры гады храм будзе адзначаць сваё стагоддзе.

У будынку краязнаўчага музея раней месцілася пажарная ахова. У 1907 годзе паўстаў чыгуначны вакзал. Ён застаўся амаль у некранутым стане.

Вілейка да 1939 года знаходзілася ў складзе Польшчы. З тых часоў захаваліся і свае памяткі. На гарадскіх могілках знаходзіцца вялікае пахаванне польскіх жаўнераў. Надпіс на помніку сведчыць, што тут палеглі "абаронцы" межаў Польшчы ў вайне 1919—1920 гадоў. Ужо пазней, калі ў Заходнюю Беларусь вярнуліся саветы, на магілках хавалі ахвяр рэпрэсій.

Што да польскага перыяду, то ў Вілейцы цяпер захоўваецца камень памяці Юзафа Пілсудскага. Камень стаяў каля адной з вёсак. У горад яго перавезлі краязнаўцы. Тады разгарэўся скандал. Польскія дыпламаты хацелі той камень паставіць на тэрыторыі пасольства ў Мінску. Але там на помнік змаглі б паглядзець толькі адзінкі. А ў Вілейцы ён знаходзіцца на тэрыторыі раённых электрычных сетак, куды ў любы час можна зайсці ды паглядзець на сведку мінуўшчыны.

Што да помнікаў сучасных, то і яны ёсць у горадзе. Найперш варта адзначыць памятны камень, які паўстаў ля ўваходу ў парк у 2007 годзе. Менавіта тады адзначалася 150-годдзе экспедыцыі графа Канстанціна Тышкевіча па Віліі. У 1857 годзе граф прайшоў водным шляхам па Беларусі і Літве, пасля чаго напісаў кнігу. Юбілейныя даты беларусы сумесна з літоўцамі адзначылі месячнай экспедыцыяй па Віліі. Крыху пазней на гэтым камяні з'явіўся помнік самой рацэ. "Вілляна" — так называецца скульптура, якую вырабіў ураджэнец раёна Уладзімір Слабодчыкаў.

## Наведаць парк Перамогі

Недалёка ад Вілейкі знаходзіцца в. Заброддзе. Тут мастак Барыс Цітовіч разам з сям'ёй і аднадумцамі стварыў музей Першай сусветнай вайны. Калі наведваеш гэты куток, то здзіўляешся чалавечай настойлівасці і працавітасці. Бо стварыць тое, што ўжо ёсць у Заброддзі, справа не з лёгкіх. Тут ёсць парк Перамогі, пасаджаны франтавікамі. Ёсць дрэвы пісьменнікаў-ветэранаў Васіля Быкава і Алеся Адамовіча. Будуецца капліца ў гонар свсв. Барыса і Глеба. Прадстаўлена невялікая экспазіцыя з "аўтадзядоў". Адметнасцю з'яўляецца макет англійскага самалёта "Сопвіч", які выкарыстоўваўся ў Першую сусветную вайну.

На арыентаванасць Цітовіча ў стварэнні музея паўплывала багатая ваенная гісторыя Вілейшчыны. А яшчэ побач з самой вёскай, у лесе, знаходзіцца пахаванне салдат царскай арміі. Пахаванне ўпарадкавана. І штогод сюды прыязджаюць людзі разам са святаром, каб аддаць даніну памяці палеглым жаўнерам.

У 1998 годзе ў вёсцы Бараўцы (недалёка ад Заброддзя) намаганнямі мастака да 80-годдзя заканчэння Першай сусветнай вайны была ўзведзена каплічка. Крыху пазней у недалёкім Рускім Сяле былі пастаўлены помнік на магілках, дзе пахаваны салдаты 20-га армейскага корпуса 2-й рускай арміі. Гэтыя аб'екты таксама з'яўляюцца часткай музея, што ствараецца. А калі тэма імперыялістычнай вайны вас надта зацікавіць, то раю наведаць суседні Смаргонскі раён, дзе захавалася шмат дотаў з тых часоў.

Сяргей МАКАРЭВІЧ



На здымках: Вілейскі Крыжаўзвіжанскі касцёл; помнік Вілляне; вайсковае пахаванне побач з в. Заброддзе.

Фота аўтара

## У наступным нумары



З 10 па 14 лютага ў Нацыянальным выставачным цэнтры «БелЭКСПА» будзе праходзіць XVII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш.

Форум, ганаровым госцем якога будзе Францыя, прадоўжыцца пяць дзён, падчас якіх наведвальнікі пазнаёмяцца з навінкамі кнігадрукавання, завядуць дзелавыя знаёмствы. Летась кірмаш наведалі каля 40 тысяч жыхароў і гасцей беларускай сталіцы, сваю прадукцыю экспанавалі прадстаўнікі 20 краін свету. "ЛіМ" рыхтуе да Мінскага кніжнага форуму выпуск, на старонках якога вы ўбачыце пераклады на беларускую мову твораў сучаснай французскай літаратуры, прачытаеце пра навінкі кнігавыдаўцоў і прэзентацыі, якія адбудуцца ў выставачным цэнтры "БелЭКСПА".

## З глыбінкі

# Першы крок у творчасць

На Кобрыншчыне жыве шмат таленавітых дзяцей, якія ў школьныя гады спрабуюць складаць вершы. І трэба сказаць, што іхняя спроба пяра — першы крок у творчасць — атрымліваецца ўпэўненай і добрай. Пра гэта сведчыць выданне зборніка вершаў школьнікаў Кобрынскага раёна "Белыя ветразі крылаў".

Нядаўна адбылася прэзентацыя кнігі, якая сталася прыемным сюрпрызам для малады паэтаў. Больш як сто вучняў бралі ўдзел у раённым паэтычным конкурсе "Дэбют", але ў фінал выйшлі толькі 30 з іх — менавіта вершы гэтых дзяцей і ўвайшлі ў выдадзены зборнік. Конкурс праводзіўся па трох намінацыях: "Зямля бацькоў, зямля святая, Беларусь мая!", "Кобрыншчыне роднай вершы прысвячаю", "Мы рождены для вдохновенья".

На фестывалі-прэзентацыі загадчыца вучэбна-метадычнага кабінета ўпраўлення адукацыі Кобрынскага райвыканкама Таццяна Петрукович уручыла фіналістам дыпломы. А яшчэ маладыя паэты парадавалі ўсіх прысутных чытаннем сваіх вершаў. Засталося толькі пералічыць тых, хто заняў першыя месцы. Гэта вучні 7 — 11 класаў кобрынскіх сярэднеадукацыйных школ — Анастасія Галаўніцкая, Арцём Бехцер, Юлія Букач, Аляксандр Сергіевіч, Людміла Мікіцюк, Дзіяна Шаблінская.

Раённы паэтычны конкурс "Дэбют" і выданне зборніка па яго выніках — упершыню на Кобрыншчыне. Мяркуецца, што распачатае стане штогодняй традыцыяй.

Наталля КАНДРАШУК




Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ







Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3349
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 28.01.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 362
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


ISSN 0024-6686